№30 (963) 7 снежня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# ІМЁНЫ 2016

**Кацярына Сінюк**

**Чалавек года — 2016 па версіі «НН»**

**«Трушчыцца зерне — і будзе мукой»**

Кіслы
Дашкевіч
Ганчароў
Вольскі
Пальчыс
Кім
Домрачава
Канапацкая
Анісім
Шарамет
Чыж
Япрынцаў
Горват
MSQRD
Неўгень
Ганчар
Зацяпякін
Давыдзька
Ананім

Старонка 3.

## Пра героЯў і пакутнікаў

Старонкі 18—22.

Сяргей Гудзілін

## Ад рэдакцыі

Гэты нумар «НН» апошні за год. Здавалася б, толькі ўчора год пачынаўся, а пара падводзіць вынікі.

Што памянялася? Чым год запомніцца? Што мы зрабілі вартага за гэтыя 12 месяцаў?

У нашым беларускім свеце — з'явіліся грошы без двух нулёў.

У прыродзе — жнівень і верасень 2016 года былі ў Беларусі вельмі сухімі, таму выдатна ўрадзіла бульба, даўно такіх ураджаяў не было. А вось кастрычнік быў халодны і выключна мокры: больш за двайную норму ападкаў уліло.

На планеце былі, як і кожны год, палітычныя баталіі, войны. А між тым навукоўцы распрацавалі наватарскую новую тэхналогію, якая можа рэдагаваць ДНК. Гэта абяцае рэвалюцыю ў медыцыне. Але гэта не зменіць жалезнага закона прыроды: усё, што нараджаецца, калісьці памірае. Усё жывое дае новае жыццё, фізічнае ці духоўнае. Не толькі гены — любоў, міласэрнасць перадаецца ад чалавека да чалавека, часам зусім незвычайным чынам. І нянавісці, крыўды насенне мы сеем свядома ці несвядома. Таму асцерагаймася раніць.

Па традыцыі, у апошнім нумары мы вызначаем асобаў года. Гэтым разам галоўнай асобай года мы назвалі чалавека, у якім спалучыліся міласэрнасць і здольнасць скарыстоўваць найноўшыя тэхналогіі для яе памнажэння. А сярод асобаў года ёсць як таленты, так і неабыякавыя. Ніякія раўнадушныя машыны не заменяць неабыякавасць душы — старонкі 3—5.

А на старонках 6—7 вы прачытаеце пра абсалютную дзікасць — бацюшку са свастыкай.

Вялікая ж гістарычная тэма гэтага нумара — на старонках 18—22, рэальная гісторыя Міхала Вітушкі.

Што ж, толькі праўда з'яўляецца цікавай.

**Наступны нумар месячніка «Наша Ніва» выйдзе 11 студзеня.**

# Пяць фактаў пра в.а. кіраўніка Адміністрацыі Валерыя Міцкевіча

Аляксандр Лукашэнка 5 снежня звольніў кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта. У адстаўку былі адпраўленыя Аляксандр Косінец і яго першы намеснік Канстанцін Мартынецкі. В.а. кіраўніка Адміністрацыі прызначаны юрыст Валерый Міцкевіч.



### Нарадзіўся і вырас у Лідзе

Нарадзіўся Валерый Вацлававіч Міцкевіч у 1964 годзе ў Лідзе. Дзяцінства прайшло на вуліцы Рэвалюцыйнай, у 2013 годзе яе перайменавалі ў бульвар Князя Гедыміна. Да Лідскага замка было зусім рукой падаць, усяго нейкіх пяць хвілін няспешнай хады.

Хлопец хадзіў у блізкую ад дому сярэднюю школу №11. Дырэктарамі навучальнай установы пры ім былі Аркадзь Мазоўка і Тадэвуш Андрукевіч. Адметна, што пішуць, нібыта гэта самую школу скончыў цяперашні кіраўнік спраў прэзідэнта, а таксама былы кіраўнік Адміністрацыі Віктар Шэйман. Але гэта не так: Шэйман вучыўся ў Тракелях Воранаўскага раёна. Настаўніцай матэматыкі ў яго была Вольга Яўгенаўна Качан, якая пасля перайшла ў школу №11 Ліды. Яна вельмі ганарылася сваім выпускніком.

Цікава, што ў Адміністрацыі прэзідэнта працаваў яшчэ адзін выхадзец з СШ №11 Ліды — Мікалай Быстрыцкі, які прайшоў праз афганскую вайну. Яны з Міцкевічам акурат аднагодкі.

### Суддзя Мінскага раёна

Па сканчэнні школы ў родныя мясціны Валерый Міцкевіч так і не вярнуўся. У 25 гадоў ён скончыў юрыдычны факультэт БДУ. Чаму так позна? Бо акурат у той час студэнтаў прызывалі на службу ў войска. Відаць, Міцкевіч якраз аддаваў доўг Радзіме. Яго размеркавалі стажорам суддзі ў Заслаўе Мінскага раёна. Ад 1991 года, першага года незалежнасці, да 2001 Валерый Міцкевіч з'яўляўся суддзёй Мінскага раёна і Заслаўя.

У той час з ім нярэдка перасякаўся вядомы праваабаронца Гары Паганяйла. «Міцкевіч — гэта юрыст высокага класа, добры прафесіянал і, па-мойму, прытрымліваецца цалкам дэмакратычных поглядаў. Мне здаецца, што з Міцкевічам можна мець справы», — казаў пра яго спадар Паганяйла.

### Прызначэнец пры Макею

Нейкі час Валерый Міцкевіч папрацаваў намеснікам міністра юстыцыі, а таксама членам ЦВК. Гэта акурат прыпала на час правядзення рэферэндуму па зняцці абмежаванняў тэрмінаў на знаходжанне на пасадзе прэзідэнта, а таксама парламенцкіх выбараў 2004 года. Пасля гэтага сышоў працаваць дырэктарам у Нацыянальным цэнтры законапраектнай дзейнасці пры прэзідэнце.

У Адміністрацыі прэзідэнта Валерый Міцкевіч, можна сказаць, ужо доўгажыхар. Ён быў прызначаны ў 2009 годзе. Гэта акурат пачатак там працы Уладзіміра Макея. Першыя спробы наладжвання адносін з Захадам і ўнутранай адлігі.

У Адміністрацыі там Міцкевіч займаўся дастаткова вузкай юрыдычнай сферай.




**Які бацька, такі сын? Сын новага в.а. кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта — просты хлопец, модны і адкрыты, які зарабляе на жыццё не на блатной пасадзе, а звычайнымі для юнака работамі, напрыклад бармена.**

### Сын — бармен і музыкант

Жонку Валерыя Міцкевіча завуць Святлана, у сям'і двое сыноў. Старэйшы — Ягор — скончыў таксама юрыдычны факультэт БДУ, але не пайшоў па слядах бацькі.

У 2010 годзе Ягора Міцкевіча нават прызналі «Містарам юрфака». У кароткай анкеце было шмат цікавых пытанняў. Напрыклад, Еўропа ці Амерыка? «Еўропа — гэта эстэтыка і культурная разнастайнасць. ЗША — гэта свабода. Так што і тое, і тое, бадай». Аўтобус ці трамвай? «Трамвай — у ім ёсць пэўная доля рамантыкі».

Цікава, што Ягор працуе... барменам. Ён працаваў у такіх мінскіх установах, як Malt&Hops Pub і Cafe Feelini.

Таксама ён з'яўляецца вакалістам у гурце Dead Stars Avenue, спяваюць хлопцы па-англійску.

У каментары для «Нашай Нівы» Ягор Міцкевіч сказаў, што гэта хобі, якое не прыносіць прыбытку.

У сацыяльных сетках Ягор Міцкевіч падпісаны на такія суполкі, як «Спосабы падарожнічаць амаль задарма», іранічную суполку «Тыповая ДНР», «Будзьма беларусамі» і іншыя.

**Зміцер Панкавец, Уладзіслаў Швядовіч**

## Дзякуй чытачам-мецэнатам

Вельмі дзякуем чытачам Андрэю К., «Сакрэту», Аляксандру, П.В. Качму і N.M.J. Дзякуем таксама чытачам Дз.У. Яцк-чу, Н. А. Гр-му, Inhvar, А.В. Б-ка, Bek-ch, І.У. Б-му, Макс-віч, Антону Ш., Сяргею Л., Р.Л. Пат-чуку, Андрэю Н., DK, Яўгену Ч., Віталю К., С.І. Ш-ла, Kent, Т.В.С-кай, Андрэю К-скаму, Надзеі, Уладзю А., Аляксею, Бек-чу, Сяргею Ш., MrDDS777, Аськаму, С.Ка-нку, Д.Бе-ш, В.Ла-ку, Андрэю К., СВГЦ, Віктару Віктаравічу, Маўчуну, Міколу, Антосю, А.Астраму, С.Са-ну, А.Каржа-му, Т.М.Ю-й, ЮЮ, Dzimu, Ягору Ж-ву, А.Т.П-ку, ІП, Е.А. Кр-к, Вячаславу К., «За Бур-на», Аўстрыяку, Belriotu, Андрэю В-чу, Марку, «Усяго дабрага!», Я.А. Бар-ч, Т-га, Uladzimiru, П.Н., Я.А. Бар-ч, А.В. Дар-му, Т-га, Uladzimiru, П.Н., Мінчаніну, Паўлу П., Н.А. Гр-му, Н.Т. Лят-ч, Аляксандру М-ву за фінансавую падтрымку праз сістэму АРІП.

## Чаго толькі не здарыцца

### Жонка мужчыны, уджаленага скарпіёнам, прыйшла ў «Еўраопт» і вылавіла членістаногае

Інцыдэнт, нагадаем, адбыўся 30 лістапада. Мужчыну, які выбіраў бананы ў краме, у палец уджаліў скарпіён.

Пацярпелага шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне гарадской бальніцы. Стан мужчыны быў стабільным, у той жа дзень яго перавялі ў іншае аддзяленне і неўзабаве выпісалі з бальніцы.

Цікава, што злавіць скарпіёна дапамагла жонка пацярпелага, якая вярнулася ў краму пасля інцыдэнту. Гэта быў скарпіён слабаатрутнага віду.

## Самае чытанае на nn.by за лістапад 2016

1. Расследаванне: як «бацюшка са свастыкай» распараджаўся бюджэтнымі мільярдамі
2. Міліцыя просіць парады: што рабіць з дзяўчынай, якая зрабіла эратычнае ФОТА на плошчы Перамогі?
3. «Забярыце нас, як Крым» — як прайшоў выступ Уладзіміра Салаўёва
4. Затрыманы «бацюшка са свастыкай» Канстанцін Бурыкін
5. Што азначае перамога Трампа для свету і Беларусі — 6 пунктаў
6. Расійскі Першы канал прысвяціў ток-шоу падручніку гісторыі Трусава. Ад Беларусі былі Кібальчыч і Стужынская ВІДЭА
7. Група моладзі сарвала адкрыццё помніка Леніну каля МТЗ ФОТА, ВІДЭА
8. Топ-10 перлаў Аляксандра Лукашэнкі з прэс-канферэнцыі для расійскіх СМІ
9. Першая лэдзі ЗША — Меланія Трамп ГЛЯДЗІЦЕ
10. Прызыўнік прыехаў у Мінск скардзіцца Лукашэнку, калі яго маці-даярцы за месяц заплацілі 82 рублі, з іх частку — кансервамі
11. Сям'я з Мінска пераехала ў вёску каля Докшыц. І ўцякла назад, бо начальства стала правяраць умовы жыцця
12. П'яны начальнік баранавіцкай ДАІ насмерць збіў жанчыну
13. Дзяўчына, якая скарыла мінскую міліцыю, здымалася ў кліпе Ляпіса Трубяцкога «Воіны святла» ФОТЫ

# Чалавек 2016 года Кацярына Сінюк

**Чалавекам 2016 года «Наша Ніва» назвала Кацярыну Сінюк — стваральніцу інтэрнэт-партала Imenamag, на якім збіраюць грошы для людзей у патрэбе, інвалідаў, дзяцей-сірот.**

Кацярына і яе партал раскрылі каласальны патэнцыял салідарнасці і спагады ў беларускім грамадстве.

Дзякуючы ёй — і яе ўменню выкарыстоўваць новыя камп'ютарныя тэхналогіі — дзясяткі тысяч людзей пабачылі, як шмат вакол ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ. Яна паказала, што быць добрым — паранейшаму прэстыжна. Дапамагаць слабым — модна. А ўдалося ёй тое зрабіць, бо яна прапанавала людзям спосаб, як ЛЁГКА І ХУТКА дапамагчы.

Але ў выпадку Сінюк важна і іншае. Яна не проста дапамагае канкрэтным людзям. Яна дапамагае тым, хто, у сваю чаргу, дапамагае пасля дзясяткам іншых. Напрыклад, яна сабрала грошай для інваліда, які навучае іншых інвалідаў працаваць на камп'ютары — і не проста працаваць, а зарабляць на камп'ютары.

Сінюк таксама паказвае, як многа могуць зрабіць людзі без дапамогі дзяржавы, самі, для сябе і для іншых.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Краўдфандынг**

збор грошай людзьмі праз інтэрнэт на сацыяльна ці культуртна значныя праекты. Ад англійскіх слоў «фандынг» — фінансаванне і «краўд» — натоўпам. Найбольшыя сайты для такога збору грошай у Беларусі — Talaka.by і Ulej.by. «Талаку» стварыў энтузіяст Яўген Клішэвіч, а «Улей» — Эдуард Бабарыка, дарэчы, сын кіраўніка «Белгазпрамбанка».

З Кацярынай, стваральніцай часопіса «Імёны», мы сустракаемся ў бізнэс-цэнтры, дзе месціцца прасторны сучасны офіс рэдакцыі. Праект існуе ўжо восем месяцаў, але радаснай навіной, што ў часопіса нарэшце ёсць офіс, Кацярына падзялілася толькі пры канцы кастрычніка. Прытуліў «Імёны» заснавальнік адной з IT-кампаній.

Без спонсарскай падтрымкі бізнэсу і простых людзей «Імён» быць не магло. Адміністраванне сайта, хостынг, дызайн, бухгалтарскае і юрыдычнае суправаджэнне, арэнда офіса, рэклама — усё гэта робяць іншыя людзі, нябачная частка каманды. Заробкі і ганарары выплачваюцца з грошай, сабраных праз краўдфандынг — адмысловую анлайн-пляцоўку, праз якую любы чалавек можа хутка і проста перавесці грошы, каб падтрымаць чыюсьці ініцыятыву ці праект.

«Імёны» бачаць сябе паўнавартасным грамадскім СМІ. Камандзе ўдалося сабраць больш за 40 тысяч рублёў на паўгадавую дзейнасць рэдакцыі і больш за 128 тысяч рублёў — на дапамогу 11 праектам. Чатыры з іх завершаныя цалкам, на сем іншых збор сродкаў працягваецца. Грошы, якія адпраўляюць адрасна, на дапамогу канкрэтным людзям, яны ўжо даўно перасталі лічыць. Усё ж праект скіраваны найперш на падтрымку сістэмных сацыяльных праектаў, а не адрасную дапамогу.

«Імёны» расказваюць пра тых, каму сёння патрэбная дапамога, і даюць чытачам інструменты, як можна паўплываць на праблемы. Нядаўна часопіс паказаў дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця мінскага дома-інтэрната. Праз няправільнае харчаванне яны важылі ненатуральна мала: 13-гадовы Вадзім — 13,8 кілаграма, 19-гадовы Мікіта — 13,8 кілаграма, 27-гадовы Арцём — 17,5 кілаграма. Прыкладна 50 дзяцей інтэрната мелі патрэбу ў спецыяльным энтэральным харчаванні, дзякуючы якому яны б маглі набраць вагу. «Імёны» актывізавалі збор сродкаў і патрэбную суму, 62 960 рублёў, сабралі ў рэкордна кароткія тэрміны. Палова была на рахунку ўжо ў першыя суткі пасля публікацыі, але грошы працягвалі актыўна паступаць і наступныя некалькі тыдняў. У выніку сабралі нават больш, чым планавалі, — 67 987 рублёў.

Часопіс бярэцца за самыя розныя сацыяльныя праблемы, вось толькі некаторыя загалоўкі: «Як выжываюць людзі, якім дзяржава адмовіла ў пенсіі», «Гэта адбываецца за зачыненымі дзвярыма з сотнямі тысяч беларусак. Шчыры фільм пра хатні гвалт у Беларусі», «18 гадоў на заводзе, заробак — 62 рублі. Гісторыя невідушчага мужчыны, які нясе людзям святло», «На асаблівым кантролі. Мінчане з інваліднасцю 10 гадоў даказваюць дзяржаве, што маюць права быць бацькамі», «Тайнае жыццё Анісы. Як супрацоўніца банка з Мінска лечыць бяздомных жывёл на закінутым заводзе», «Як хлопец з паралізаванымі рукамі і нагамі зарабляе на жыццё»...

**Працяг на старонцы 12.**

# Пасля артыкула «Імён» пра стан дзяцей у інтэрнатах пракуратура пачала праверку, а людзі сабралі $35 тысяч

Кажуць, шакуючыя фоты гэтых дыстрафічных дзяцей паклалі на стол Аляксандра Лукашэнкі.

Іх кормяць як звычайна. Але характар іх неўралагічных захворванняў такі, што звычайнае харчаванне, дастатковае звычайнаму чалавеку, не засвойваецца.

Усе махнулі рукой на горкую долю гэтых малых, як на непазбежнасць. Але знайшоўся доктар, педыятр Аляксей Моматаў.

Моматаў даказвае: калі перавесці гэтых дзяцей на энтэральнае, даражэйшае харчаванне, іх пакуты зменшацца, яны пражывуць даўжэй. Яму тое падказаў «адзін аўстрыйскі лекар, які, паглядзеўшы на дзяцей, найбольш дакладна і выразна растлумачыў, што з імі адбываецца. «Была тады ў нас Ленка, худая, білася галавой аб стол і аб сцены. У яе нават былі сінякі. Дык вось калі мы пачалі даваць ёй гэта харчаванне, яна супакоілася. Выходзіць, яна галодная была... А тут ёй проста сталі даваць тое, што было патрэбна. На той момант ёй было сем ці восем гадоў. Памерла Ленка ў мінулым годзе. У яе былі праблемы са страўнікава-кішачным трактам», — расказвае Моматаў.

Матэрыял «Імёнаў» з апавяданнем чулага сэрцам доктара Моматава выклікаў нечуваны розгалас.

«Імёны» разам з краўдфандынгавай платформай «Талака» пачалі збіраць грошы на арганізацыю энтэральнага харчавання для жыхароў інтэрната — дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Людзі назбіралі грошай больш як на год.

Ёсць і іншая рэакцыя.

Праверкі з сілавых структур прыйшлі і да дактароў, і ў дзевяць інтэрнатаў Беларусі, дзе жывуць дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

У неафіцыйнай гутарцы пракуроры выказалі падзяку «Імёнам» і людзям за дапамогу і ўдзел у вырашэнні сур'ёзнай сацыяльнай праблемы.

**Працяг на старонцы 4.**


АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ/ІМЁНЫ

# Асобы года

2016 атрымаўся багаты на падзеі і асобы. «Наша Ніва» ўзгадвае найбольш яркія моманты года ў традыцыйнай падборцы.

**Палітык года — Зміцер Дашкевіч**

«Палітыкай» у Старадаўняй Грэцыі называлі ўдзел у справах грамады, горада. «Удзел у справах» — тым больш каштоўныя людзі, якія ўдзельнічаюць у іх актыўна, яны на даюць развіцца застойным з'явам.

У лідара «Маладога фронту» Зміцера Дашкевіча пасля нараджэння другога дзіцяці нібы адкрылася і другое дыханне. Дашкевіч даказвае, што і адзін у полі воін. Намаганнямі маладафронтаўцаў на вуліцах беларускіх гарадоў было сабрана 10 тысяч подпісаў у падтрымку надання бел-чырвона-беламу сцягу статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці. Ён пратэставаў супраць прыезду Салаўёва **(старонка 8)**. А быў яшчэ яркі перформанс у Веткаўскім раёне. Дашкевіча каралі штрафамі, але жаданне выходзіць на вуліцы не адбілі. Без Дашкевіча гэты год быў бы нашмат бяднейшым на падзеі. Пры гэтым Дашкевіч працягваў паспяхова займацца бізнэсам — вырабляў мэблю.


Зміцер Дашкевіч.

**Музыка года — Лявон Вольскі**

У сакавіку ў 40 гадоў ад анкалагічнай хваробы памерла яго жонка і прадзюсарка Ганна Вольская. Але такое страшнае здарэнне не зламала Лявона. Год запомніўся тым, што Вольскі даў вялізную колькасць падпольных канцэртаў. Навіны пра выступы перадаваліся не праз афішы і фэйсбук, а з вуснаў у вусны. Было нават надзвычай паказальнае відэа, як модная зорка сучаснасці Макс Корж, бадзяючыся па горадзе, выпадкова праз вокны ўбачыў, як Вольскі выконвае «Простыя рэчы». І Корж падпяваў Вольскаму!

Апафеозам стаў канцэрт пад адкрытым небам у Сухараве, куды прыйшло больш за 2000 чалавек.

Пры канцы года з'явіўся альбом «Псіхасаматыка», які многія называюць адным з найлепшых у дыскаграфіі Лявона.

**Блогер года — Эдуард Пальчыс**

Эдуард Пальчыс заводзіў свой сайт 1863x.com як адказ на інфармацыйныя атакі з Расіі. На ягоную думку, дзяржаўныя СМІ не давалі рады гэтай задачы. Ён нават не думаў, што ўдасца зрабіць папулярны рэсурс, рабіў яго ў адзіночку, шыфруючыся пад псеўданімам Джон Сільвер. Аднак блог пачаў набіраць чытачоў, стаўся заўважнай з'явай.

Пальчыса высачылі, яго змяшчалі ў вар'ятню. Пасля гэтага блогер з'ехаў на Украіну, аднак пабачыў, што не можа жыць на чужыне. Пальчыс вяртаўся праз Расію, каб у Беларусі перад арыштам пабачыцца са сваякамі, у Бранску яго затрымалі.

Хлопец доўга дабіваўся экстрадыцыі ў Беларусь. Суд быў закрытым, судзілі Пальчыса за распальванне міжнацыянальнай варажнечы, хоць праваабаронцы назвалі гэтае абвінавачванне штучным.

Прысуд аказаўся мяккі, Эдуард выйшаў на волю. Ён не кінуў весці блог.


Эдуард Пальчыс.

**Грамадскі актывіст года — Андрэй Кім**

Дзяржава не дбае пра тое, каб замежныя фільмы выходзілі па-беларуску. У такіх выпадках справу ў свае рукі бяруць грамадскія ініцыятывы.

Дзякуючы «Кінаконгу» Андрэя Кіма медзведзяня Падынгтан, Бенедыкт Камбэрбэтч і многія іншыя загаварылі па-беларуску. Спачатку сеансы былі дармавыя. Пасля «Кінаконг» дамовіўся з кінатэатрам на платныя паказы.

Народ не хоча глядзець кіно па-беларуску? Ага, шукалі, дзе б знайсці лішні квіточак!

Поспех быў ашаламляльны. Чакаем працягу ў 2017-м.


Андрэй Кім.

**Спартовец года — Уладзіслаў Ганчароў**

Адзіны залаты медаль для Беларусі на Алімпіядзе ў Рыа здабыў віцьбіч Уладзіслаў Ганчароў у такім прыгожым відзе спорту, як скачкі на батуце.


Ганна Канапацкая.

# Пасля артыкула «Імён» пра стан дзяцей у інтэрнатах пракуратура пачала праверку, а людзі сабралі $35 тысяч

Працяг са старонкі 3.

— Я такога ў Беларусі яшчэ не бачыў! — сказаў адзін з пракурораў. — Дзякуй.

Пракуроры высвятляюць, чым кормяць дзяцей і як размяркоўваюцца сродкі дзяржбюджэту.

Што будзе з сабранымі грашыма? Усе грошы цяпер знаходзяцца на пазабюджэтным рахунку інтэрната. Доктар Аляксей Моматаў распавёў «Імёнам», што, дзякуючы сабраным сродкам, пачалі закупляць энтэральнае харчаванне. Першая партыя ўжо закуплена, прыехала ў інтэрнат і па прызначэнні медыкаў ідзе дзецям.


АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ/ІМЁНЫ

Педыятр Аляксей Моматаў.


АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ/ІМЁНЫ

Дзецям трэба асаблівае харчаванне, інакш гэтыя няшчасныя гаснуць хутчэй, даказвае доктар Моматаў.


АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ/ІМЁНЫ

У сталоўцы інтэрната.

Частка харчавання — асобна ад сумы, сабранай людзьмі, — закуплена за бюджэт горада.

Колькім дзецям трэба гэта харчаванне? Адразу пасля выхаду артыкула Камітэт сацыяльнай абароны, які курыруе гэты інтэрнат, агучыў, што дзяцей, якія маюць патрэбу ў энтэральным харчаванні, — 15, а не 50, як заявіў у інтэрв'ю «Імёнам» доктар Аляксей Моматаў. Медыкі інтэрната так і не змаглі зразумець, чаму сацабарона агучвае такую лічбу. На мінулым і на гэтым тыдні дзяцей абследавалі спецыялісты з камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама і Міністэрства аховы здароўя, і высновы медыкаў былі іншымі.

— Вызначылі, што такое харчаванне цяпер трэба 49 дзецям: камусьці — цалкам, камусьці — курсамі, — распавяла «Імёнам» другая доктарка інтэрната Марына Федарэнчык.

Марына Леанідаўна цяпер выконвае абавязкі дырэктара інтэрната, бо на днях папярэдняга дырэктара Валерыя Сіўцова звольнілі. Прычыны звальнення пакуль не агучваюцца.

Сяргей Гезгала



Уладзіслаў Ганчароў.

Reuters

Нават калі проста глядзіш на гэтага светлага хлопца, то радуешся. Гэткі сціплы і абаяльны чэмпіён. Дарэчы, Ганчароў у нядаўнім інтэрв'ю сказаў, што яму падабаецца стрыманы беларускі характар, які кантрастуе з норавамі іншых народаў.

### Дэпутаткі года — Канапацкая і Анісім

12 гадоў у парламенце не было прадстаўнікоў апазіцыі. Сёлета з'явіліся двое — прадстаўніца АГП Ганна Канапацкая і ТБМ Алена Анісім. Вышэйшае кіраўніцтва, мабыць, лічыць, што ў жанчын меншы палітычны патэнцыял, таму дапускаць іх не так страшна. Спадарыня Канапацкая адразу пачала крытыкаваць парадкі, якія існуюць у палаце, яна назвала парламент «балотам». Анісім жа, наадварот, лічыць, што шляхам лаяльнасці і неканфліктнасці можна дасягнуць большага па спрыянні стану беларускай мовы ў грамадстве. Чыя тактыка акажацца больш эфектыўнай?

### Мастак года — Ананім, які намаляваў калючы дрот

На вуліцы Магілёўскай, амаль у цэнтры Мінска, на два дамы змясцілі графіці аб беларуска-расійскім сяброўстве. Усе адзначалі нізкую мастацкую вартасць твора, а таксама каланіяльнасць у самой ідэі.

Графіці праіснавала амаль паўгода, пакуль проста сярод белага дня ананімны мастак не ўплёў у вянок дзяўчынкі і букет хлопчыка калючы дрот. Адразу графіці зайграла новымі сэнсамі і фарбамі. «Гэта не вандалізм, гэта выпраўленне вандалізму», — сказаў мастак «Нашай Ніве».

Высветліць асобу так і не ўдалося. Такі ўчынак можна адзначыць як самы дзёрзкі перформанс 2016-га.

### Выжыўшы года — Андрусь Горват

Інтэлігент Андрусь Горват у 2015 годзе пераехаў з Мінска ў родную вёску ў Калінкавіцкім раёне. Ён пачаў пісаць захапляльны дзённік пра сваё жыццё ў вёсцы, як



ён абжываў халодную хату, калоў дровы і саджаў гарод. Зайздроснікі смяяліся: хутка здасца пацан, вернецца назад у сталіцу. Не, Горват па-ранейшаму ў Прудку, завёў казу і радуе гісторыямі пра сваю гадаванку. А яшчэ Андрусь вельмі хутка назбіраў грошай на сваю дэбютную кнігу «Радыё Прудок».

### Забойства года — Павел Шарамет

Беларускага журналіста забілі ў цэнтры Кіева, падклаўшы выбухоўку ў яго аўтамабіль. Ён памёр на вачах у людзей.

Яму было 44 гады. Шарамет зусім маладым з'ехаў у Маскву, працаваць на ОРТ. Яго аператарам быў Дзмітрый Завадскі, якога скралі ў 2000 годзе.

Калі на расійскім ТБ не стала свабоды, не было магчымасці рэалізоўвацца, то Шарамет пераехаў у Кіеў.

Забойцы журналіста так і не знойдзены.

### Вязні года — Чыж і Япрынцаў

Партнёры па «Трайпле» адзін за адным апынуліся за кратамі. Ці магчымае сяброўства там, дзе фігуруюць вялікія грошы?

Япрынцава з сынам сілавікам здаў сам Чыж. Натуральна, што ў выніку былыя сябры рассварыліся назаўсёды.

Юрыя Чыжа затрымалі ў сакавіку. Кіраўнік КДБ расказваў з тэлеэкранаў фантасмагарычныя гісторыі, як мільянер на хуткасці 200 км/г уцякаў у бок літоўскай мяжы. Паўгода калісьці самага багатага чалавека краіны пратрымалі ў «амерыканцы». Чыжа абвінавачвалі ў шэрым вывадзе грошай з тэрыторыі Беларусі. У выніку Чыж кампенсаваў выдаткі і без суда аказаўся на волі.

Цяпер былыя партнёры трымаюцца ў цяні. Адно што не могуць паміж сабой падзяліць футбольны клуб «Дынама».

### Стартап года — MSQRD

Беларускія хлопцы Яўген Неўгень, Сяргей Ганчар і Яўген Зацяпякін зрабілі мабільны дадатак, які быў здольны накладваць самыя разнастайныя «маскі» на фоткі людзей. На некалькі тыдняў свет літаральна звар'яцеў, гуляючыся з «Маскарадам». У выніку беларусы прадалі гэты стартап Facebook, а самі пераехалі на працу ў Лондан. Гісторыя сучаснага поспеху.

### Маці-гераіня года — Дар'я Домрачава

Героі Беларусі да гэтага яшчэ не нараджалі. Трохразовая алімпійская чэмпіёнка стала мамай дзяўчынкі, якую назвалі Ксеніяй. Бацька ў Ксеніі — легендарны нарвежскі біятланіст Оле-Эйнар Б'ёрндален. Домрачава ўжо распачала трэніроўкі, у студзені абяцае выйсці на лыжню.



### Мільярдэр года — Віктар Кіслы

Першым у Беларусі даляравым мільярдэрам стаў не хтосьці, хто з найвышэйшага дазволу гандлюе нафтай, а чалавек з камп'ютарнай сферы Віктар Кіслы, які стварыў мегапапулярную гульню «Свет танкаў». На сёння гэта магутная імперыя, якая размяшчаецца ў многіх краінах.

Кіслы дэманструе, што грошы можна зарабляць не толькі на карысных выкапнях і падказвае пэўныя шляхі развіцця эканомікі краіны.

**Зміцер Панкавец**



**Самы адданы чытач года — Генадзь Давыдзька**

Здаецца, ніхто так уважліва і дасканала не вывучаў нумары «Нашай Нівы» сёлета, як кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька. Ніводзін выпуск «Клуба рэдактараў» не абыходзіўся без вывучэння пад лупай публікацый «НН». Давыдзька охаў і ахаў, але рэдактара газеты запрасіў у эфір толькі аднойчы. На ТБ аддаюць перавагу вядзенню дыскусіі, калі апанент не можа табе адказаць.

# Бацюшка са свастыкай

## Праваслаўнага святара з Гатава вінавацяць у захоўванні зброі

Піша **Арцём Гарбацэвіч**.

18 лістапада ў Мінску быў арыштаваны Канстанцін Бурыкін. Па папярэдняй інфармацыі, Бурыкіну прад'яўлены абвінавачанні па 295 артыкуле КК РБ — незаконныя дзеянні ў дачыненні да боепрыпасаў. У кватэры святара праваахоўнікі знайшлі некалькі патронаў. Калі не ўсплывуць іншыя эпізоды, то па гэтым артыкуле Бурыкіну можа пагражаць да сямі гадоў пазбаўлення волі.

Бурыкіна затрымалі ў дзень ягонага вяртання з-за мяжы — вобшук у кватэры святара цягнуўся 5 гадзін .

Так супала, што цягам некалькіх тыдняў перад затрыманнем «Наша Ніва» расследавала іншыя аспекты дзейнасці гэтага святара. Як аказалася, у мінулым ён быў цесна звязаным з неанацысцкімі коламі. А ў апошнія гады ён распараджаўся вялікімі грашыма.

Пры падрыхтоўцы матэрыялу большасць нашых суразмоўцаў прасілі не згадваць іх імён праз боязь помсты з боку Бурыкіна і яго атачэння. Але ўсе працытаваныя словы нашыя крыніцы гатовыя пры патрэбе пацвердзіць у судзе.



### Шлях у Беларусь

Пачнем з таго, хто такі гэты Бурыкін.

Канстанцін нарадзіўся ў кастрычніку 1977 года ў Омску. Ён любіў расказваць сябрам і сямейным, што яго дзяцінства было цяжкім. Хлопец насіў акуляры, за што яго дражнілі аднагодкі. Праз гэта Бурыкін пачаў займацца адзінаборствамі, навучыўся біцца, адпомсціў сваім ворагам. Але школьныя крыўды запомніў на ўсё жыццё і пасля неадночы расказваў пра гэта сваім сябрам і сямейным, матывуючы іх такім чынам займацца сілавымі відамі спорту ці баямі. Нават сваіх дачок Бурыкін прымушаў біць па «лапах», часам даводзячы да слёз.

У Беларусь Бурыкін прыехаў, калі яму было недзе 17 гадоў. Тут на той момант ужо асела ягоная сястра з мужам, у якой хлопец і жыў першы час. Неўзабаве перабраліся і бацькі — сёння яны жывуць у Мінску.

Цікава, што Бурыкін дагэтуль так і не атрымаў беларускага грамадзянства — ён грамадзянін Расіі.


Шакуе той факт, што свастыка яшчэ і на целе дзіцяці. Нацысцкаму вітанню клапатлівы бацька таксама паспеў навучыць сына.

Канстанцін марыў стаць святаром, але з паступленнем у семінарыю не склалася, і ён пайшоў на завочку ў фізкультурны на настаўніка боксу, паралельна працуючы ахоўнікам у праваслаўным храме.

У гэты момант ён знайшоў у Мінску сваё каханне — першую жонку Алену, пеўчую царкоўнага хору. Гэтае знаёмства і нечаканая смерць жанчыны моцна адаб'ецца на наступных паводзінах Бурыкіна. Дачка Аляксандра, падобная да памерлай маці, стане аддушынай у жыцці святара.

Святаром, дарэчы, Бурыкін стаў незвычайна. Ён не скончыў семінарыі, але яму далі сан за абяцанне ўзвесці храм у Гатаве — рабочым прыгарадзе Мінска.

Яму дапамагло прыроджанае ўменне «круціцца» — храм урэшце быў збудаваны.

Вышэйшае праваслаўнае духавенства скрозь пальцы глядзела на неанацысцкія захапленні Канстанціна, хаця той не вельмі і шыфраваўся.

У РНЕ яго прывёў ягоны стрыечны брат — так, прынамсі, Бурыкін яго прэзентаваў знаёмым — Андрэй Саковіч, кіраўнік беларускага РНЕ пасля забойства Глеба Самойлава.

У РНЕ Бурыкін набіў сабе вялікую свастыку на грудзях і арла Трэцяга Рэйха на плячы.

З цягам часу РНЕ было разгромлена беларускім КДБ, дый паўстала пытанне пра ўласнае жыллё і грошы, таму Бурыкін заняўся іншымі справамі.


Прыёмны сын Бурыкіна пакрыўджаны, што яго выгналі пасля таго, як атрымалі кватэру як для шматдзетнай сям'і.

### Рашэнне кватэрнага пытання і ўцягванне ў беларускі спорт

Для разумення асобы Бурыкіна варта прывесці гісторыю куплі ім чатырохпакаёвай кватэры на вуліцы Матусевіча ў Мінску.

Набыў яе праваслаўны святар на льготных умовах у 2009 годзе як шматдзетны бацька. Двух дзяцей, якіх не «хапала» для гэтага статуса, ён узяў у доме-інтэрнаце, крэдыт на $60 тысяч у эквіваленце выдаў Беларусбанк.

У гісторыі не было б нічога дзіўнага, каб жылі і цяпер тыя дзеці з ім. Але старэйшага — Аляксея — святар выгнаў з дому праз некалькі гадоў, апраўдваючы такі ўчынак у вачах знаёмых чуткамі пра сэксуальную арыентацыю сына.

«Ды ён гомік, ён у жаночую вопратку пераадзяваецца, з мужчынамі гуляе, стрынгі носіць», — так Бурыкін патлумачыў адрачэнне ад сына адной нашай крыніцы.

Мы адшукалі хлопца. Аказалася, гэта ўсё паклёпы. Аляксей жыве з дзяўчынай, мае тату з яе імем на грудзях і сёлета збіраецца ажаніцца.

«Так, ён выгнаў мяне. Мне тады было 17 гадоў. Пра ўсіх маіх сяброў Косця казаў, што яны альбо шлюхі, альбо п*дарасы», — сказаў нам Аляксей.

Па ягоных словах, адбылося гэта пасля таго, як ён вярнуўся з чэмпіянату свету па паўэрліфтынгу (дзе заняў другое месца) і адсвяткаваў вынік у начным клубе.

Фармальна прычынай стала тое, што Аляксей кепска ўплывае на іншых дзяцей.

«У мяне жыццё было: школа — трэніроўкі — дом. Я хацеў трохі расслабіцца, хацеў мець права на ўласныя думкі, а не жыць ягонай галавой. Трохі пагуляў... Слова за слова, і ён сказаў мне: валі, толькі матам. Аддаў пашпарт і грошай мінімальна. Ну а што мне рабіць?

Я паехаў, праз чатыры месяцы даведаўся, што ён падаў у суд на адмову ад усынаўлення, мне было ўжо 18», — распавёў таксама Аляксей.

Пасля быў суд, пазоў Бурыкіна задаволілі, бо і Аляксей быў не супраць.

Адзінае, у чым прайграў хлопец, гэта ў квадратах.

Бо, калі яго ўсынавілі, ён страціў права на жыллё ад дзяржавы, а свае метры ў кватэры на Матусевіча прадаць не можа, пакуль у той кватэры прапісаны хаця б адзін непаўналетні — а там з чатырох дзяцей Бурыкіна такія ўсе.

Нават зайсці ў кватэру Аляксей цяпер не можа — Бурыкін проста не пускае яго, забараніў сваім гаварыць з хлопцам.

Што да тэмы гейства, Аляксей тлумачыць гэта проста.

«А ён увесь час ужывае такія знявагі — «гомік» і «дзіравы». Я не здзіўлены, што ён такое сябрам казаў. Але справа тут не толькі ў гэтым. Так, у мяне было шмат фотак з маім сябрам-цыганом. Ён майго сябра не любіў, і гэта рэтранслявалася на мяне», — расказаў Аляксей і дадаў падрабязнасці выхавання ў сям'і Бурыкіна.

«Пачнём з таго, што ў Косці свастыка набітая на грудзях. Калі ён у нейкіх інтэрв'ю расказваў, што адрокся ад старых поглядаў, — гэта хлусня. Мяне хрысціў Андрэй Саковіч, калі мне было 9 гадоў. Ён часта прыязджаў да нас, таксама са свастыкай. Сядзелі яны на кухні, і ўсё адзін аднаму: «брат-брат». Гэдзе ў 2010 ці пазней, магу блытаць, калі мы пераехалі на Матусевіча і зрабілі там рамонт, Косця аформіў люстру ў вялікім пакоі ў выглядзе свастыкі — там такое чырвонае кола, і калі лямпачкі запальваеш, то яны гараць у форме свастыкі», — расказаў Аляксей.

«Таксама ён карціну намаляваў, дзе ўся нашая сям'я, яшчэ маці жывая... Мы разам стаім усе ў такім стылі, як у Германіі быў», — дадаў хлопец.

«У форме часоў Трэцяга Рэйха?» — перапыталі мы.

«Напэўна. У яго яшчэ на руцэ чырвоная павязка са свастыкай была...»

Хлопец не бярэцца тлумачыць



У кватэры святара Бурыкіна вісіць люстра ў форме свастыкі.

ідэалагічныя захапленні былога бацькі: кажа, што не разбіраецца і яму абыякава.

### Саша і «Белая Русь»

Пасля выгнання Аляксея Бурыкін узяўся рабіць новую зорку паўэрліфтынга са сваёй дачкі Сашы.

Дачка Бурыкіна Аляксандра выглядае як копія сваёй заўчасна памерлай маці. З гэтай прычыны бацькоўская любоў да яе не мела межаў.

Саша, як і некалі Аляксей, стала паўэрліфтарам. Гэта від спорту, у якім трэба падымаць як мага большую вагу ў трох дысцыплінах: прысед, станавая цяга і ціск ад грудзей.

Каб спрыяць дачцэ ў яе новым хобі, Бурыкін стварыў на базе свайго прыхода спартовы клуб «Белая Русь», за які клікаў выступаць найлепшых спартоўцаў краіны — цісну на веру.

«Мне, як праваслаўнаму чалавеку, было за гонар выступаць за праваслаўны клуб. Ідэя была такая: спалучыць веру і спорт, мы былі толькі за. Жылі ў розных гарадах, але на спаборніцтвах запісваліся як прадстаўнікі «Белай Русі», — расказаў пра вытокі клуба Бурыкіна чалавек, вельмі вядомы ў сілавым асяродку Беларусі.

Энергічны Бурыкін сабраў пад дахам свайго прыхода амаль увесь склад беларускай зборнай па паўэрліфтынгу — тых, хто рэальна прывозіў медалі.

«Пасля паўстала пытанне нейкай легалізацыі і дапамогі, — расказалі нам крыніцы. — У Косці быў план — ажывіць федэрацыю паўэрліфтынга. Тут такая справа, што гэты спорт у нас не вельмі развіваецца. Спартоўцы ёсць, функцыянераў няма. Расіяне і ўкраінцы рванулі гадоў 10 таму, а мы ўсё спалі — у кіраўніцтве федэрацыі былі людзі, якіх ніхто не бачыў гадамі. Нікому не заміналі, але нічога й не рабілі. Таму Косця сабраў неяк нас усіх і выступіў з такой палымянай прамовай... Папрасіў падтрымаць яго, мы паверылі. Спачатку ўсё ішло добра.

Канстанцін Бурыкін фактычна кіраваў Федэрацыяй паўэрліфтынга.

Паходамі па кабінетах ён знайшоў каля $10 тысяч на выезд зборнай на чэмпіянат свету ў Афрыцы. Пасля спаборніцтваў у міністэрстве сказалі: так, давайце з чыстай старонкі, вечна фінансаваць вас мы не можам. Ну і патрэбная была дакументацыя, справаводства. Вырашылі перазапусціць, так бы мовіць, федэрацыю. Спачатку Косця заручыўся падтрымкай лукашэнкаўскай «Белай Русі». Прыйшоў да іх са словамі: «вось, у нас назвы аднолькавыя, жыццёвыя ідэалы аднолькавыя, давайце неяк супрацоўнічаць». Далей была ідэя перавесці федэрацыю пад фармальнае кіраўніцтва высокага сілавіка, як гэта ў барацьбе робіцца».

І такім стаў Генадзь Калеснік — палкоўнік міліцыі, старшыня БФСТ «Дынама».

Такім чынам, з 2015 года ўсімі справамі федэрацыі дэ-факта кіраваў Бурыкін, дэ-юрэ будучы намеснікам Калесніка.

«Так, спачатку ён нам падабаўся. Вельмі добры псіхолаг, умее хадзіць па кабінетах. Але чым глыбей мы знаёміліся — пачыналіся пытанні. Так, мы даведаліся пра ягоныя татуіроўкі і погляды. Спачатку ён казаў, што свастыкі — гэта ягоны крыж, які ён нясе, а погляды памяняліся. Але мы ж шчыльна сябравалі, бывалі ў гасцях адзін у аднаго.

Мяне ўразіла ягоная люстра. Я з першага разу не зразумеў нават, мо з трэцяга дайшло — там, калі лямпачкі ўключаеш, то яны ў форме свастыкі гараць. «Ну як так, Косця? Тут жа ўсё крывёю паліта ў Беларусі», — а ён паказваў фота на кампе, дзе святары ў строях са свастыкамі, казаў, што ў Маскве ў храме Хрыста Збаўцы падлога са свастыкамі. Абразы ў яго дома таксама ў аздабленні такім — кіёт са свастыкай», — дадала крыніца.

Але справа была не ў адных толькі нацысцкіх поглядах.

Бурыкін як мог піярыў сваю дачку, чым выклікаў рэўнасць іншых спартоўцаў.

Так, нават на сайце федэрацыі з сямі заставачных фота на пяці — Саша Бурыкіна.

Усё гэта пачало выклікаць нараканні калег.

«У нашай краіне ёсць сусветная зорка спорту — Аляксандр Грынкевіч-Суднік, шматразовы чэмпіён свету. Ягонымі вучаніцамі Таня Дамашына і Сняжана Зубко таксама чэмпіёнкі, гонар спорту. Дык Бурыкін увесь час ганяў іх фоткацца са сваёй дачкой, выстаўляючы як чэмпіянкай найлепшых. З нас усю людзі смяяліся. Саша была паўсюль — здымала відэа пра сябе, фоткалася. Пасля нам рассылаліся рэкамендацыі ці патрабаванні пісаць да гэтага ўсяго ўхвальныя каментары. Калі Таня Дамашына выйграла чэмпіянат свету ў саб-юніёрах — упершыню ў гісторыі краіны, — Бурыкіна напісала ў нашай суполцы ў інтэрнэце, што «Таня — малайцом, але я ўсё адно лепшая».

Бурыкіна не здавала экзаменаў за 9 і 11 класы, без экзаменаў паступіла і ва ўніверсітэт. Пра гэта яна сама расказвала ў адным са сваіх відэа, называючы прычынай такой удачы членства ў бацькавай федэрацыі.

Бурыкін прыдумаў геніяльны піяр-ход для дачкі, вырабіўшы ёй майку з Лукашэнкам. Дзякуючы гэтаму, Аляксандра не раз засвяцілася на тэлебачанні побач з такімі людзьмі, як Гігін і Казіятка.

Адзіная са спартоўцаў сабюніёраў, яна атрымлівала і прэзідэнцкую стыпендыю.

Але рэўнасць калег прывяла да таго, што ад Бурыкіна пачалі сыходзіць спартоўцы, утварыўшы альтэрнатыўную федэрацыю.

Апошняй кропляй стала тое, што ад недахопу людзей на спаборніцтвах ён прывёў у праваслаўную каманду «Белая Русь» даўняга сябра Андрэя Саковіча, колішняга кіраўніка беларускага РНЕ.

«Ён паказаў нам гэтага мужыка з забітымі вазелінам кулакамі, назваў сваім стрыечным братам і сказаў, каб мы не палохаліся. Маўляў, Андрэй сядзеў, у яго свастыкі на целе, але ён нармальны хлопец. Мы прагугліў, хто такі наш новы паплечнік, і жахнуліся — тут вылезла ўсё і пра РНЕ, і пра Саковіча, і пра самога Бурыкіна», — расказала нам крыніца.

Калегі вырашылі адхіліць святара ад кіраўніцтва федэрацыяй.

Спартоўцы напісалі калектыўны зварот у «Дынама» і НАК з патрабаваннем адхіліць Бурыкіна ад пасады.

Адначасова было сабрана некалькі соцень подпісаў праваслаўных вернікаў да мітрапаліта Паўла з просьбай пазбавіць сана айца Канстанціна.

Тут накіпела ўсё: і непрымание людзьмі ідэалогіі неанацызму, і эксцэнтрычнасць — Бурыкін змясціў на лагатыпе клуба Ісуса са штангай на плячах, — і парушэнне канонаў — Бурыкін ажаніўся другі раз, афіцыйна распісаўшыся. Паводле правіл, святарам другі шлюб забараняецца.

Кіраўнік федэрацыі, палкоўнік міліцыі Генадзь Калеснік, не спяшаўся ўмешвацца.

Тым часам федэрацыю чарговы раз зачысцілі ад праціўнікаў Бурыкіна. Нават чатырохразовага чэмпіёна свету Аляксандра Грынкевіча-Судніка выкінулі з федэрацыі, аддаўшы пасаду трэнера жаночай зборнай чалавеку, які лаяльны да Бурыкіна.

У прэзідыум між тым уваходзілі асобы, далёкія ад спорту, але блізкія да Бурыкіна. Напрыклад, вартаўнік царквы ў Гатаве, былы супрацоўнік МУС. (Акурат ён цяпер найбольш актыўна выгароджвае Бурыкіна ў СМІ.)

Расходаваннем фінансаў, якія пераводзіліся на рахункі федэрацыі ад дзяржаўных спартовых структур, займаўся менавіта прэзідыум.

Многія бачылі ў нежаданні Калесніка ўмешвацца боязь сарваць рэалізацыю вялікіх праектаў.

Рэч у тым, што Беларусь вызвалася прыняць у 2017 годзе чэмпіянат свету па паўэрліфтынгу. Чакаюцца сотні ўдзельнікаў, мерапрыемства і адказныя за яго ўхваленыя «наверсе», накіраваныя грошы, прычым немалыя. Па нашай інфармацыі, толькі Нацыянальны алімпійскі камітэт выдзеліў федэрацыі Бурыкіна каля 2 мільярдаў старых рублёў. Бурыкін казаў сваім былым калегам, што сродкі паступаюць яшчэ і ад «Дынама», і ад Мінспорту, іншых спонсараў.

Частка тых мільярдаў пайшла на закуп дарагога абсталявання фірмы *Eleiko* — грыфаў, бліноў, насцілаў.

*Eleiko* лічыцца найлепшай фірмай, яе абсталяванне выкарыстоўваецца на алімпіядах.

Толькі вось неспадзяванка: як сцвярджаюць былыя калегі па федэрацыі, абсталяванне закупленае ржавае або няспраўнае. Пра гэта сведчаць перададзеныя «Нашай Ніве» здымкі і відэа.

На прапановы калег звярнуцца на завод *Eleiko* па гарантыі і замяніць няякаснае абсталяванне, што выглядала як патрыманае, Бурыкін рэагаваў нервова.

Шведская кампанія, якую Бурыкін называў пастаўшчыком дадзенага абсталявання, пакуль не адказала на запыт «Нашай Нівы» адносна таго, ці сапраўды яно закуплялася наўпрост у вытворцаў.

Тым часам, па словах праціўнікаў Бурыкіна, 19 з 23 топавых беларускіх спартоўцаў адмовіліся супрацоўнічаць з Бурыкіным у любой форме, і чэмпіянат аказаўся пад пагрозай зрыву, а гэта — сур'ёзны скандал.

«Наша Ніва» прасіла кіраўніка федэрацыі Генадзя Калесніка пра інтэрв'ю і выклала сутнасць узніклых пытанняў. Ён адмовіўся з прычыны адсутнасці ў краіне Бурыкіна. Прапанаваў сустрэцца ў прысутнасці Бурыкіна.

Бурыкін вярнуўся ў пятніцу, 25 лістапада. І яго адразу па вяртанні затрымалі.

### Яшчэ і змагар з педафіламі. Спецыфічным спосабам

Афіцыйнае падазрэнне — захоўванне боепрыпасаў — і магчымыя махінацыі ў сферы спорту могуць быць не адзінымі нагодамі для работы аператыўнікаў.

Так, паводле інфармацыі «Нашай Нівы», праваахоўнікі таксама вывучаюць змесціва носьбітаў інфармацыі, выяўленых у святара. Былыя сябры Бурыкіна не выключаюць наяўнасці там экстрэмісцкіх, неанацысцкіх матэрыялаў.

Таксама, як расказалі нам былыя сябры Бурыкіна, «бацюшка са свастыкай» захапляўся «лоўляй педафілаў на жыўца». З аднадумцамі ён стварыў адпаведную суполку ў ВК. Аматараў гарачага выхоўвалі ну вельмі спецыфічным спосабам, усё гэта здымалі на відэа.

Гэта толькі тая інфармацыя, якую «Наша Ніва» паспела сабраць. Мы мелі намер працягваць расследаванне, але пасля затрымання Бурыкіна вырашылі апублікаваць тую інфармацыю, якую маем на сёння. Мы будзем збіраць факты далей.

На сённяшні Бурыкін знаходзіцца на экспертызе ў псіхіятрычнай клініцы ў Навінках.

На пытанне, ці ўсё ў дзейнасці Бурыкіна было ў рамках закона, адкажа следства. Але той факт, што чалавек з такімі схільнасцямі стаў і заставаўся бацюшкам, а пасля яшчэ і спартовым функцыянерам, прымушае задумацца.



Канстанцін Бурыкін фактычна кіраваў Федэрацыяй паўэрліфтынга.



Святар Бурыкін і мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел.



Лукашэнка ўзнагароджвае самага тытулаванага паўэрліфтара Беларусі — выратавальніка, якога адхілілі ад работы ў федэрацыі Бурыкін. Фота з president.gov.by.

# «Забярыце нас, як Крым»

## У Мінску выступіў Уладзімір Салаўёў

**У цэнтры Еўропы — прынамсі, калі лічыць Еўропай хаця б частку Расіі, — знаходзіцца Беларусь. У цэнтры Беларусі — сталіца краіны, Мінск. А ў цэнтры Мінска стаіць Палац Рэспублікі, са сцэны якога расійскі прапагандыст Уладзімір Салаўёў амаль тры гадзіны расказваў беларусам за іх жа грошы пра тое, што Еўропа — зло. А што беларусы? А беларусы пляскалі ў далоні.**

СЕРГЕЙ ГУДИЛИН

### «Расія — гэта вайна»

Насамрэч сустрэча з тэлевядучым пачалася раней, чым планавалася. Зміцер Дашкевіч з групай актывістаў зладзіў ля ганка Палаца Рэспублікі акцыю пратэсту супраць выступу Салаўёва. Ніна Багінская, Вольга Мікалайчык, Максім Вінярскі — агулам чалавек з 10 — выйшлі да Палаца Рэспублікі з бел-чырвона-белымі сцягамі, самаробнымі плакатамі кшталту «Салаўёў, Юліус Штрэйхер чакае цябе» і расцяжкай з надпісам «Соловьёв-вешальнік, ізыді». Актывісты час ад часу выкрыквалі: «Расія — гэта вайна!», «Чамадан — вакзал —Расія!», «Пуціну — не!».

Міліцыі ў цывільным было ля палаца разы ў два-тры больш, чым пратэстоўцаў. Але абышлося без затрыманняў. Спачатку, праўда, былі зробленыя некалькі спробаў затрымаць менавіта Дашкевіча. Але некалькі разоў міліцыянтаў адцяснілі паплечнікі Дашкевіча, а ў наступны раз і з дзясятак ціхароў ужо пачаў «вінціць» актывіста і той упаў на зямлю, непасрэдна камандзір АМАПу Дзмітрый Балаба даў каманду — адпусціць. Пасля Балаба, кіўнуўшы ў бок Дашкевіча, скамандаваў двум ціхарам: "Трымайцеся шчыльна побач, але не затрымлівайце».

Нечакана ў атачэнні міліцыянтаў у цывільным і ўласных ахоўнікаў «да народу» выйшаў і сам «філасаф і пісьменнік». Трохі пасмяяўшыся з пратэстоўцаў і раздаўшы некалькі саркастычных каментароў журналістам, ён вярнуўся ў будынак.

«Унутры больш беларусаў, і яны прыйшлі на мой выступ», — падсумаваў Салаўёў.

### «Украіна, геі і расійскі шлях»

Зрэшты, так і было. Нягледзячы на зусім не танныя цэны — квіткі ад 30 да 130 рублёў, — народу ў зале хапала, хоць і аншлагам гэта назваць было нельга.

Сам «маэстра» з'явіўся з цемры і адразу — з месца ў кар'ер, пачаўшы з біблейскай прыпавесці пра Каіна і Авеля, але ж паціху пафас сышоў. Узгадаў Салаўёў і пратэстоўцаў, спачатку назваўшы іх «маладымі жырыноўцамі з пажылымі тварамі»: «Яны ж крычалі «чамадан-вакзал-Расія!», такі лозунг быў калісьці ў Жырыноўскага. Яны там крычаць пра свабоду... Гэта д'яблы імі круцяць! Няўжо гэта свабода — крычаць што заўгодна? Гэта канцэнтраваны эгаізм».

А то і проста выраднкамі: «Дзесяць вырадкаў — дробныя, смешныя, праплачаныя пасажыры... Журналісты мне не далі да іх падысці, але ж я паглядзеў на тых людзей. Я думаў, яны кінуцца на мяне, будуць штосьці рабіць — а яны такія кволыя...»

Словы выступоўцы зала сустрэла апладысментамі.

Выступ Салаўёва складаўся з дзвюх частак. У першай — на пустой сцэне пад эфектным бялюткім святлом пражэктараў невялічкі чалавек у звыклым цёмна-шэрым фрэнчы разважаў аб лёсах Расіі і свету, час ад часу перасыпаючы прамову барадатымі анекдотамі. Увогуле, канечне, каб не псеўдапалітычныя ток-шоу, то Салаўёў цалкам мог бы знайсці сябе ў пярэстай камандзе «Аншлагу» — ва ўсякім выпадку, так падалося пасля яго жартаў ці парадыйных яўрэйскіх інтанацый.

Асноўнай ідэяй выступу была ўсё тая ж старая мантра пра асаблівы расейскі шлях. Ці «наш» шлях — бо і беларусаў, і ўкраінцаў, і расейцаў, і астатніх жыхароў былога СССР аб'ядноўвае супольная крывавая гісторыя.

А Захад увесь час лезе да нармальных людзей са сваёй мараллю: «Чаму яны нас пастаянна павучаюць? Заходняя культура вялікая, але ж фашызм — іхні, нацызм — іхні, інквізіцыя — іхняя, нават марксізм — іхні. А мы што? Сядзім сабе, кажам: да нас не лезьце! А яны лезуць, маўляў, не так седзіце!»

# Георгіеўская стужка 2.0: чаму ва Украіне, Расіі і Беларусі раптам заспявалі савецкія песні?

Два дзясяткі чалавек на чыгуначным вакзале Кіева бязладна спяваюць дзіцячую песеньку «Пусть всегда будет солнце!». «Міру — мір!» — крычаць яны пасля выканання. Гэта частка так званага флэш-мобу, у межах якога ўкраінцы і расейцы збіраюцца на вакзалах сваіх гарадоў і выконваюць старыя савецкія песні. Флэшмоб нібыта ўзнік сам сабой як сведчанне таго, што братнія народы хочуць сяброўства, а не вайны. Але... На жаль, заўсёды ёсць «але».

### Не флэш-моб, а падарунак камбінату

Пачаўся гэты «флэш-моб» у Запарожжы 13 лістапада, калі на мясцовым чыгуначным вакзале прагучала песня з фільма «Вясна на Зарэчнай вуліцы». І пачаўся ён не з прыватнай ініцыятывы мясцовых — гэта была акцыя мясцовага тэлебачання, падарунак тэлеканала TV5 на 83-і дзень нараджэння камбіната «Запарожсталь».

«Імянінніка такога самавітага ўзросту складана здзівіць... Таму мы вырашылі павіншаваць яго сучасным трэндам і падумалі, што выкананне песні з культавага фільма, знятага ў Запарожжы, на «Запарожсталі», стане прыемным, душэўным і памятным падарункам для кожнага супрацоўніка камбіната. Тым больш у правядзенне флэш-мобу мы ўклалі частку душы, бо ўсім запарожцам блізкі кожны радок знакамітага фільма, які прасякнуты духам запарожцаў», — заявіў генеральны дырэктар TV5 Максім Анапрыенка.

І спявалі ў Запарожжы не нейкія мясцовыя аматары, а вакалісты Запарожскага музычнага вучылішча імя Майбарады.

Цікава, што такім чынам канал, які належыць вядомаму ўкраінскаму алігарху Рынату Ахметаву, павіншаваў камбінат, які належыць яму ж.

### «Рускі спеў супраць фашызму»

Рэакцыя на «флэш-моб» была нечаканай. Расейскія СМІ і сепаратысцкія паблікі падхапілі відэа як «сведчанне таго, што ва Украіне не ўсе фашысты». І панеслася.

Неўзабаве песні загучалі і ў іншых гарадах Украіны — Харкаве і Адэсе. Адгукнуліся і расейцы, выканаўшы ў Маскве ўкраінскую песню «Розпрягайте, хлопці, коней», падаўшы сваю акцыю як сімвал сяброўства паміж дзвюма краінамі.

Здавалася б, добра. Але ж арганізавала расейскі флэш-моб суполка «Сорак Саракоў», вядомая сваімі ультрарадыкальнымі праваслаўнымі поглядамі, падтрымкай «Рускага свету», «ДНР» і «ЛНР». «Сорак Саракоў» нярэдка называюць «баявымі атрадамі РПЦ», суполка аб'ядноўвае як футбольных фанатаў і праваслаўных актывістаў, так і былых прапкрамлёўскіх дзеячаў.

«Саракоўцы» былі неаднойчы заўважаныя ў правакацыях падчас антыклерыкальных мітынгаў. Сілавое ж крыло суполкі складаецца з маладых «каляфутбольшчыкаў» — курыруе яго неанацыст Іван Катанаеў, экс-чалец «Фратрыі», фанацкай групоўкі маскоўскага «Спартака».

Далей — болей. Савецкія песні гучалі часцей і часцей: спявалі на вакзалах Днепрапятроўска і Ліпецка, Масквы і Марыупаля, Благавешчанска, Луганска, Алушты... Нарастаў і градус «патрыятызму»: пра акцыі ў зразумела якім тоне пачалі паведамляць расейскія тэлеканалы. Так званы «флэш-моб» аказаўся вельмі зручным інструментам і аргументам прапаганды.

«Просты народ Украіны паступова вылечваецца ад атруты нацыяналізму, якую залілі ў яго сённяшнія кіеўскія кіраўнікі», — пракаментавалі акцыі на расійскім Першым канале.

Радасна падтрымаў акцыю і расейскі псеўдагісторык Мікалай Старыкаў, запусціўшы ў сеціве хэштэг #мыжиливоднойстране.

Не змаўчаў і кісялёўскі «Спутнік» (прычым беларуская яго рэдакцыя), назваўшы акцыю «сапраўды народнай» і параіўшы адправіць штосьці ў такім жа стылі на «Еўрабачанне»: «Калі людзям падабаецца савецкае — дайце ім гэта».

Гісторыя з флэш-мобам, які з віншавання алігархам самога сябе перарос у прапагандысцкую акцыю, нагадвае гісторыю георгіеўскай стужкі, якая са штучнага сімвала Перамогі ператварылася ў сімвал «Рускага свету» і маркер «свой-чужы» для вялікай колькасці народу. Стужку прыдумалі ў 2005 годзе піяршчыкі РІА «Новості», каб аб'яднаць людзей і «не даць забыцца, якой цаной атрымалі перамогу ў страшнай вайне».

### А ў нашых — Новы год!

Заспявалі і беларусы: 3 снежня ў Гродне таксама арганізавалі спеўны флэш-моб. Праўда, акцыю яны правялі на свой лад: сабраліся не на вакзале, а ў гандлёвым цэнтры, дзе выканалі «В лесу родилась ёлочка». Спявалі і вадзілі карагоды вакол ялінкі навучэнцы Гродзенскага дзяржаўнага музычнага каледжа і дзеткі з мясцовай пачатковай школы №1 — а разам з імі і спявак Тэа, які «выпадкова» апынуўся ў гандлёвым цэнтры.

«Да расійскіх ці ўкраінскіх акцый гэта не мае аніякага дачынення. Наш флэш-моб быў прысвечаны Новаму году, — запэўнілі маркетолагі гандлёвага цэнтра. — Тэа быў у нас на мерапрыемстве, і мы зрабілі такі сюрпрыз дзеткам, каб ён заспяваў з імі. Усім вельмі спадабалася».

**Улад Швядовіч**

## Салаўёў: У Мінску за мной сачылі, а зала была паўпустая, бо ўлады абмежавалі продаж білетаў

Але ж на гэтым справа не скончылася. Праз некалькі дзён, вярнуўшыся ў Маскву, Салаўёў у эфіры радыёстанцыі «Вести ФМ» падзяліўся сваімі ўражаннямі ад выступу ў Мінску. Ён быў прыкметна расчараваны і раззлаваны.

**Пра арганізатараў**

За тры месяцы яны рапартавалі, што прададзена 1600 білетаў і ўсе страшэнна шчаслівыя. А пасля пачаліся незразумелыя з’явы. Мне пачалі тлумачыць, што, можа, і не варта прыязджаць, мяне не хочуць бачыць, рыхтуюцца акцыі пратэсту, вам там небяспечна…

За тры дні на трох з чатырох інтэрнэт-сайтах, якія займаюцца продажамі, раптам напісана, што білеты купіць нельга. У апошні дзень пачынаецца актыўнае вяртанне білетаў. Забаўныя рэчы.

Людзі пыталіся лішні білецік, а арганізацыя палаца зрабіла ўсё магчымае, каб білеты немагчыма было купіць. Што хацелі сказаць?

**Пра беларускі КДБ**

Куды ні пайду — адчуваю, што не адзін. Увесь час яшчэ вельмі інтэлігентныя людзі. Вельмі добры кіроўца, вельмі ветлівы, усё расказвае, усё ў яго добра — але з пінжака пагоны проста тырчаць.

Усё міла, але ніхто не спрабуе сказаць лішняе. Усе, калі нешта кажуць, адразу да «мікрафона» паварочваюцца ў любым памяшканні…

**Пра канфлікт з Кацярынай Андрэевай**

Мне крычаць: «Вы пакрыўдзілі беларускую журналістку!» Яна кажа: «Я беларуская журналістка!»

Я думаю, зараз паваліцца і памрэ. Галоўнае, каб не абсікалася. Усё ж халаднавата, не дай бог, падстыне, будзе цыстыт. Не дай бог, абсікаецца! Дзіця, што з гэтым рабіць?

**Пра акцыю пратэсту**

Перад канцэртам мне кажуць: там акцыя пратэсту, проста на прыступках. Я не магу выкласці вам аўдыёзапіс, таму што там мацюкі. Гэта беларуская інтэлігенцыя скандзіруе матам [скандзіравалі «Не — інфармацыйнай вайне!» — «**НН**»].

Я пайшоў да гэтых пратэстоўцаў, а мне да іх дайсці не даюць! Са мной мая ахова. Мяне на прыступках атакуе натоўп журналістаў.

Яны [пратэстоўцы — «**НН**»] да мяне тузануцца баяцца. Іх там дзесяць чалавек, і яны баяцца на мяне кінуцца. Яны не разумелі, што ім рабіць.

**Падсумаванне**

Мінск мяне любіць, беларусы мяне любяць, і я іх люблю. А мярзотныя нацысцкія прадажныя пачвары і грантаеды ў журналістыцы — ганьба яўрэйскага народа — гуляюць у сваю гульню. І мая парада Лукашэнку, які ў ёй не мае патрэбы: не трэба. Падлагоджвацца. Пад пачвараў.



**Зала была далёка не запоўненая.**


**Маладафронтаўцы выказалі Салаўёву ў твар усё, што думаюць пра яго.**

Увогуле, па словах Салаўёва, «у Еўропы ідыёцкае жаданне раз на сто гадоў збірацца і ісці ў Расію атрымліваць у карак».

Пры гэтым ён не забываўся пра тое, што, нягледзячы на супольную гісторыю, краіны ў нас з Расіяй усё ж розныя: «Я не нацыяналіст. Размаўляеш на рускай — малайчына, на беларускай — наогул прыгажун, на ўкраінскай — дай бог табе здароўя!»

А што ж да «рускага свету» — то Салаўёў нагадаў, што сам ён «з яўрэяў», а свет любіць і рускі, і французскі, і англійскі, і нават кітайскі — бо «шмат чытае кітайскіх філосафаў і ў іх ежа смачная».

Імідж «свайго мужыка» павінны былі дапоўніць і жарты з расійскай улады: «Паміж нашымі прэзідэнтамі шмат супольнага: абодва любяць хакей. Праўда, ваш яшчэ і гуляе ў яго», «Пасля затрымання Улюкаева ўрад вырашыў: ад «Роснефці» больш хабар не бяром!»

Праўда, не забыўся Салаўёў пахваліць Фомачкіна, які пранёс на Паралімпіядзе расійскі сцяг: «Беларус — прыгажун, гэта больш за мільён словаў і гэта не зламаць».

Калі ў Расіі дзве бяды — дурні і дарогі, то з прамовы Салаўёва можна зрабіць выснову: дзве еўрапейскія бяды — гэта мігранты і гомасэксуалы.

Напрыклад, можна было даведацца, што гомасэксуалы выбіраюць сабе дзяцей у краме: «Госпад аказаўся страшэнным шавіністам: што з мужыком ні рабі, а ён цяжарным не становіцца. І яны ўсынаўляюць дзяцей. Дзеці гэта што — тавар? Гэтых самых дзяцей некалькі, як правіла, і заказчык выбірае найбольш удалых. А калі не падабаецца — можна вярнуць».

А «нармальныя» еўрапейскія мужчыны цярпяць прыніжэнні сваіх жанчын мігрантамі ў створаных пасярод Еўропы мусульманскіх анклавах. Не тое, што ў Расіі!

«Вось прыехалі мігранты ў Архангельск, пайшлі на дыскатэку, думалі, тут усё дазволена, як у Германіі... Дык з бальніцы яны пазванілі ў паліцыю, а калі прыехала паліцыя... Са звычайнай палаты іх перавялі ў рэанімацыю», — прытча пра правільных мужыкоў ад нашага героя.

На думку Салаўёва, сёння ў свеце ідзе Вялікая Традыцыяналісцкая Контррэвалюцыя, «спроба выратаваць нармальнасць». Людзі стаміліся ад талерантнасці і паліткарэктнасці (і яшчэ ад пагрозы «Ісламскай дзяржавы»).

Хто гэтую рэвалюцыю ўзначальвае, думаю, чытач ужо здагадаўся.

### Пытанне з паперкі

У другой частцы гледачы задавалі Уладзіміру Салаўёву пытанні. Цікава, што людзям было трохі няёмка за свае «вастраватыя» фармулёўкі. Напрыклад, адзін хлопец нясмела цікавіўся, як «выказваць незадавальненне ўладай і не стаць пятай калонай» (адказ: «Пісаць дэпутатам, у інтэрнэт ці ісці працаваць у органы»), іншы, сарамеючыся ўласнага нахабства, адзначыў, што ў Беларусі на тых, хто ваяваў ва Украіне, заводзяць крымінальныя справы, а ў Расіі — не (Салаўёў адказаў, што ён за роўнасць законаў, і крымінальныя справы, напэўна, заводзіць трэба.)

Тэма Украіны гучала неаднаразова. Але ж ад Салаўёва можна было даведацца, што «Крым аддаваць нельга, ён не рэч, яго ніхто і не забіраў, там усё вырашылі самі людзі». А сама Расія на Украіну ніколі не лезла. Ну, амаль што.

«Януковіч — зладзеяватая жывёла. Але сёння ва ўкраінскай уладзе людзі, якія раней былі з ім у адной камандзе, — пракаментаваў Салаўёў. — Але гэта іх справы».

«Расія туды не лезе, мы ж не ўводзім войскі ў Кіеў, не праводзім спецаперацый. Але і забіваць рускіх на Данбасе не дазволім!»

Войскі, дарэчы, не ўводзяць, бо «Пуцін паважае міжнароднае права»: «Чакаеце, калі Расія пачне анексаваць, стане агрэсарам? Не дачакаецеся!»

Ну і далей па тэксце. Зала пляскае ў далоні і рагоча з няхітрых жартаў. Мужчыну, які называе свой адрас — «Ялта, Рэспубліка Крым, Расійская Федэрацыя» — сустракаюць апладысментамі. З фразы, што «ў Парашэнкі твар не еўрапейца, а алкаголіка», смяюцца. Калі Салаўёў расказвае, як не паважае Познера, бо той раней быў савецкім прапагандыстам і ўвогуле «не мае яйцаў», — уважліва слухаюць.

«Забярыце нас, як Крым», — просіць хтосьці.

«Народ сам вырашае сваю будучыню. Такое пытанне нельга абмяркоўваць нават як жарт!» — адказвае Салаўёў.

Нарэшце, праз тры гадзіны сустрэча скончваецца. Задаволеная публіка разыходзіцца. Ідзе ў гардэроб і наш, айчынны салаўёў — вядучы «Справы прынцыпу» Вадзім Гігін, які сядзеў у адным з першых шэрагаў.

**Улад Швядовіч**

# «Адмірал Кузняцоў» як люстэрка

Слова «кадаўр» калісьці азначала проста мёртвае цела, аднак пасля аповесці братоў Стругацкіх «Панядзелак пачынаецца ў суботу» набыло новы сэнс — штучна створаны арганізм, які звонку выглядае як сапраўдны чалавек, але не мае ані свядомасці, ані ўявы, ані сумлення. Таго галоўнага, што адрознівае чалавека ад жывёлы.

У тыя самыя гады, калі пісалася аповесць Стругацкіх, у найвышэйшых колах савецкага кіраўніцтва працягвалася дыскусія, ці патрэбныя СССР караблі з авіяцыйным узбраеннем. Вынік спрэчак савецкіх адміралаў і камуністычных ідэолагаў стаў такім жа, што і ў «навуковай» працы махляра і дэмагога прафесара Выбягала, які лоўка карыстаўся савецкімі прапагандысцкімі лозунгамі — нарадзіліся небяспечныя істоты, якія звонку нагадваюць авіяносцы, але імі не з'яўляюцца.

### «Неарганізаваная рэпліка з залы»

Другая сусветная вайна, асабліва дзеянні амерыканскага флоту на Ціхім акіяне, даказалі вайскоўцам усіх краін эфектыўнасць караблёўавіяносцаў у марскіх баях і пры падтрымцы дзеянняў сваіх сухапутных сіл на беразе.

Авіяносцы адціснулі караблі з артылерыйскім узбраеннем на другое месца. Амерыканцы, брытанцы, японцы зразумелі, што менавіта марская авіяцыя робіцца галоўнай зброяй у змаганні з флотам праціўніка. Адны толькі ЗША за вайну пабудавалі 151 карабель гэтага тыпу — ад вялікіх да малых эскортных.

І менавіта 6 невялікіх эскортных авіяносцаў паставілі кропку ў самай вялікай марской бітве вайны — бітве ў затоцы Лейтэ. Цаною цяжкіх стратаў падчас бою каля вострава Самар яны адбілі магутны ўдар японскіх лінкараў і крэйсераў і прымусілі іх адступіць.

Такім чынам, у 1945 годзе для камандуючага савецкім ВМФ адмірала Мікалая Кузняцова (у ягоны гонар і будзе названы будучы авіяносец) важнасць авіяносцаў для будучыні флоту была відавочнай. Падчас абмеркавання праграмы ваеннамарскога будаўніцтва на 1946—1955 гады ён прапанаваў пачаць з будавання паўнавартаснага авіяносца. Гэта мусіў быць карабель водазмяшчэннем 15—17 тысяч тон з авіягрупай з 40 самалётаў рознага прызначэння, які б быў даступны для савецкай прамысловасці і інжынернай думкі нават у бедныя пасляваенныя гады.

Аднак «праект 72» гэтак і не быў рэалізаваны: якраз у гэты час у сталінскім СССР пачалася барацьба з «нізкапаклонствам перад Захадам». У выніку спасылкі на заходні і перш за ўсё амерыканскі баявы досвед сталі непрымальнымі.

У выніку спачатку адмірал Кузняцоў быў зняты з пасады галоўнакамандуючага ВМФ, а потым, у 1947 годзе, трапіў пад суд фактычна за тое, што падчас вайны абменьваўся з хаўруснікамі СССР ваеннай інфармацыяй. Яго не пасадзілі і не расстралялі, аднак вярнуцца да распрацоўкі праграмы будаўніцтва авіяносцаў удалося толькі пасля смерці Сталіна.

### «Адзіна слушны працэс»

Праект новага, пасляэталінскага, авіяносца прадугледжваў ужо 29 тысяч тон водазмяшчэння і 40 баявых машын, але рэактыўных, цяжэйшых. Пры гэтым планавалася збудаваць аж 9 такіх караблёў, якія былі б гатовыя ў першай палове 1960-х.

Але ў гэты час у Кузняцова, які зноў стаў камандуючым ВМФ, узнік новы канфлікт — з міністрам абароны маршалам Георгіем Жукавым. Адмірал быў зноў разжалаваны і цяпер ужо назаўсёды адпраўлены ў адстаўку.

Да ўлады ў краіне прыйшоў Мікіта Хрушчоў, які захапляўся ракетнай зброяй, у выніку чаго надводны флот СССР абмяжоўвалі новай ідэалагемай: трэба пераўзброіць караблі ракетамі. Амаль усе распрацоўкі вялікіх надводных караблёў былі спыненыя, у тым ліку авіяносцаў. Пачалася актыўная гонка ў сферы атамнага падводнага флоту.

Такім чынам, яшчэ дзесяць год СССР выключна рыхтаваў флот да ядзернага армагедону.

У той самы час на ўсёй планеце ішлі старыя і разгараліся новыя лакальныя канфлікты, у якіх здольнасць хутка перакідваць морам авіяцыю для падтрымкі сваіх войск ці проста для «халоднага» супрацьстаяння з флотам праціўніка мела важнае значэнне.

### «Не на той ідэал глядзіце!»

Адмірал Сяргей Гаршчоў, які 30 гадоў пасля Кузняцова ўзначальваў савецкі вайсковы флот, паставіў на развіццё савецкіх надводных караблёў, аднак і пасля Хрушчова яму прыйшлося мець справу з унутранай апазіцыяй сярод «падводнага лобі».

Да таго галоўным планам СССР быў найперш захоп Заходняй Еўропы, у працэсе чаго флот, па сутнасці, мусіў толькі падтрымліваць войскі на флангах.

Адсутнасць авіяносцаў у СССР і іх актыўнае выкарыстанне амерыканцамі, брытанцамі і французамі стварыла новыя савецкія ідэалагічныя стэрэатыпы. Караблі — носьбіты авіяцыі, якія могуць выкарыстоўвацца ў амаль любой сітуацыі і для любой мэты, партыйнае начальства пачало разглядаць як «зброю імперыялістычнай агрэсіі».

Спрэчкі і канфлікты паміж адміраламі, маршаламі і партыйнымі дзеячамі нарадзілі кампраміс, нашчадкам якога і стаў той «Кузняцоў», які закурodыміў неба над Атлантычным акіянам.

### «Мадэль універсальнага спажыўца»

Новы карабель, які пабудавалі ў 1975 годзе, класіфікавалі як «супрацьлодачны крэйсер з авіяцыйным узбраеннем».

Аднак «Кіеў», як яго назвалі, так і не стаў нармальным авіяносцам. Ён атрымаў моцнае ракетнае ўзбраенне, у выніку чаго вялікі карабель на 37 тысяч тон водазмяшчэння не меў паўнавартаснай лётнай палубы і мог прымаць толькі 36 самалётаў вертыкальнага ўзлёту і пасадкі.

Гэта адразу абмяжоўвала ўзбраенне «недаавіяносца» адным тыпам самалётаў — штурмавікамі Як-38, якія мелі адносна слабыя рухавікі і ўзбраенне. Як-38 не мог несці супрацькарабельных ракет, а лётныя характарыстыкі не дазвалялі яму змагацца з варожымі самалётамі.

Спрэчкі ў савецкім кіраўніцтве працягваліся, а савецкая прамысловасць будавала ўсё новыя малазапатрабаваныя быццам бы авіяносныя кадаўры: за «Кіевам» з'явіліся «Мінск», «Новарасійск», «Баку».

### Се ля ві

«У аддзеле Вечнай Маладосці пасля доўгай і працяглай хваро-



**Савецкі адмірал Мікалай Кузняцоў.**



**Японскі лінкар «Ямата» — гігант, які пацярпеў паразу ад маленькіх авіяносцаў.**



**«Каму патрэбная ваша праўда, калі яна замінае нам жыць?» — казаў Аляксей Епішаў, які з 1962 па 1985 год узначальваў Галоўнае палітычнае ўпраўленне Савецкай Арміі і ВМФ.**




**Амерыканскі штурмавік A-4C Skyhawk гатовы да вылету на палубе авіяносца Franklin D. Roosevelt, 1966 год.**

# расійскай магутнасці

бы памерла мадэль несмяротнага чалавека», — гэтыя словы з кнігі Стругацкіх даволі трапна адлюстроўваюць апошні этап гісторыі савецкага авіяноснага флоту. Дый лёс самога СССР, на галоўнай плошчы якога ляжала мадэль «вечна маладога» Ільіча.

Ужо ў 1980-я новым гібрыдам на шляху да паўнавартаснага авіяносца стала «Рыга» водазмяшчэннем у 60 тысяч тон, на якой ужо можна было эксплуатаваць цяжкія самалёты, аднак пры такім памеры іх было вельмі мала — каля 30 машын.

Амерыканскія авіяносцы класа *Midway*, якія служылі з 1945 да пачатку 1990-х гадоў, мелі водазмяшчэнне 45 тысяч тон і неслі да 70 паўнавартасных рэактыўных знішчальнікаў і ўдарных самалётаў.

«Рыгу» пасля смерці Леаніда Брэжнева перайменавалі ў гонар генсека, потым — у «Тбілісі», у 1990 годзе — апошні раз — у «Адмірал Флоту Савецкага Саюза Кузняцоў». Два недабудаваныя аднатыпныя караблі «Адмірал Гаршкоў» і «Вараг» былі прададзеныя Расіяй і Украінай, адпаведна, Індыі і Кітаю.

«Кузняцоў» гэтак і застаўся караблём з недалечанымі дзіцячымі хваробамі. Карабель рамантаваўся амаль бесперапынна: у 1994—1995, 1996—1998, 2001—2004, 2008 і перад самым выхадам у баявы паход у 2016 годзе.

Старая сілавая ўстаноўка і яе дрэнны стан выклікалі жарты тысяч інтэрнэт-карыстальнікаў, пасля таго як іх увагу прыцягнулі фотаздымкі і відэакадры з незвычайна шчыльным і чорным дымам, які падымаецца з каміноў авіяносца.

Маленькая для такога вялікага карабля авіягрупа, абумоўленая хібамі савецкай канцэпцыі авіяноснага крэйсера, таксама не дазваляе яму паўнавартасна выконваць баявыя задачы. Больш за тое, апошнія спадарожнікавыя здымкі сведчаць, што самалёты з «Кузняцова» не лятаюць на баявыя вылеты, іх пераялі на наземны аэрадром сірыйскай базы «Хмеймім».

**Аляксандр Гелагаеў**



«Кузняцоў».



Авіяносец Coral Sea класа Midway.




Фота вайскова-аналітычнага партала «Jane's». Гэты кадаўр, які, хутчэй, ганьбіць тое імя, якое носіць, застаецца адзіным авіяносцам на ўзбраенні Расіі і наўрад ці будзе мець нашчадкаў.



«Кіеў».

# Упершыню ўручаная Германа-Французская прэмія «За правы чалавека і вяршэнства закону»

Сумесны артыкул міністраў замежных спраў Францыі і Германіі **Жана-Марка Эро** і **Франка-Вальтэра Штайнмаера** з нагоды ўручэння Германа-Французскай прэміі «За правы чалавека і вяршэнства закону».

У пачатку снежня Германія і Францыя ўшаноўваюць смелых жанчын і мужчын, якія па ўсім свеце выступаюць за правы сваіх суграмадзян.

Гаворка ідзе пра такіх людзей, як бразільянка Марыя да Пенха, якая пасля нападу на яе ўласнага мужа прыкаваная да інваліднага вазка і сёння ўпарта змагаецца за абарону жанчын ад сямейнага гвалту. Суніта Крышнан з Індыі выступае супраць прымусовай прастытуцыі і гандлю людзьмі ў сваёй краіне, дзе многіх маладых жанчын, нават дзяўчынак, змушаюць да прастытуцыі. У Чадзе Жаклін Мудэйна вельмі мужна і з поспехам змагалася за тое, каб прыцягнуць былога прэзідэнта Хісенэ Хабрэ да адказу за здзейсненыя ў перыяд яго знаходжання ва ўладзе злачынствы. У Сірыі Раед аль-Салех раней быў бізнэсменам і займаўся гандлем электратэхнікай. Сёння ён з'яўляецца кіраўніком «Белых касак» — групы валанцёраў, якія дапамагаюць выцягваць людзей з руінаў пасля авіяўдараў і аднаўляць разбураную інфраструктуру. Часта пры выкананні сваёй місіі яны рызыкуюць жыццём.

Усе яны — людзі з самых розных куткоў свету. Людзі, на якіх зусім розны досвед наклаў свой адбітак. Аднак адно аб'ядноўвае іх усіх: яны змагаюцца за правы блізкага свайго.

Для таго, каб аддаць належнае гэтым мужным жанчынам і мужчынам ва ўсім свеце, мы вырашылі сумесна заснаваць Германа-Французскую прэмію «За правы чалавека і вяршэнства закону». На гэтым тыдні мы ўпершыню яе ўручым.

Гэтай прэміяй мы шануем людзей, якія з вялікай самааддачай рашуча выступаюць у абарону іншых. Пры гэтым яны часта падвяргаюць сябе вялікай рызыцы і працуюць у вельмі складаных умовах. Гэтыя жанчыны і мужчыны заслужылі нашу падзяку і падтрымку.

Для Германіі і Францыі абарона і прасоўванне правоў чалавека з'яўляюцца цэнтральным элементам нашай знешнепалітычнай дзейнасці. Правы чалавека — гэта аснова і неабходная ўмова для міру і справядлівасці ў нашым свеце. Таму мы як міжнародная супольнасць пасля жудасных войнаў XX стагоддзя абвясцілі пра сваю прыхільнасць да абароны і прасоўвання гэтых правоў — у рамках Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, АБСЕ, Рады Еўропы і Еўрапейскага саюза.

Сёння, аднак, мы павінны зрабіць усё для таго, каб гэтыя вялікія дасягненні не былі пад пытаннем. Мы бачым, што такая пагроза іх размывання існуе — у свеце, у якім усё больш урадаў абмяжоўваюць грамадскія і індывідуальныя свабоды, прыкрываючыся меркаваннямі бяспекі, палітычнай стабільнасці ці культурных асаблівасцяў. Мы гэта назіраем і ў дэмакратычных краінах. Там, дзе арыштоўваюць журналістаў, адвакатаў і членаў няўрадавых арганізацый. Там, дзе прысутнічае спакуса ўзвесці новыя сцены, хоць гісторыя нас вучыць, што сцены ніколі не вырашаюць праблем.

Германія і Францыя рашуча супрацьстаяць гэтаму.

Мы абодва падчас нашых сумесных паездак на ўласныя вочы ўбачылі, што бывае, калі людзям адмаўляюць у іх фундаментальных правах. Таму мы па ўсім свеце выступаем за іх абарону і прасоўванне. Пры гэтым мы выкарыстоўваем увесь спектр інструментаў нашай знешняй палітыкі — ад падтрымкі мясцовых праваабаронцаў да садзейнічання дэмакратычнаму дзяржаўнаму кіраванню; ад прадухілення крызісаў да постканфліктнага аднаўлення.

Як міністры замежных спраў, мы будзем упарта працягваць барацьбу за тое, каб не толькі выяўляць выпадкі парушэння правоў чалавека, але і актыўна абараняць людзей ад абмежавання асноўных свабодаў. Барацьбу за правы чалавека мы павінны весці сумесна і на ўсіх узроўнях. А Германа-Французская прэмія "За правы чалавека і вяршэнства закону" — сімвал гэтага.

Лаўрэатамі прэміі ў гэтым годзе, прапанаванымі нашымі германскімі і французскімі замежнымі прадстаўніцтвамі, з'яўляюцца: Тахміна Рахман (Бангладэш), Алег Гулак (Беларусь), Марыя да Пенха (Бразілія), Тун Сарай (Камбоджа), Максіміліен Нго Мбе (Камерун), Беверлі К. Джэйкабс (Канада), Жаклін Мудэйна (Чад), Ван Цяалін (Кітай), Мантсерат Салана Карбоні (Коста-Рыка), Суніта Крышнан (Індыя), Мэры Лоўлер (Ірландыя), П'етра Бартала (Італія), Эва Абу Халаве (Іарданія), Сара Белаль (Пакістан) і Валянціна Чараваценка (Расія). Спецыяльная прэмія прысуджаецца сірыйскай арганізацыі «Белыя каскі».

# Чалавек 2016 года Кацярына Сінюк

Працяг са старонкі 3.

Далёка не ў кожнай гісторыі ёсць опцыя націснуць кнопку і перавесці грошы. Многія расповеды паказваюць балючыя месцы нашага грамадства, а чытач сам вырашае, што яму рабіць з гэтым веданнем. Героямі матэрыялаў часопіса становяцца людзі з няпростымі лёсамі, якія не здаюцца і кожны дзень змагаюцца за сваё шчасце. Імі можна натхняцца, у іх можна вучыцца мужнасці і чалавечнасці.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: Распавядзіце пра ваша дзяцінства. Адкуль узялася вось гэтая баявая Кацярына Сінюк, якая зварочвае горы?**

**Кацярына Сінюк:** Я нарадзілася ў Брэсце. Журналістыка мяне прыцягвала яшчэ ў той час, калі сядзела на гаршку. Глядзела навіны і ўсё спрабавала зразумець, як людзі трапляюць у тэлевізар. У восьмым ці дзявятым класе ў нас з'явіўся гурток журналістыкі. Яго вяла настаўніца рускай мовы Аляксандра Ткачэнка, яна і зацікавіла гэтай прафесіяй. З дзявятага класа я ўжо пачала публікавацца ў буйных СМІ.

**«НН»: І адразу ўзяліся за праблемную тэму — скінхедаў.**

**КС:** Настаўніца калісьці сказала, што журналіст — гэта чалавек, які задае шмат пытанняў. І галоўнае пытанне, якое ён павінен задаваць, — «чаму?». Я гэта запомніла.

Хутка пасля таго, як я пайшла ў гурток, хлопчыка з нашай школы збілі скінхеды за аранжавыя матузкі на красоўках. Яго сям'я звярнулася ў міліцыю, але ім не дапамаглі. Прычым аказалася, што ў нас многіх школьнікаў збіваюць за матузкі ў розных раёнах горада, а міліцыя не прызнае гэтай праблемы. Мой артыкул у «Брэсцкім кур'еры», дзе я тады працавала пазаштатна, выклікаў вялікі рэзананс, і ўлады за праблему ўсё ж узяліся. Напружанасць са скінхедамі сапраўды пачала спадаць. Многія бацькі, чые дзеці пацярпелі, дзякавалі мне, дзіцяці, за тое, што я ўзняла гэтую тэму. Тады я ўпершыню адчула, што слова штосьці значыць. Што можна вырашаць праблему, нават калі нехта не хоча яе прызнаваць.

**«НН»: Скінхеды — далёка не адзіная вострая тэма, за якую вы браліся. Ва ўніверсітэце пасля шэрагу праблемных артыкулаў у вас былі праблемы з кіраўніцтвам ВНУ і КДБ. Было і такое, што вы атрымлівалі ананімныя пагрозы жыццю. Як бацькі ставіліся да вашай дзейнасці? Ці адчувалі падтрымку з боку грамадства?**

**КС:** Раней я чакала нейкай удзячнасці за вострыя матэрыялы, а цяпер не чакаю. Мне гэта не трэба. Журналіст павінен рабіць сваю працу сумленна, нягледзячы на тое, як яго ацэньваюць. У праекце «Імёны» я, бадай, упершыню бачу, што журналісты атрымліваюць нашмат больш падтрымкі, чым крытыкі. І тое, што чытачы адпраўляюць на заробак журналістам свае грошы, — таксама паказчык. Добрую журналістыку і добрыя справы людзі падтрымліваюць.

Бацькі таксама мяне заўсёды падтрымлівалі. Нават калі аднойчы маміну калегу ледзь не звольнілі пасля аднаго майго артыкула. Маці перажывала, казала, каб я прыбрала свой матэрыял. А я адказвала, што калі ўсё напісана праўдзіва і, больш за тое, яшчэ і праблема вырашаная, то няма чаго перажываць.

Калі ўлетку мы запускалі краўдфандынгавую кампанію на працу часопіса, бабуля, мама і брат былі першымі, хто перавёў па 30 рублёў.

Нейкага моцнага ціску на сябе ад каго б то ні было я ніколі не адчувала. І для мяне гэта паказчык: значыць, я сваю работу выканала правільна.

**«НН»: Гэтае жаданне — перамагчы сістэму, адкуль яно ў вас?**

**КС:** У праекце «Імёны» мы не хочам перамагаць сістэму, спрачацца з ёй ці нешта даказваць. Мы паказваем існуючыя праблемы і хочам стварыць сваю сістэму, у якой людзі самастойна арганізоўваюцца для іх вырашэння. Дзяржава сваю работу выконвае, а мы — сваю.

Калі я працавала на Tut.by (ад 2011 да 2015 года Кацярына працавала журналістам-рэдактаркай партала — **НН**), у мяне была звычка чытаць форумы. Я не магла зразумець, чаму людзі столькі пішуць, адкуль у іх час на гэта. У пэўны момант мне стала цікава, ці могуць людзі не толькі пісаць, але і ствараць.

**«НН»: Чаму сышлі з Tut.by?**

**КС:** Мне захацелася развівацца далей. Больш часу аддаваць не навінам, а кантактаваць з людзьмі і паказваць герояў. І калі зразумела, што краўдфандынг у Беларусі пачынае развівацца, супалі два мае жаданні — займацца гісторыямі і дапамагаць. Tut.by я ўдзячная за добрую школу журналістыкі.

**«НН»: Кожная гісторыя «Імён» праходзіць праз вас. Што вы пры гэтым адчуваеце?**

**КС:** Усе нашы героі сутыкаюцца з цяжкасцямі. Чытаць пра гэта, можа быць, не проста, спрацоўвае псіхалагічная абарона. Але заўсёды знаходзяцца героі, якія вырашаюць гэтую сітуацыю. Часта мы ў рэдакцыі здзіўляемся іх мужнасці і пачынаем бачыць праблему крыху па-іншаму. Праблемы — гэта нармальна. Іх проста трэба вырашаць.

**«НН»: Як грамадству трэба ставіцца да людзей з інваліднасцю?**

**КС:** У нас ёсць адзін герой, які ўжо ўвайшоў у маё жыццё і ў жыццё рэдакцыі, — Саша Макарчук. Ён кіруе камп'ютарам пры дапамозе голасу, таму што ўжо шэсць гадоў яго цела паралізавана. Калі мы камунікуем, забываю, што з ім нешта не так. Калі мне хочацца пажаліцца на стомленасць, я тэлефаную Сашу, і мне ні на што больш жаліцца не хочацца. Менавіта ён для мяне Чалавек года. І не толькі таму, што ён сам пераадолеў уласныя страхі і дэпрэсію.

Саша пачаў займацца дабрачыннасцю. Звярнуўся неяк да мяне і кажа: «Каця, пасля таго, як вы пра мяне напісалі, да мяне сталі звяртацца сваякі многіх інвалідаў. Кажуць, што паралізаваныя год за годам ляжаць на ложках і думаюць, што жыццё скончана. Просяць, каб я навучыў іх таксама карыстацца камп'ютарам. Я б запусціў нейкую анлайн-школу па дыстанцыйным навучанні інвалідаў, але няма грошай».

«Імёны» абвясцілі збор сродкаў на запуск Сашавай школы і сабралі за тыдзень амаль 5500 рублёў. Налета школа пачне працаваць.

Нашы героі ад нас нічым не адрозніваюцца, яны многаму нас вучаць, матывуюць. Я бачу, наколькі пазітыўна іх успрымаюць. Для мяне паказчык, што людзям цікавыя найперш чалавечыя якасці тых, з кім яны жывуць у адной краіне.

Ёсць валанцёры, якія дапамагаюць са шкадавання, але гэта няправільна, бо не можа вырашыць праблему. Мне падаецца, што здаровае грамадства тое, дзе з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі разам, на роўных вырашаюць праблемы.

**«НН»: У вашых матэрыялах чытаецца вялікая любоў і да жывёл.**

**КС:** Да праектаў дапамогі жывёлам я стаўлюся гэтак жа, як да іншых. Мяне вельмі крыўдзіць, калі пад зборам сродкаў для жывёл з'яўляюцца каментары кшталту: «Дапамажыце лепш людзям, чаго вы коткам дапамагаеце». Гэта не праблема аднаго чалавека, гэта праблема нашага грамадства, якое лічыць, што гэтым трэба дапамагаць, а гэтым — не трэба. Бяздомныя жывёлы — вялікая праблема, таму што няма закона, які б іх абараняў, няма ніякай дзяржаўнай праграмы па іх стэрылізацыі, няма буйных — і дзяржаўных, і прыватных — прытулкаў. І тут без уладаў наўрад ці штосьці ўдасца вырашыць. Хаця... Мы б знайшлі праграму, якая б займалася стэрылізацыяй жывёл на сістэмным узроўні, і дапамаглі ёй зборам сродкаў на гэта. А ўлады — заканадаўчымі мерамі.

**«НН»: Што для вас найгалоўнае ў жыцці?**

**КС:** Любоў. Каханне ў асабістым жыцці, любоў у працы. Гэта тое пачуццё, якое, мне падаецца, рухае ўсё.

**«НН»: А ў людзях?**

**КС:** Гуманізм, сістэмнае мысленне і рацыянальны падыход.

**«НН»: І што б вы назвалі найгалоўным у вашай працы?**

**КС:** Тое, што вялікая колькасць незнаёмых людзей вучыцца з нуля ствараць штосьці самастойна ў сацыяльнай сферы. Працаваць самім, а не казаць пра тое, што толькі дзяржава і ўлада павінны нешта рабіць.

Адзін з нашых паспяховых праектаў звязаны з фінансаваннем сацыяльных няняў на Гродзеншчыне. Пару месяцаў таму мы расказалі пра тое, як у шпіталі Гродна ляжаць у закрытых боксах хворыя дзеці, у якіх няма бацькоў. У медперсаналу няма часу для таго, каб пастаянна знаходзіцца з імі, а дзецям патрэбны не толькі медыкі, але і няні, якіх у беларускіх шпіталях няма як штатных адзінак. Пры гэтым у суседніх боксах ляжалі такія ж дзеці, з якімі побач заўсёды былі мамы.

Адзіная такая няня ў Беларусі ў якасці эксперыменту якраз і прыйшла працаваць у гэты шпіталь. Яе працу аплачваў Чырвоны Крыж, але грошы скончыліся. Мы абвясцілі збор сродкаў на гадавы заробак не адной, а дзвюм няням. За два тыдні чытачы сабралі грошай на аплату цэлага года работы... сямі няняў! Цяпер яны працуюць не толькі ў шпіталях Гродна, але яшчэ ў Навагрудку, Лідзе, Слоніме і Ваўкавыску. Людзі самі плацяць ім заробак. Мы разам з грамадствам фактычна з нуля стварылі інстытут няняў. Налета хочам дапамагчы Чырвонаму Крыжу распаўсюдзіць гэты досвед па ўсёй Беларусі.

Цяпер, напрыклад, збіраем сродкі на тое, каб адзіны у Беларусі фонд («Геном»), які дапамагае дзецям з рэдкімі генетычнымі захворваннямі, меў сталае фінансаванне на найбліжэйшы год. Калі будзе гэты фонд, то дзеці з невылечнымі захворваннямі будуць жыць лепш. Мы расказваем чытачам пра тое, як у нашай краіне жывуць такія сем'і і як шмат залежыць ад гэтага фонду, і людзі дапамагаюць. Ці яшчэ прыклад. Збіраем на працу самай вялікай у Мінску арганізацыі — клубнаму дому «Адкрытая душа», які займаецца сацыялізацыяй людзей, якія выйшлі з псіхіятрычных шпіталёў. Цяпер арганізацыя засталася без фінансавання. Чаму важны гэты праект? Таму што людзі, па якіх бы прычынах яны ні трапілі ў псіхбальніцу, выйдуць і будуць ведаць, як ім з нуля будаваць жыццё.

**«НН»: Хто быў сярод пачынальнікаў «Імён»? Як выглядае ваша каманда сёння?**

**КС:** Побач са мною былі журналісты-аднадумцы, але, уласна кажучы, пачынала адна. У рабоце з праектамі дапамагае краўдплатформа *Talaka.by*, сэрвісам для збору сродкаў якой мы карыстаемся. Ужо потым пачалі прыходзіць пазаштатныя аўтары. Ва ўсіх ёсць асноўная праца. Сёння касцяк каманды — два чалавекі. Я і Слава Корсак. Цягам гэтых васьмі месяцаў нам дыстанцыйна дапамагала Наталля Прыгодзіч з Гомеля.

**«НН»: Як бачыце будучыню праекта?**

**КС:** Тая мадэль, якую мы прапаноўваем людзям, аказалася нават больш запатрабаванай, чым мы меркавалі. Трэба рабіць «Імёны» яшчэ больш эфектыўнымі. Мы хочам пашыраць каманду да пяці чалавек і, адпаведна, павялічыць бюджэт. Другое — нам патрэбны фонд, які б займаўся сістэмным пошукам праектаў па краіне, аўдытам некамерцыйных арганізацый, магчыма, зборам сродкаў. «Талака» — гэта ўсё ж такі вітрына.

Цяпер, бліжэй да Новага года, прыходзіць шмат лістоў ад кампаній, дзе яны пішуць, што хочуць перадаць падарункі, рэчы для каго-небудзь. І яны пытаюцца, ці можам мы іх перадаць. Ім хочацца, каб была структура, якая дакладна ведае, каму патрэбная дапамога. Але пакуль што мы толькі часопіс, дзе з гісторыямі працуюць журналісты.

**«НН»: Хто тыя людзі, што дапамагаюць «Імёнам» і героям, пра якіх вы пішаце?**

**КС:** Мы шмат кантактуем з нашымі чытачамі. У мяне такое ўражанне, што палова тых, хто пераводзіць грошы, — праграмісты. А так — самыя розныя людзі. Інвалід, які амаль не рухаецца, таксама адпраўляе нам грошы. Бюджэтнікі, банкіры, бізнэсмены, сілавікі, самі журналісты і шмат іншых. Усе пераводы робяць фізічныя асобы.

**Настасся Роўда**

Пры канцы года «Імёны» пачнуць другую кампанію па зборы сродкаў на дзейнасць часопіса ў наступным годзе. Peралічыць грошы вы можаце:

– З дапамогай сістэмы АРІП (Сістэма «Разлік» (АРІП) > Ахвяраванні, дабрачыннасць > ИменаМедиа > Увесці прозвішча, імя і імя па бацьку > Увесці адрас для далейшай сувязі з вамі);

– На дабрачынны рахунак у банку. Установа «ИменаМедиа», 3135050052013 (933), Прыёрбанк, код 749, г. Мінск, ЦБП 102, УНП 192683195 (Назначэнне плацяжу: «Ахвяраванне на функцыянаванне ўстановы» — указваць абавязкова).

### На што яшчэ збіралі грошы праз «Талаку»

**Музыка**

«Партманэ» трыа — сабрана 10 140 рублёў

**Горад і інфраструктура**

Стварэнне парку мініяцюр ВКЛ — сабрана 8 590 руб.

**Кнігі**

Выданне дзённіка Андруся Горвата «Радзіва Прудок» — сабрана 5 290 руб.

Выданне «Хронік Нарніі» па-беларуску — сабрана 9 485 руб.

**Спорт**

Збор грошай на паездку Віталя Гуркова на чэмпіянат у Швецыю — сабрана 4 535 руб.

**Фільмы і мульты**

Пераклад мультфільмаў «Свінка Пэпа» на беларускую — сабрана 5 570 руб.

**Студзень**
**1** — Новы год
**1** — 550 гадоў вялікаму князю Жыгімонту Старому
**3** — 125 гадоў «бацьку фэнтэзі» Джону Рональду Руэлу Толкіну
**6** — 125 гадоў каталіцкаму святару і грамадскаму дзеячу Адаму Станкевічу
**7** — Раство ў праваслаўных
**6** — Тры Каралі ў каталікоў
**17** — 75 гадоў амерыканскаму баксёру Махамеду Алі
**18** — 135 гадоў архітэктару Іосіфу Лангбарду
**19** — Вадохрышча ў праваслаўных
**20** — 125 гадоў мовазнаўцу Браніславу Тарашкевічу
**20** — 125 гадоў збіральніку беларускай песні Рыгору Шырму
**25** — 75 гадоў славутаму партугальскаму футбалісту Эйсебіа

**Люты**
**2** — Грамніцы ў каталікоў і ўніятаў
**14** — Дзень святога Валянціна
**15** — Грамніцы ў праваслаўных
**20** — 50 гадоў лідару «Нірваны» Курту Кабэйну
**21** — Міжнародны дзень роднай мовы
**23** — 100 гадоў ад пачатку Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі

**Сакавік**
**1** — Папялец у каталікоў
**3** — 75 гадоў касманаўту Уладзіміру Кавалёнку
**8** — Міжнародны жаночы дзень
**8** — 125 гадоў дзяржаўнаму дзеячу БССР Аляксандру Чарвякову
**10** — 75 гадоў гісторыку і грамадскаму дзеячу Міхасю Ткачову
**11—12** — Пурым у юдэяў
**15** — Дзень Канстытуцыі
**22** — 75 гадоў дысідэнту Валерыю Шчукіну
**23** — 75 гадоў з дня гібелі Антона Луцкевіча ў савецкай турме
**25** — Дзень Волі

**Красавік**
**4** — 50 гадоў лідару гурту «Палац» Алегу Хаменку
**9** — Вербніца ў каталікоў і праваслаўных
**11—17** — Пэсах у юдэяў
**16** — Вялікдзень у каталікоў і праваслаўных
**25** — Радаўніца
**26** — Дзень Чарнобыльскай трагедыі

**Май**
**1** — Дзень працы
**3** — 75 гадоў пісьменніцы Марыі Вайцяшонак
**9** — Дзень Перамогі
**25** — Ушэсце ў праваслаўных і каталікоў
**27** — Пачатак месяца Рамадан у мусульман
**29** — 25 гадоў таму ў абарот уведзеныя беларускія грошы, так званыя зайчыкі

**Чэрвень**
**2** — 75 гадоў славутаму футбольнаму трэнеру Эдуарду Малафееву
**4** — Тройца ў праваслаўных
**14** — 150 гадоў фальклярысту і этнографу Мітрафану Доўнар-Запольскаму
**15** — Свята Божага Цела ў каталікоў
**18** — 75 гадоў «бітлу» Полу Макартні
**27** — 50 гадоў таму ў Лондане быў усталяваны першы банкамат
**28** — 75 гадоў з дня смерці Янкі Купалы
**29** — Святога Пятра і Паўла ў каталікоў

**Ліпень**
**2** — Дзень Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі
**3** — Дзень Рэспублікі
**6** — Купалле
**10** — 75 гадоў касманаўту Пятру Клімуку
**12** — Святога Пятра і Паўла ў праваслаўных



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Студзень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

### Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

### Сакавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

### Красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

### Май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

### Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

### Ліпень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

### Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

### Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

### Кастрычнік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

### Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

### Снежань

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

**13** — 75 гадоў амерыканскаму акцёру беларускага паходжання Харысану Форду
**27** — Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1990-м

**Жнівень**
**4** — 100 гадоў пісьменніку Янку Брылю
**6** — 500 гадоў таму Францішак Скарына выдае першую друкаваную беларускую кнігу
**15** — Успенне Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў каталікоў і ўніятаў
**19** — Яблычны Спас у праваслаўных
**23** — 100 гадоў паэту Пімену Панчанку
**28** — Спленне ў праваслаўных

**Верасень**
**1** — Сусветны дзень ведаў
**1** — Курбан-байрам у мусульман
**1** — 50 гадоў кіраўніку Беларускага Хельсінскага камітэта Алегу Гулаку
**8** — Дзень беларускай вайсковай славы
**14** — Узвіжанне ў каталікоў і ўніятаў
**21** — Рош Га-Шана (Новы год) у юдэяў
**22** — Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульман
**27** — Узвіжанне ў праваслаўных
**30** — 125 гадоў дзяячцы нацыянальнага адраджэння Зосьцы Верас

**Кастрычнік**
**1** — Пакроў ва ўніятаў
**5** — 50 гадоў мастацтвазнаўцу Сяргею Харэўскаму
**12** — 525 гадоў таму Хрыстафор Калумб адкрыў Амерыку
**14** — Пакроў у праваслаўных
**15** — 200 гадоў ад смерці Тадэвуша Касцюшкі
**28** — 50 гадоў славутай амерыканскай актрысе Джуліі Робертс
**31** — Хэлоўін

**Лістапад**
**1** — Дзень Усіх Святых у каталікоў
**2** — Дзяды
**7** — 100 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі
**7** — 150 гадоў польскаму хіміку і фізіку Марыі Кюры-Складоўскай
**12** — 50 гадоў журналістцы Ірыне Халіп
**16** — Дзень Маці Божай Вастрабрамскай
**27** — 75 гадоў музыканту Джымі Хендрыксу
**28** — Пачатак Піліпаўкі
**30** — 350 гадоў ірландскаму пісьменніку Джонатану Свіфту

**Снежань**
**10** — Дзень правоў чалавека
**25** — Божае Нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў

### Юбілеі года

**100** гадоў бел-чырвона-беламу сцягу
**175** гадоў таму ў Лагойску заснаваны першы ў Беларусі гістарычны музей
**175** гадоў назад упершыню быў ужыты тэрмін «Северо-Западный край» у дачыненні да беларускіх земляў
**300** гадоў таму ў Налібоках запрацавала шкляная мануфактура
**400** гадоў таму кашталян Мінска дазволіў у горадзе будаўніцтва мячэці
**500** гадоў беларускаму кнігадруку
**625** гадоў таму заключанае Востраўскае пагадненне
**750** гадоў таму зафіксаваныя першыя звесткі пра Магілёў
**850** гадоў з дня смерці Еўфрасінні Полацкай
**875** гадоў ад першых узгадак Гомеля
**950** гадоў таму ў летапісах упершыню згадваецца Мінск



# Куба лібрэ?

## Памёр Фідэль. Якім была Куба пры ім? Піша Алена Брава

Памёр Фідэль Кастра. «Страцілі мысліцеля, замены якому пакуль няма», прагучаў голас. Прагучала і іншае. «Фідэль — гэта расстрэлы, нэндза і беднасць», — напісаў новаабраны прэзідэнт ЗША Трамп. У інтэрнэце з’явіліся звесткі, што на момант Кубінскай рэвалюцыі Куба па валавым унутраным прадукце на душу насельніцтва абганяла Японію і Ірландыю, што ўжо тады краіна мела выдатную медыцыну — была на 13-м месцы ў свеце па дзіцячай смяротнасці. Мы папрасілі расказаць пра Кубу і пра камандантэ чалавека, які там жыў. Алена Брава (прозвішча па мужу) з Барысава выйшла замуж за кубінца і выехала на Востраў Свабоды ў 1989 годзе. Калі яна вырвалася адтуль нарэшце праз год, то напісала кнігу, што стала адной з вяршынь беларускай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў — «Каменданцкі час для ластавак». Нататкі, якія мы тут публікуем, рабіліся цягам 1989—1990 гадоў на Кубе. Гэтыя ўрыўкі не ўвайшлі ў першапачатковы тэкст аповесці «Каменданцкі час для ластавак».

### «Муніцыпальнае прадпрыемства харчовых прадуктаў крочыць да камунізму!»

Што гэта? У Санцьяга землятрус? Ці Гран П'едра — Вялікі Камень — сарваўся з месца, на якім праляжаў стагоддзі, і коціцца на нас? Ага, вунь яно што! Па вуліцы Агілера маршыруе дэманстрацыя: штогадовы парад-выстава сельгаспрадукцыі, якую вырошчваюць школьнікі ў працоўных лагерах. Дзеці нясуць намаляваныя на кавалках кардону капусту, моркву, памідоры. Нічога з гэтых бласлаўёных пладоў я не сустракала ў продажы. Куды знікае ўраджай? Разгадаць гэтую загадку, баюся, мне не пад сілу.

– Далібог, як абрыдлі гэтыя маршы! І собіла ж мне нарадзіцца ў краіне, дзе ўсё па талонах! — Рыдальта, які вучыўся ў Кіеве, даганяе мяне. — Кажы, што есці ўвогуле шкодна — і ты будзеш лічыцца палымяным рэвалюцыянерам!

«Муніцыпальнае прадпрыемства харчовых прадуктаў крочыць да камунізму!» — напісана на вялікім транспаранце, ён якраз праплывае міма нас.

Прайшло некалькі месяцаў, як я на востраве; першы шок мінуў, але кожны дзень прыносіць новыя неспадзяванкі.

– Адкрыю табе сакрэт, дзяўчынка: ідзе мода фарбаваць валасы. Пішы хутчэй дамоў, няхай перададуць з кім-небудзь любую фарбу — натуральна, тую, што бярэцца на чорныя валасы. На агентурных дадзеных, слоік будзе каштаваць 20 песа. З галадухі дакладна не сканаеш.

### Ай, мі мадрэ!

Крама «*La Amistad*» («Сяброўства»). Другі паверх — не для звычайных наведвальнікаў, там прадаюцца рэчы для дзяржаўных чыноўнікаў, якія едуць па справах у замежжа. Высокія боты з кракадзілавай скуры, прыгожыя тонкія швэдры, натуральныя шоўкавыя тканіны з Кітая і шмат чаго іншага.

На першым, адкрытым для ўсіх, паверсе — вырабы краін Варшаўскай дамовы: чэшскія і польскія сінтэтычныя блузкі, срэбныя ўпрыгажэнні, сумкі — усё шалёна дорага. Савецкі крышталь каштуе капейкі (буржуазная раскоша), затое за алюмініевы кацялок з лыжкай і ножыкам (паходны набор рэвалюцыянера) трэба выкласці кучу грошай. Дарма спадзявалася набыць грабеньчык, які тут нідзе не знайсці — падобна, прынцыпова. Нібыта мы жывем на Востраве Лысых. Ай, мі мадрэ! Я выйшла на вуліцу, амаль пустую ў гэтую гадзіну сіесты, толькі непадалёку слухалі музыку і адбівалі рукамі рытм маладыя нашчадкі афрыканскіх нявольнікаў. Пасля кандыцыянаванага паветра крамы спякота падалася невыноснай. Прадавачка вулічнага кафетэрыя спала, паклаўшы твар на прылавак; здавалася, нават выццё сірэны, якая абвяшчае пачатак вучэнняў па *Defensa* — абароне заваёў рэвалюцыі, — не ў стане пабудзіць яе. Затое маё з’яўленне выклікала энтузіязм у групе самцоў, што відавочна сумавалі тут:

— ¿Como estas, muňekita? ¡Ven aca! («Як справы, лялечка? Хадзі сюды!»)

Сонца паліць так, што адключаюцца ўсе разумовыя здольнасці, акрамя адной: утрымаць сябе на мяжы свядомасці. Я вольная ад рэвалюцыйнага аскетызму мясцовых, таму ў надзеі на цуд паўзу ў адно блаславёнае месца — у кандытарскую на Віа Сэнтраль. Але там зачынена. Набываю ў старой жанчыны два папяровыя мяшэчкі з лёдам, падфарбаваным лімонным сіропам: людзі гатуюць гэтую бурду, выскрабаючы лёд з маразілак.

Не, усё ж давядзецца завітаць у кавярню па шклянку вады. Тут купа мясцовых дзяўчат і замежных турыстаў — апошнія прыглядаюцца да выстаўленага «тавару». Насупраць пасёрбвае ром парачка: шаснаццацігадовая кубінка і джэнтльмен замежнага паходжання. Мара многіх дзяўчат — з’ехаць, пабраўшыся шлюбам з замежнікам. Аднак большасці з іх удаецца хіба падзарабіць сваім целам, каб на нейкі час пазбегнуць «цудаў» сістэмы жорсткага дзяржаўнага размеркавання прадуктаў і тавараў першай неабходнасці.

А што застаецца табе? Калі стрэскала свой тыднёвы паёк і ў страўніку пуста, зайдзі ў краму недалёка, утаропся вачамі ў пусты прылавак, пералічы манументальныя бляшанкі з савецкай згушчонкай — іх роўна восем, як і ўчора, як і паўгода таму, можа, гэта муляжы? — зірні на шчаслівы сон прадавачкі ды працуючы пад столлю магутны вентылятар пры дэфіцыце электраэнергіі ў краіне — і ў чарговы раз запытайся ў сябе: «Што я тут раблю?»

### Прасі дазволу

Звярнула ўвагу на тое, што служачыя нейкага сельскагаспадарчага кааператыва, офіс якога размяшчаецца насупраць, цэлы дзень тырчаць на балконе — п’юць каву, слухаюць музыку, у той час як гародніну на плантацыях, што належаць кааператыву, трэба думаць, на ўсю моц пажырае даўганосік. Такім жа чынам «працуе» і сваяк свякроўкі: гадзінамі слухае ў нас музычныя дыскі. Між тым сацыялістычная эканоміка падае ўсё ніжэй, а газеты звыкла абвінавачваюць «сусветны імперыялізм». Эмбарга, канечне, робіць сваю справу, але ніяўжо нічога не трэба рабіць самім?

— Што цябе здзіўляе? Столькі гадоў жылі на дапамогу СССР, ніхто не думаў, што гэта раптам скончыцца. Працоўны энтузіязм на сафры — з прапагандысцкіх фільмаў, не больш, — Ірына, старэйшая з нас, доўгажыхарка (15 гадоў на Кубе), выціскае сок з лаймаў. — Гаварыць тут пра вытворчую дысцыпліну — дарма вецер ганяць. Тут ніхто не працуе так, як мы, з ранку да вечара. Працуй не працуй — заробкі мізэрныя. Абавязковы паёк у краме каштуе капейкі, а на большае ўсё роўна не хопіць.

Тым не менш першае, чым я занялася ў Санцьяга — гэта пошукі працы. Усюды з прыязнай усмешкай казалі, што замежнікам трэба прасіць дазволу адпаведнага міністэрства. Гэта значыць звяртацца ў Гавану, чакаць, пакуль просьбу разгледзяць, усё можа зацягнуцца на месяцы. Ненадзейныя мы людзі, не жадаем выбіраць паміж сацыялізмам і смерцю.

Ірына абяцала паспрыяць у пошуку месца санітаркі ў шпіталі. Цікава, ці не ў тым, дзе муж, расказвае, праходзіў камісію перад арміяй: у адной вялікай палаце — мужчыны, жанчыны з дзецьмі, старыя разам. А мой узровень ідэйнай падрыхтоўкі аб’яўляўся недастатковым, каб выносіць гаршкі з-пад хворых кампаньерас!

### «Усім гасцям раздалі па бутэльцы піва»

У Ірыны вялікая кватэра ў Салада. З мужам яна развіталася даўно. Плячыстая, з вечнай цыгаркай у зубах, яна працуе ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі правінцыі Арыентэ, матляецца па вёсках на савецкім раздзяўбаным уазіку, лаецца са старшынямі кааператываў. Калі забаранілі гарбачоўскую прэсу, яна пайшла адстойваць свае права «мець уласнае меркаванне, не распаўсюджваючы яго»:

— Я ўжо не савецка, а кубінка, столькі год тут жыву!

— Чаму тады не прымаеш наша грамадзянства?

— Таму што кубінцы дыскрымінаваныя на Кубе больш за ўсіх.

Абмеркавалі выступ Фідэля на пахаванні кубінскіх інтэрнацыяналістаў; яго прамову, у якой камандантэ асуджае савецкія «гульні ў капіталізм».

— Сёння рабіла ўнутрывенны ўкол у сямейнага лекара — *medico de la familia*, — дзеліцца ўражаннямі адна з дзяўчат. — У мікрараёне Абель-Сантамарыя. Амбулаторыя ў невялікім двухпавярховіку, на другім паверсе — кватэрка лекара. У кансультацыі прыбрана, для стэрылізацыі і захоўвання медыкаментаў асобныя памяшканні. І чэргаў няма, не тое што ў паліклініцы ў цэнтры.

— А я на вяселлі пабывала, — пасміхаецца новенькая, украінка. Для яе тут усё пакуль што як цікавая гульня, толькі вось кінуць гуляць па ўласным жаданні не атрымаецца: ейны муж наўрад ці дазволіць вывезці сына ў выпадку разводу. — Спачатку нас некалькі гадзін марынавалі ў кватэры без вентылятара, маладыя тым часам ездзілі ў Кастыльё-дэль-Мора пакланяцца нейкім рэвалюцыйным машчам. Усім гасцям раздалі па бутэльцы піва і кардонцы з лыжкай



**Алена Брава**

скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Рабіла ў раённай газеце Барысава, у 1989 выехала з мужам і дачкой на Кубу. У 1990 вярнулася на радзіму ў родны Барысаў. Працавала на розных пасадах у раённай газеце «Адзінства» ў Барысаве. Праславіла яе кніга прозы «Каменданцкі час для ластавак» («Мастацкая літаратура», серыя «Дэбют», 2004).






Алена Брава з дачкой на Кубе ў 1989-м і «ластаўчына гняздо» — дом на вуліцы Агілера, дзе яна жыла.

салаты ды кавалкам торта. Затое скокі былі да раніцы. І як яны могуць танчыць на галодны страўнік? Падобна, людзі тут харчуюцца сонечным святлом і энергіяй зорак.

— Майго прыдурка ўчора забралі ў пастарунак, праўда, хутка вызвалілі, — кажа іншая. — Купіў у спекулянта 10 даляраў, аказаліся фальшывыя. Эх, мне позна вяртацца...

З адчаю яна аддала дачку ў першы клас школы пры савецкім консульстве. Там дзяўчынку, якая дрэнна гаворыць па-руску, лічаць разумова непаўнавартай.

— Уявіце, улезла ў маю касметычку, нафарбавалася. «*Mami, sin pintura yo soy fea!*» («Мама, без фарбы я непрыгожая!») Харчуецца смажанымі бананамі: з шасці гадоў дзецям малака не выдаюць. З жахам чакаю, калі ёй споўніцца дванаццаць і пачнуцца сельскагаспадарчыя работы, якія тут клічуць сэкс-работамі...

Словы «няма куды вярнуцца» гучаць як прысуд. Першае, пра што дзяўчаты пытаюцца адна ў адной пры знаёмстве: «Ці маеш куды вярнуцца?» У размове часта пачуеш: «І навошта яна ў бутэльку лезе, ёй жа няма куды вярнуцца». Усё наша жыццё тут праходзіць пад знакам прыездаў, вяртанняў...

## Бранзалеты з бляшанак

У бібліятэцы сёння экспануюцца работы майго знаёмага мастака: завушніцы з чорнага каралу, каралі з ракавін, бранзалеты... з бляшанак ад савецкай згушчонкі. Пра Куэльяра кажуць, што ён сантэра — пасвячоны ў афрыканскі культ. Тыя, хто мае справу з культам, выконваюць тут ролю псіхатэрапеўтаў, да іх звяртаюцца па парады, прадказанні. Зрэшты, вера ў магічныя рытуалы не перашкаджае дзяжурствам у Камітэце абароны рэвалюцыі — і наведванню каталіцкага сабора.

Куэльяр запрасіў мяне на маленькую «фіесту». Публіка — артыстычная эліта Санцьяга і турысты. У цэнтры — высахлы, як стручок фасолі, стары ў белай гуаявэры: знакаміты выканаўца кампазіцый у жанры «*feelings*» Гарсон. Сярод гасцей шмат немцаў, у перапынку яны пачынаюць спяваць нешта сваё, Гарсон нечакана падхоплівае. Рускія не пажадалі, каб іх абмінулі, і зацягнулі «Падмаскоўныя вечары» — хітры старэча гатовы падпяваць і гэтаму.

Ладзіць такую актыўнасць дазваляецца далёка не кожнаму. Тут скоса глядзяць на кантакты з замежнікамі, Куэльяру робяць паслабленне, бо падарункі для афіцыйных асобаў, што прыязджаюць з Гаваны, вырабляе менавіта ён.

## Ды не адна, а з Марыя

Вось дык навіна: Тамара вярнулася ў Беларусь! Ды не адна, а з далёкім сваяком кубінскага мужа — Марыя, з якім пабралася раптоўным шлюбам напярэдадні ад'езду. Навошта ёй спатрэбілася гэтая «даважка» да багажу? Можа, сорамна стала вяртацца з пустымі рукамі, а даляраў і брыльянтаў не нажыла, вось і прыхапіла Марыя, прывезла ў бацькоўскі барак, на камунальную кухню. Суседка па бараку смяротна зайздросціла і крала ў яе прадукты, Марыя трызніў Еўропай. Аднойчы кубінец знік разам з дакументамі: наіўны Марыя збег у Маскву прасіць палітычнага прытулку ў заходніх дзяржаў. У першую ж ноч на вакзале яго збілі, скралі дакументы і грошы. Замест пасольстваў, ён апынуўся ў ізалятары; яго палічылі каўказцам, а няздольнасць размаўляць па-расейску — зламысным запіраннем. Каб прымусіць «узгадаць» мову, білі. Прайшоў месяц, перш чым патрабаванне запрасіць кубінскага консула перасталі ўспрымаць як здзек. Тамары патэлефанавалі, яна паехала ў Маскву. Але Марыя яе не пазнаў і плёў лухту. Лячэнне, атрыманне новых дакументаў. Нарэшце Тамара вярнула праблемнага мужа на камунальную кухню. Аднойчы яна ўжо звыкла не знайшла Марыя дома; знікла і зладзеяватая суседка, якая, пэўна, вырашыла, што напаўзвар'яцелы кубінец дапаможа ёй перанесціся ў жаданае замежжа.

Я пераварваюся ў збіральніцу гісторый. І што мне з усім гэтым рабіць?

## Бяжы!

Мой першы і апошні снежань на Кубе прынёс некалькі анамальна халодных дзён. З 34 па Цэльсію тэмпература апусцілася да 15. На вуліцы ветрык беларускага верасня, а ў нашым доме, як і паўсюдна, няма аконнай шыбы, замест яе — дошчачкі-жалюзі. Да таго ж у паца сушацца мокрыя прасціны: учора быў дзень вады, якую ў Санцьяга даюць цяпер раз на чатыры дні. Муж паходжвае ў шортах, нібыта ўсім ад гэтага стане цяплей, і няма чаго тут усчынаць вэрхал. Разглядваю вулічны натоўп. Хтосьці нацягнуў прывезеную з СССР шубу са штучнага футра, паедзеную тараканамі, хтосьці «вязаную кофту з адным рукавом. Нейкая дзявуля крочыць у ботах, апранутых на босую нагу. Дапіваючы брыдкую каву, купленую па прадуктовай картцы, падлічваю нашы даходы. Так. Муж атрымоўвае 190 песа, коўдра каштуе 80, набудзеш — як жыць?

А вось наш гаванскі сябар даўно адмовіўся ад ядзерных распрацовак на карысць дзяржавы; цяпер ён таемна падключаецца да амерыканскіх спадарожнікаў, крадзе забаўляльныя праграмы, а потым прадае на чорным рынку. Нядзіўна, што ён падкупіў паліцыю Гаваны і жыве ў сваё задавальненне. «Ты будзеш смяяцца, калі даведаешся, што мяса і фрукты я купляю ў чалавека, які крадзе іх у сябе на працы — у валютным рэстаране, адзенне — у прадавачкі з крамы, прызначанай для замежнікаў, і гэтак далей. Злодзей пакрывае злодзея, але мы неабходныя нашаму сацыялізму: без нас ён не здолеў бы накарміць, апрануць насельніцтва і даць яму відовішчы».

Не, і гэта не выйсце, даражэнькая. Для цябе, у прыватнасці, выйсце адно. Сканчай са сваім місіянерствам ад перабудовы ды бяжы з гэтай нястомленай сонцам краіны. Каб тут жыць, трэба быць падобнай да іх. А яны — іншыя. Зусім. Нічога ты са сваёй душой не зробіш, бо яна за блізкім светам, у іншай краіне. Ты не здолееш задзьмуць тут сваю свечку, бо гарыць яна — у Беларусі.



# Канцлагер у цэнтры Мінска

Піша гісторык **Ніна Стужынская**.

У гэтым годзе, які ўжо ідзе на спад, сваё 95-годдзе мог бы «святкаваць» першы Мінскі канцэнтрацыйны лагер. Пра гэту карную ўстанову саромеліся пісаць гісторыкі, бо шараговы грамадзянін само слова «канцлагер» асацыюе з гітлераўскімі жахамі. Аднак не пра падзеі Другой сусветнай вайны пойдзе гаворка. За 20 гадоў да яе пачатку ў сталіцы Савецкай Беларусі запрацавала адна з «эфектыўных» вынаходак XX стагоддзя для «перавыхавання» грамадзян арганізацыі прымусовай працы і ўмацавання ўлады.

Звяртаючыся да гісторыі палітычных рэпрэсій, грамадскасць традыцыйна засяроджвае ўвагу на трагедыі 1930-х. У наступным, 2017 годзе, акрамя 100-гадовых рэвалюцыйных юбілеяў, — 80-годдзе велізарнай трагедыі народаў былога СССР, пік рэпрэсій, якія загубілі мільёны жыццяў. Аднак у цені крывавых 30-х засталіся малавядомымі, дрэнна вывучанымі 20-я гады, калі быў запушчаны карны механізм. Рэпрэсіўная сістэма бальшавізму — гэта тая аснова, на якой у кароткі тэрмін вырасла і ўмацавалася савецкая ўлада.

Установы «новага тыпу» ствараліся ВЧК ужо ў самым пачатку грамадзянскай вайны. Канцэнтрацыйныя лагеры для ваеннапалонных існавалі падчас вайны ў ваюючых дзяржавах, але лагеры для цывільных — вынаходніцтва бальшавікоў. Савецкая ўлада практыкавала стварэнне лагераў на закрытых тэрыторыях манастыроў, вялікіх маёнткаў, колішніх фабрык і заводаў.

### Канцлагер у манастырскіх сценах

Мінскі канцлагер быў арганізаваны ў цэнтры горада, у былым кляштары бернардынцаў і касцёле Святога Язэпа. Цяпер там, адразу за Ратушай, размешчаны архіў і гасцінічны комплекс «Манастырскі». Будынак добра пасаваў для канцэнтрацыі несавецкіх элементаў. Ад жніўня да снежня 1920 г. тут размяшчаўся перасыльны лагер для польскіх ваеннапалонных, з ліку якіх бальшавікі спрабавалі фармаваць чырвонаармейскія часткі. Задума правалілася. Як сведчаць зводкі ЧК, койданаўскія хлопцы Тадэвуш Станоўскі і Жорж Главацкі вывелі з канцлагера 200 палонных «палякаў» з 1-га кавалерыйскага палка «польскай чырвонай арміі», якія проста разышліся па хатах.

У канцы лістапада 1920 г. на нарадзе прадстаўнікоў ЧК Беларусі, ваенных уладаў і Рэўваенсавета Заходняга фронту было вырашана пачаць канцлагернае будаўніцтва ў Мінску. Для гэтага трэба было тэрмінова вызваліць будынак кляштара і перадаць памяшканне выключна лагеру.

Манахаў там, вядома, ужо не было, але іншыя пастаяльцы манастыра — харчовыя часткі 14-й брыгады 2-й дывізіі, павятовы мінскі ваенкамат — не спяшаліся з перасяленнем. Пісьмовы загад начальніка гарадской міліцыі Станіслава Мертэнса (ён больш вядомы як муж Веры Харужай, які ў 1936 г. напісаў на яе данос) паскорыў працэс. У дакуменце было асобна адзначана, што ў Беларусі «...ёсць вялікі кантынгент прысуджаных да лагернага зняволення, і іх працу можна неадкладна выкарыстоўваць».

### Разлік на тысячу зняволеных

Пасля атрымання дырэктываў праца па арганізацыі лагера закіпела. Ужо 2 лютага загадчык Мінканцлагера, нехта Восіпаў В.Ф., просіць «у тэрміновым парадку адпусціць 400 сажняў калючага дроту для ўладкавання вакол двара лагера калючай агароджы», рассылае патрабаванні на бляшаныя бакі і бляшаныя кубкі для вады на 1000 чалавек (!), бочкі, чарпакі і іншы посуд. У гаспадарцы патрэбныя былі сякеры, лямпы, сані і г.д. З усяго горада збіралі водаправодчыкаў, шкляроў, печнікоў. Лагернаму кіраўніцтву прыйшлося звяртацца ў Рабкрын (рабоча-сялянская інспекцыя) па дазвол наняць майстроў па свабоднай цане. Рынак наогул, як і рынак рабочай сілы, быў забаронены. Не прайшло і месяца, як на ўваходзе ў лагер была пастаўленая каравульная будка. Запрацавала лазня, неабходная ў барацьбе з тыфознымі вошамі.

Пакуль ішлі работы па ўладкаванні тэрыторыі, канцылярыю лагера і першых зняволеных вырашана было размясціць у былой пажарнай каланчы. Камісія ў складзе прадстаўнікоў «аддзела прымусработ Восіпава, наркамата ўнутраных спраў Келера, камітэта па дзяржаўных збудаваннях Тагера, рабоча-сялянскай інспекцыі Фадзімана агледзелі будынак былой каланчы на рагу Петрапаўлаўскай і Хрышчэнскай вуліц на прадмет прыстасавання яго для размяшчэння першай партыі асуджаных для адбыцця пакарання ў канцэнтрацыйным лагеры». Яшчэ да наваселля ў будынку было вырашана паставіць новыя дзверы, абсталяваць пякарню, скласці лазневую печ на 30 чалавек, мыльную забяспечыць начоўкамі і распачаць выраб тапчаноў.

Лагер пачаў функцыянаваць 2 сакавіка. Ужо ў маі там налічвалася 125 чалавек. На 4 ліпеня —155; 8 ліпеня — 170, 21 жніўня — ужо 356 чалавек. На 17 снежня 1921 года — 155 мужчын і 32 жанчыны. Колькасць так рэзка зменшылася, бо ўвосень 1921 г. адбыўся масавы вываз асуджаных у расійскія лагеры, першапачаткова ў наўгародскі.

Скора лагер стаў месцам утрымання закладнікаў, якіх пераводзілі з расійскіх канцэнтрацыйных лагераў і рыхтавалі для абмену на актывістаў камуністычных і левых партый на Захадзе. Прыдатныя кандыдатуры падбіралі і ў Беларусі — прадстаўнікі дваранства, каталіцкага духавенства, польскіх грамадскіх арганізацый, афіцэры і агенты польскіх спецслужбаў. З Яраслаўскага палітычнага ізалятара, Бутырскай турмы ў Мінскі канцлагер везлі групы асоб, прызначаных для абмену. Ксёндз Іосіф Александровіч адкрываў яраслаўскі спіс.

### Жаночае аддзяленне

У кастрычніку 1921 г. у лагеры з'явілася спецыяльнае жаночае аддзяленне. Хоць жанчыны паступалі з самага адкрыцця лагера, з лета нярэдкімі былі зняволеныя з дзецьмі. Яшчэ ў сакавіку было прынята рашэнне збудаваць «жаночы рэтырад у двары на 4 ачкі». Па «ачках» можна здагадацца, якое збудаванне планавала камісія. Яма пад «рэтырад» была ўжо гатовая.

Склад жанчын-зняволеных у мінскіх турмах да пачатку 1920-х кардынальна памяняўся. Калі раней гэта былі ў большасці зладзейкі, прастытуткі, гаспадыні прытонаў, дык цяпер, па сведчанні наглядчыка, «дамы пайшлі культурныя». Усе гэтыя «дамы» апынуліся ў лагеры па палітычных матывах. У перыяд, які разглядаецца, хваля арыштаў жанчын была на ўздыме. Арышт жанчыны, па сутнасці, азначаў разгром сям'і...

### Пабудова канцлагернага сацыялізму

У рапарце на імя наркама ўнутраных спраў камендант канцлагера наракаў на цяжкасці з уладкаваннем гаспадаркі падпарадкаванай яму ўстановы. Дэфіцыт цвікоў, электраправодкі, лямпачак і іншых неабходных рэчаў прымушаў Восіпава абіваць парогі ЧК у надзеі атрымаць штонебудзь з рэквізаванага ў грамадзян дабра, стукацца ў вайсковыя кабінеты, асабліва забеспячэнскія, самыя багатыя на той момант. Усе выдаткі і інвестыцыі акупяцца і абяцаюць немалыя выгады, запэўніваў начальства высокіх кабінетаў Восіпаў. «Паралельна з клопатамі аб хутчэйшым абсталяванні лагера, — маляваў ён прывабную карціну будучыні, — я пачаў рыхтаваць глебу для арганізацыі майстэрняў: 1) кравецкай, 2) шавецкай, 3) кравецка-рамонтнай. Майстэрні гэтыя я планую выкарыстоўваць выключна на забеспячэнне Чырвонай Арміі», — абяцаў камендант, вылучыўшы апошнюю фразу рапарта вялікімі літарамі.

Ідаць па ўсім, Восіпаў быў на сваім месцы і відавочна не без арганізатарскіх талентаў. Не прайшло і двух тыдняў, як часткова былі вырашаныя праблемы з транспартам: у лагер паступіла сем «каросліўых коней», спісаных з вайсковых частак і ветлазарэта. Вайсковае начальства таксама адчула свой інтарэс. Надзвычайны ўпаўнаважаны Савета абароны дамовіўся з камендантам на пашыў абмундзіравання і выраб абутку для голых і разутых чырвонаармейцаў. Для лагернай майстэрні вайсковыя забеспячэнцы вылучылі 20 швейных машын і сёе-тое з шавецкага рыштунку. Акрамя таго, упаўнаважаны не пашкадаваў 2 тысячы пудоў «рыззя-адзення», якое пасля «дэзынфекцыі і дбайнага сартавання павінна паступіць у папраўку».

Восіпаў паціраў рукі перад захапляльнай перспектывай лагернай вытворчасці «з велічэзнай прадукцыйнасцю» жаночай, у асноўным, працы. «Падрабязны план выкарыстання рабсілы ў майстэрнях будзе падрыхтаваны пасля арганізацыі такіх», — запэўнівала яго тлумачальная запіска на палях рапарта. Аб нормах выпрацоўкі і «тэхналогіях вытворчасці» адміністрацыя лагера запытвалася ў адпаведных наркаматах. Лагерных тэхнолагаў кансультавалі спецыялісты з аб'яднанняў Белскура і Беладзенне. Краўчыха-зняволеная павінна была пашыць за дзень (8 гадзін) 4 камплекты летняга абмундзіравання або споднай бялізны 3 з паловай камплекты.

### Малая Сляпянка — маёнтак ЧК

Нявольнікі лагера дзяліліся на групы: з правам вываду на знешнія працы і без права выхаду за калючы дрот. Асуджаныя па палітычных артыкулах у асноўным былі пазбаўленыя магчымасці працаваць за межамі лагера і занятыя былі ў майстэрнях. Тыя ж, хто выходзіў пад канвоем за тэрыторыю ў вялікіх і малых групах, давалі падпіску пра кругавую пaруку. За ўцёкі аднаго з групы каралі ўсіх.

Больш як трацiна зняволеных была занятая на сельгасработах у маёнтку Малая Сляпянка. Дамова аб арэндзе маёнтка была падпісаная з павятовым зямельным аддзелам 11 сакавіка 1921 г. на тры гады. Для наркамата ўнутраных спраў арганізатары лагера падрыхтавалі грунтоўны даклад аб неабходнасці выдзялення кавалка зямлі для вытворчасці сельгаспрадукцыі ў першую чаргу для сваіх патрэб. Падбіраліся надзелы недалёка ад горада па прычыне недахопу канваіраў. Маёнтак знаходзіўся за 3 кіламетры ад тагачаснай мяжы Мінска (паблізу цяперашняй Нацыянальнай бібліятэкі), пры Волменскім і Барысаўскім гасцінцах. 14 сакавіка Мінскі ўземаддзел выдзеліў канцлагеру ў апрацоўку 150 дзесяцін зямлі з маёнтка Малая Сляпянка і Хітрова.

Дакумент перадае тое пачуццё глыбокага задавальнення, з якім новыя гаспадары апісвалі былыя ўладанні памешчыка Паўла Хітрова. Малая Сляпянка прыцягнула ўвагу сілавікоў «добрым абсталяваннем, ...шырокімі жылымі і нежылымі памяшканнямі...», два флігелі і пяць драўляных дамоў былі ў нядрэнным стане, іх вырашана было выкарыстоўваць пад кватэры арыштаваных і канвою. «Фруктовы сад (400 дрэў) вельмі закінуты, — адзначыла камісія. — Панскі дом размешчаны вельмі маляўніча на вяршыні пагорка сярод запушчанага саду і парку, ён мае патрэбу ў капітальным рамонце», — апісваў прыгажосць і праблемы маёнтка новы кіраўнік, нехта Ткачэвіч. Было вырашана часу не губляць, «25—30 чалавек арыштаваных канцлагера пачнуць працы пад наглядам спецыяліста». Асноўныя кірункі сельгасвытворчасці былі вызначаны адразу: агародніцтва, птушкагадоўля, свінагадоўля, жывёлагадоўля і трусагадоўля.

У жніўні 1921 г. на палях і агародах маёнтка працавала 679 чалавек.

### Энкавэдыстаў прэміравалі бульбай

Восенню ў маёнтку Мінскага канцлагера сабралі добры ўраджай. Каб падзяліць агуркі, капусту і іншую гародніну, вырашчаную працаю зняволеных, 26 верасня засядала спецыяльная камісія з прадстаўнікоў аддзела прымусовых работ, міліцыі, наркамата харчавання, арміі. Палічылі — і «пусцілі слязу»: пасля абавязковых паставак і кампенсацыі харчовага падатку заставалася зусім няшмат. Затое ў вялікай колькасці сабралі бульбы. Бульбай было вырашана прэміраваць супрацоўнікаў НКВД, якія, як абвяшчае пратакол, «панеслі асаблівыя працы па арганізацыі і апрацоўцы маёнтка». Яшчэ адна спецыяльная камісія павінна была размеркаваць 200 пудоў бульбы. Да пратакола прыклалі спіс тых, хто асабліва адзначыўся на гэтых «сельгасработах». Наглядчыкі таксама галадалі і прасілі выдзеліць ім пайкі.

Адміністрацыя лагера адзначыла «выдатную працу зняволеных», хоць некаторыя «зусім голыя і босыя». І галодныя. Норма харчавання зняволенага лагера на ліпень 1921 г. складала: хлеба — 1 фунт (0,4 кг), крупаў — 32 залатнікі (1 залатнік — 4,25 г), мукі падкалотнай 1 і 3/5 фунта, тлушчу — 4 і 4 / 5 залатніка, цукру — 1 фунт, чаю — 1/5 залатніка. Нормы былі і на соль, перац, лаўровы ліст. Усё ў разліку на месяц! Няцяжка палічыць, што гэта вельмі мала. Досвед лагернага перавыхавання сведчыць, што пры наяўнасці адпаведных умоў ператварэнне ўчорашняга мяцежніка ў раба адбываецца вельмі хутка.

У верасні кіраўніцтва лагера падвяло некаторыя вынікі кіпучай работы. На прадпрыемствах і



**Ніна Стужынская**

гісторык, кандыдат гістарычных навук. Займаецца даследаваннем антысавецкага супраціву 1920-х і палітычных рэпрэсій у Беларусі. Аўтарка кнігі «Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву: 20-я гг. XX ст.».

**Паўстанцы і людзі з вышэйшай адукацыяй**

Пра кантынгент вязняў можна меркаваць з пратакола пасяджэння Калегіі ЧК Беларусі ад 30 кастрычніка 1921, у якім ёсць спіс асуджаных на год канцлагера.

Сцяпан Тэраўскі, Мінск, 55 год

Зінаіда Кароль, Слуцк, 20 год

МарыяКівула, Слуцк, 20 год

Рыгор Канстанцінаў, Херсонская губ., 45 год

Андрэй Бялевіч, Петраград, былы дваранін, прапаршчык старой арміі, 29 год

Леанід Вячорка, Слуцк, 28 год, сын святара, адукацыя вышэйшая

Васіль Тышкевіч, Слуцк, 26 год, электрамеханік

Пятро Багдашын, Слуцк, 32 гады, скончыў універсітэт у Кіеве

Аляксандр Дзятловіч, Какорычы (Случчына), паручнік старой арміі, 27 год

Надзея Белагаловік, Слуцк, 34 гады, абвінавачана за ўдзел у падпольнай антысавецкай арганізацыі і шпіянаж

**Лагерныя могілкі**

Паводле ўскосных звестак, пры сценах цяперашняй гасцініцы «Манастырская» знаходзяцца шматлікія пахаванні вязняў. У дакументах сустракаецца назва месца апошняга іх прытулку — могілкі «Брацкія», шматзначная назва.








Госці гатэля «Манастырскі» і не здагадваюцца, якія страхі тут рабіліся 100 гадоў таму.

ўстановах лагера, у маёнтку М. Сляпянка было занята 13730 чалавек. (Зняволеныя Мінскай турмы таксама прыцягваліся.) У лагеры былі арганізаваны цяслярная, кравецкая, кавальская, шавецкая майстэрні і асобна пры маёнтку — рымарская, кавальская, бляшаная. Частку ўраджаю вырашана было абмяняць на неабходныя інструменты. За пераносны горан і кавадла грамадзяніну Пазняку аддалі 28 пудоў бульбы, 10 пудоў капусты, 5 пудоў бручкі і пуд морквы.

Да надыходу халадоў планавалі абнесці плотам маёнтак, зашкліць памяшканні, перанесці катлы, прызначаныя для гатавання ежы вязням, у адрамантаваныя дамы, перакласці печы. Уладкоўваліся надоўга, патрэба ў дармавой працоўнай сіле была велізарнай.

## ...і сумачка жонкі наркама

Мінск імкліва бюракратызаваўся. Па разнарадцы зняволеных на працы можна скласці спіс устаноў горада, колькасць якіх здзіўляе. Практычна ўсе ўстановы рэспубліканскай улады падавалі заяўкі: у першую чаргу ўсе аддзелы Цэнтральнага дома камунальнай гаспадаркі (Камгаса), усе партыйныя структуры ад Цэнтральнага Бюро да раённых аддзелаў, Саўнаркам, галіновыя наркаматы, вядома, ЧК і НКВД, штаб асабліва прызначэння Рэсбел, Працоўна-сялянская інспекцыя.

Доўгім быў спіс гарадскіх устаноў і прадпрыемстваў: гарвыканкам, працоўная арцель «Ластаўка», серабранскі раённы клуб, Дом адпачынку №1, дзіцячы дом-камуна №2, Гарадская камісія дапамогі галадаючым, электрастанцыя, Белторф, Белкустпрам, 1-я бел. працоўная арцель, руска-ўкраінская мірная дэлегацыя і інш.

Ва ўстановах адзначаліся выпадкі крадзяжу вязнямі, якія працавалі там па разнарадцы. Асабліва кіраўніцтва лагера адзначыла крадзеж сумачкі ў канцылярыі Жансавета. Радыкюля пазбавілася (страшна сказаць!) пракурор Соф'я Шамардзіна, жонка наркама ўнутраных спраў Язэпа Адамовіча, перад якім дрыжала лагернае начальства.

## «Рабін Капялевіч ладзіць бурныя малебны»

Хто сядзеў? У лагер трапляль як за канкрэтную «віну» перад новай уладай, так і проста «падазроныя». Так, «Іваноўская Марыя Іосіфаўна, паступіла ў лагер 13 ліпеня 1921 г., 23 гады, дваранка, паходзіць з вёскі Суднікі Койданаўскай воласці. Беларуска, каталічка, мае хатнюю адукацыю. Арыштаваная як падазроная. Выпіска з прысуду рэўтрыбунала ад 7 ліпеня 1921 г. «Заключыць у канцлагер як падазроную на 1 год».

Заклапаціўшыся «рацыянальным выкарыстаннем працы зняволеных» (цытата з рапарта), камендант Восіпаў прапанаваў наркаму ўнутраных спраў ССРБ, згаданаму Адамовічу, сваю кваліфікацыю працоўнай сілы нявольнікаў, структураваўшы іх па артыкулах КК. «...Зняволеных, — з энтузіязмам рапартаваў ён, — можна смела падзяліць на 4 асноўныя групы: 1) прафспекулянтаў, бандытаў, к/р (контррэвалюцыянераў — **аўт.**) і закладнікаў, 2) савсупрацоўнікаў, асуджаных за сабатаж, злачынства па пасадзе і інш., 3) кваліфікаваных рабочых і 4) работнікаў зямлі». Першую групу начальнік лагера прапаноўваў «кінуць усю цалкам на цяжкія фізічныя працы», каб не заставалася ні часу, ні сіл на барацьбу з рэжымам. Другая — па абставінах (свае ўсё-такі). Трэцяй групе прадпісвалася праца ў майстэрнях. Чацвёртую «я меркаваў бы выкарыстоўваць у яе звыклай абстаноўцы» — па-гаспадарску распараджаўся новымі рабамі начальнік. Пазней лагерны кантынгент папоўніўся «нэпманамі», крымінальнікамі-рэцыдывістамі, савецкімі апаратчыкамі, асуджанымі за растрату, вайскоўцамі і нават службоўцамі асобых частак ЧК, якія прадавалі «сакрэты» замежным шпіёнам.

Восіпаў забыўся згадаць маленькую групу святароў. Слуцкія праваслаўныя, ігуменскія каталіцкія служкі Бога, прадстаўнікі іншых канфесій перыядычна аказваліся ў былым кляштары. «Рабін Капялевіч, — скардзіліся наглядчыкі, — збірае цэлы натоўп зняволеных і ладзіць бурныя малебны». Пасля чаго з'явілася забарона маліцца каму б там ні было.

## Паўстанцы і іх укрывальнікі

Лагерны кантынгент у Мінску меў сваю спецыфіку. Контррэвалюцыянеры — балахоўцы, зеленадубцы, савінкаўцы, партызаны шматлікіх антысавецкіх атрадаў Караткевіча, Моніча, Хвядашчэні і іншых сялянскіх важакоў — засялілі былыя манаскія келлі. Шарагоўцы арміі Булак-Балаховіча (напрыклад, 40-гадовы Сямён Тушынскі з Мазыршчыны), маладыя хлопцы з Прусінава Мінскага павета Міхаіл Каралецкі і Іосіф Луцэвіч ужо ў ліпені паступілі ў лагер. Паўгода балахоўцаў дапытвалі ў падвалах ЧК.

У канцы жніўня 1921 г. абрынуліся планы антысавецкіх арганізацый на ўсеагульнае паўстанне. Тэрыторыяй, дзе павінны былі разгарнуцца баі, меркавалася Міншчына. Ігуменскі павет разглядаўся як калідор для паходу на Маскву. У верасні 1921 г. дзясяткі зеленадубцаў і савінкаўцаў, арыштаваных у Мінску пасля правалу мінскага антысавецкага падполля, папоўнілі шэрагі зняволеных як у турме, так і ў лагеры. Прадстаўнікі літаральна ўсіх гарадскіх слаёў, творчай інтэлігенцыі вымушаныя былі працаваць у майстэрнях, на фермах і гародах лагера.

Практычна ўся Ігуменская арганізацыя Народнага саюза абароны Радзімы і Свабоды (НСЗР ІС), у большасці служачыя гарадскіх устаноў, таксама апынулася ў мінскіх месцах зняволення. Памешчыца Алена Іётка была зняволена ў келлі кляштара «за ўкрывальніцтва бандытаў» у сваім маёнтку ў вёсцы Волма. Асноўныя фігуры ігуменскага падполля, камандзіры Паўночна-Мінскай паўстанцкай партызанскай брыгады і іх сваякі, паступілі ў лагер пасля шматмесячнага знаходжання ў падвалах ЧК і на турэмных нарах. Іван Урбановіч быў арыштаваны за арганізацыю ўцёкаў дачкі Вольгі і зяця, вядомага арганізатара партызанскіх атрадаў Міхаіла Жылінскага. У лагеры апынулася жонка кіраўніка партызанскага аб'яднання каравокая рабацінстая (дае яе партрэт турэмная анкета) сялянка з вёскі Курганы Ігуменскага павета Антаніна Лабукова. Яе муж, Гаўрыла Кіруцін, хлопец іх Ардатаўскага павета Ніжагародскай губерні, вядомы баявік, узяў прозвішча жонкі ў якасці атаманская псеўданіма. Маленькая малапісьменная 28-гадовая сялянка была асуджаная выязной сесіяй рэвваентрыбуналу 4-й Смаленскай дывізіі. «За дапамогу» агенту НСЗРіС Лабукову пацярпела і мінчанка Аляксандра Сакалова. 52-гадовая ўдава, сівая, у зморшчынах, як апісвае бедную жанчыну архіўная турэмная справа, паступіла ў лагер, больш за год адмучыўшыся ў ЧК і турме. Рэўтрыбунал «знайшоў, што Сакалова ў жніўні 1921 г. прыняла і схавала ў сябе на кватэры агента, ён жа начальнік Паўночна-Мінскай групы партызанскіх атрадаў Лабукоў-Кіруцін, ведаючы аб прыналежнасці яго да гэтай арганізацыі».

Як у турме, так і ў лагеры назіралася вялікая канцэнтрацыя жыхароў Случчыны. Складаецца ўражанне, што ўлада актыўна зачышчала мяцежны павет пасля паўстання 1920 г.

Большасць арыштантаў выклікала пэўную цікавасць як адукаваныя кампетэнтныя спецыялісты. У справах зняволеных была нават графа «майстэрства». Людзі пісалі пра сябе рознае: краўчыха, электрык, шавец і нават «універсал», як вызначыў свае таленты Ян Валійскі, асуджаны за ўкрывальніцтва разведчыцы «Зялёнага дуба» Ганны Доўгерд.

Пасля вынясення прысуду доктару, вядомаму ў Мінску псіхіятру Сямёну Валачковічу, наркамат аховы здароўя закідаў ЧК просьбамі дазволіць лекару выходзіць на працы за межы лагера, у гарадскую бальніцу. На тую акалічнасць, што Валачковіч быў сваяком атамана Дзергача і жыў у доме Адамовічаў пасля ад'езду іх у Польшчу, уладам давялося заплюшчыць вочы.

## Паабяцаў намаляваць Троцкага і ўцёк

За ўцёкі ў першы раз уводзілася павелічэнне тэрміну зняволення ў дзесяць разоў, а за другія Рэвалюцыйны трыбунал меў права ўжыць расстрэл. Але з лагера беглі ўсё адно. Лягчэй за ўсё было арганізаваць уцёкі, калі група зняволеных выводзілася на працы ў горад. Канваір па вяртанні мог саступіць просьбам пастаянна галодных арыштантаў і дазволіць схадзіць на базар купіць ежы. У прыцемках часта вярталіся 9 чалавек з 10.

Цікавая гісторыя апісваецца ў рапарце каменданта лагера ад 3 ліпеня 1921 г. Малады мінчук-зняволены Самуіл Міндлін падахвоціўся намаляваць партрэты Леніна і Троцкага для лагернага клуба. Па дарозе ў Культкамісію па пэндзлі і фарбы «мастак» збег. Пасля ўцёкаў Міндліна ў лагеры рэжым стаў больш жорсткім: увялі праверку перапіскі,ператрусы пасля вываду на працу і вяртання ў лагер. Па прычыне малой колькасці аховы, вязняў, схільных да ўцёкаў, перавялі ў ДОПР. Камендант лагера звярнуўся ў НКВД з просьбай памянць вартавую каманду канцлагера, бо паміж наглядчыкамі і зняволенымі нарадзіліся «амаль родныя адносіны», таму пачасціліся ўцёкі. Беглі і жанчыны, асабліва тыя, хто воляю лёсу з расійскіх губерняў апынуўся ў Беларусі. Беглі ў стане крайняга адчаю, псіхічнага засмучэння. Лёс жанчын у лагеры быў вельмі незайздросным, вельмі ўразлівым. Суцяшала толькі тая акалічнасць, што тэрміны былі параўнальна невялікімі. Цяжарных «за адсутнасцю належных гігіенічных умоваў» адпускалі дадому. Амністыя да 8 Сакавіка давала надзею многім жанчынам датэрмінова апынуцца на волі.

Сістэма прымусовай працы ў 1918—1922 гг. стала, па сутнасці, адной з асноў новага савецкага грамадства. Ленінскі ўрад планамерна насаджае сістэму прымусовай працы. Мінскі лагер — толькі адзін у павуцінні дагулагаўскай прымусовай сістэмы працы. У працах Леніна дастаткова выказванняў «аб карысці» канцлагераў. Канцлагер з 1922 г. называўся ўжо лагерам прымусовай працы. Ён не быў такім жудасным, як гулагаўскія лагеры, аднак падобныя ўстановы — іх родапачынальнікі.

# Па слядах адной фальсіфікацыі

Піша **Антон Рудак**.

Калі б літаратурная прэмія Ежы Гедройца існавала дзесяць гадоў таму, узнагароду за найлепшую кнігу варта было б аддаць Сяргею Яршу і Сержуку Горбіку за раман у стылі навуковай фантастыкі «Беларускі супраціў», які быў выдадзены ў Львове ў 2006 годзе.

Калі б у Беларусі знайшоўся ў той час хаця б адзін чалавек, які прачытаў гэтую кнігу і зрабіў яе аналіз, існарыі вакол імя Міхала Вітушкі магло і не быць. Менавіта з гэтай кнігі і знятага паводле яе фільма «Беларускі пасляваенны антысавецкі супраціў. 1944—1957 гг.» пачалося пашырэнне ў масы міфаў аб «уваскрэслым» Вітушку і арганізацыі «Чорны кот», якую ён нібыта ўзначальваў. Саму кнігу тым часам да сёння мала хто трымаў у руках.

На 350 старонак аддрукаванага на ратапрынце томіка ў зялёнай вокладцы з цісненнем і «залатымі» надпісамі і 700 спасылак на дакументы і ўспаміны, каля 150 спасылак прыпадае на сведчанні і дакументы, якія, на нашую думку, былі папросту сфальсіфікаваныя ў часе стварэння кнігі — мы не бяромся сцвярджаць, ці самімі аўтарамі, ці іхнымі інфармантамі, якія ў кнізе пазначаныя ініцыяламі. Яшчэ каля 50 спасылак адносяцца чытача да сумнеўных сведчанняў іншага паходжання, што не пацвярджаюцца альтэрнатыўнымі крыніцамі (паведамленні эміграцыйнай прэсы, мемуары і г.д.).

### Х., Г. і Н. — тры крыніцы дэзынфармацыі

Такім чынам, 150 з 700 спасылак у кнізе (20%) адносяцца да сведчанняў асобаў, якія нікому, акрамя аўтараў, не вядомыя. Каля 50 з іх скіроўваюць да паведамленняў інфарманта, пазначанага як Х. — пры канцы кнігі ў спісе ўдзельнікаў супраціву пададзеная ягоная біяграма (с.359). Паводле яе, гэты чалавек у красавіку 1945 года дэсантаваўся ў складзе групы ў раёне Камянца і ўзначаліў партызанскі атрад «Белавежа», які дзейнічаў у Белавежскай пушчы да 1951 года, пакуль яго камандзір не адступіў на Захад, дзе жыў на час напісання кнігі. Ягоныя сведчанні, прыведзеныя ў кнізе, датуюцца лістападам 2005 — лютым 2006 года.



Вітушка ў паліцэйскай форме. Фота, знойдзенае Сяргеем Яршом.

Перадусім немалы сумнеў выклікае магчымасць нямецкага паветранага дэсанта ў БССР у красавіку 1945 года. К.Езавітаў, апісваючы перамовы камандзіра батальёна «Дальвіц» У.Родзькі з кіраўніком «Ягдфербанд-Ост СС» О.Скарцэні ў галоўным упраўленні войск СС у Берліне ў сакавіку 1945 года, сведчыць, што ў перакідцы «Дальвіца» паветраным шляхам было адмоўлена, бо, паводле словаў Скарцэні, у немцаў не ставала самалётаў, паліва і парашутаў (К.Езовитов. Воспоминания // Нёман, 1993, № 3, с.158—159). С. Ёрш у сваёй пазнейшай працы 2012 года пагаджаецца з меркаваннем даследчыкаў, што паветраныя дэсанты групы Скарцэні зрабіліся немагчымымі яшчэ ў лютым 1945 года (С.Ёрш. Дэсант у няпэўнасць, с.131). Якая ж загадкавая нацыцкая спецслужба магла перакінуць у БССР беларускага «партызана» ў красавіку 1945 года, калі нават нацыцкі дыверсант № 1 не мог такога дамагчыся?

**Вітушка Міхал Апанасавіч**

Псеўданімы: Лось, Рус/Рысь (Абвер), Місь/Муха (АК), Ноч (Рада БНР)

**Бацька — Апанас Восіпавіч Вітушка**, слуцкі павятовы ветэрынарны фельчар (па стане на 1900 год), першым шлюбам быў жанаты з Фёклай Міхайлаўнай Варэннікавай (1900). Лёс пасля 1917 года невядомы.

**Маці — Марыя (Маня) Ігнатаўна Крукоўская**, у 1939 годзе перанесла паралюш, у чэрвені 1941 года была эвакуяваная з менскага шпіталя на ўсход. Далейшы лёс невядомы.

**Брат — Аляксандр (Алесь) Вітушка** — перад вайной жыў у Пльзені (Чэхаславакія), скончыў медычны факультэт Пражскага ўніверсітэта, кіраўнік Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (1932–1939). Лёс пасля 1944 года невядомы.

**Зводная сястра — Надзея Апанасаўна Вітушка** (Пракапчук), 1901 (1902?) г.н. — у 1923 годзе з мужам Андрэем Пракапчуком перайшла польска-савецкую мяжу. Дацэнт кафедры арганічнай хіміі БДУ, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута хіміі АН БССР. Памерла перад пачаткам вайны ад сухотаў.

**Швагер — Андрэй Якаўлевіч Пракапчук** (1896–1970) — ваенны камісар Нясвіжа (1918–1919), супрацоўнік ЧК, удзельнік аперацыі па захопе Б.Савінкава (1924). Намеснік дэкана медыцынскага факультэта БДУ (1927), акадэмік, член прэзідыума АН БССР (1940), дырэктар Беларускага навукова-даследчага скурна-венералагічнага інстытута (1943–1963).

**Кузэн па маці — Дзмітры Дзянісавіч Касмовіч** (1909–1991) — скончыў Радашковіцкую беларускую гімназію, у 1932–1934 праходзіў службу ў польскім войску ў марскім батальёне ў Вэстэрплятэ, скончыў багаслоўскі факультэт Бялградскага ўніверсітэта (Югаславія). Увосень 1939 года ўдзельнічаў у Народным Сходзе Заходняй Беларусі і 5-ай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, у 1940–1941 вучыўся ў Мінскім політэхнічным інстытуце. Улетку 1941 быў кіраўніком дапаможнай паліцыі Менска, увосень таго ж года выехаў у Бранск, а потым у Смаленск, дзе быў кіраўніком дапаможнай паліцыі Смаленскай акругі і непасрэдным начальнікам М. Вітушкі, улетку 1944 года эвакуяваўся на Захад перад надыходам савецкіх войскаў. Абвінавачваўся савецкім бокам у вайсковым злачынстве — непасрэдным удзеле ў масавым расстрэле мірнага жыхарства г.п.Каспля Смаленскай вобласці 1.7.1942. Аўтар кнігі ўспамінаў «За вольную і суверэнную Беларусь».

**Каханая Зоя Аляксандраўна Коўш** (Каўшанка, 1911–1994) — скончыла Віленскую беларускую гімназію, юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, сяброўка Беларускага студэнцкага саюза. Удзельніца віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта. Бацька Аляксандр быў расстраляны СД у Плешчаніцах за дапамогу яўрэям. Улетку 1944 эвакуявалася на Захад перад надыходам савецкіх войскаў, арыштаваная ў 1947 годзе ў Берліне, вызвалілася з савецкіх лагераў у 1950, выйшла замуж за былога палітвязня Аляксандра Кратовіча, жыла ў Вільні. Пакінула ўспаміны аб выездзе з Вільні ў 1944 годзе разам з Вітушкам.

**Вітушка нарадзіўся** 5.11.1907 у Нясвіжы. Праваслаўны. Вучыўся ў Нясвіжскай (ліквідаваная ў 1926), Навагрудскай, Радашковіцкай, Віленскай гімназіях. Перад ліквідацыяй БСРГ быў прыняты ў яе шэрагі.

У Варшаве ад 1934 года. Студэнт дарожна-будаўнічага факультэта Пражскай і Варшаўскай політэхнікаў (ёсць звесткі пра два гады вучобы ў Варшаве). Узначальваў на Політэхніцы студэнцкае зямляцтва — Гурток віленчукоў. Сябар Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве (дзейнічала ў 1937–1939). Працаваў у сферы дарожнага будаўніцтва.

Ад 6.9.1939 у Нясвіжы, пасля 17.9.1939 кароткі час выконваў абавязкі кіраўніка гарадской міліцыі. Разам з Дз.Касмовічам падтрымліваў ліставанне з калегам з гімназіі Анатолем Шкуткам,

# Пра герояў і пакутнікаў

Піша гісторык **Аляксандр Пашкевіч**.

У пачатку лістапада ў беларускім сегменце сацыяльнай сеткі «Фэйсбук» разгарнулася вострая дыскусія, якая актыўна доўжылася некалькі дзён і канчаткова не затухла аж дагэтуль. Падставай да яе стала чарговая гадавіна з дня нараджэння «беларускага генерала вызвольнага фронту» Міхала Вітушкі, якая прыпадае на 5 лістапада. Хоць дата была і някруглая (народжанаму ў 1907 годзе дзеячу спаўнялася 109 гадоў), некаторыя актыўныя карыстальнікі «Фэйсбука» размясцілі на сваіх персанальных старонках допісы-пасты, у якіх узнёсла ўслаўлялі «нацыянальнага героя». На гэта ім рэзка запярэчыў шэф-рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько, які на сваёй старонцы напісаў, што «праслаўленне Міхала Вітушкі — сон розуму».

У выніку аказалася, што тэма цікавая надта многім, і за наступныя некалькі дзён па ёй выказаліся (як у падтрымку пазіцыі Дынько, так і супраць яе) шматлікія вядомыя ў Беларусі асобы: гісторык і паэт Антон Рудак, былы дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання і журналіст Мікола Маркевіч, журналіст і грамадскі дзеяч Алесь Кіркевіч, гісторыкі Алесь Гелагаеў, Тацціяна Працька і Андрэй Катлярчук, журналіст Анджэй Пачобут, пісьменнік Уладзіслаў Ахроменка ды іншыя. Карацей, тэма яўна зачапіла актыўных беларусаў. Пры гэтым варта адмыслова адзначыць, што гэта не была спрэчка беларускіх патрыётаў з носьбітамі расійскага імперскага, савецкага ці якога іншага, ідэйна скіраванага супраць беларускага руху, светапогляду. Прынцыповая дыскусія разгарэлася ўнутры беларускага патрыятычнага асяродку. Адно гэта сведчыць пра тое, што шэф-рэдактар «Нашай Нівы» свядома ці несвядома закрануў пытанне надзвычай важнае ды прынцыповае менавіта беларускай супольнасці, якое многіх хвалюе і не пакідае абыякавымі.

Перш чым выкладаць свой погляд на гэтую праблему, варта нагадаць, хто ж такі Міхал Вітушка, чым ён слаўны і чаму ўвогуле ягоная постаць здольная выклікаць такія эмоцыі. Першыя спробы раскруткі гэтай асобы ў якасці лідара шырокамаштабнага нацыянальнага ўзброенага супраціву, які нібыта разгарнуўся на тэрыторыі БССР і прымежных да яе тэрыторый пасля афіцыйнага заканчэння нямецка-савецкай вайны, датуюцца ў Беларусі сярэдзінай 1990-х гадоў. Гэта стаў рабіць у той час яшчэ зусім малады гісторык і журналіст са Слоніма Сяргей Ёрш, для якога тэма ваеннага і пасляваеннага беларускага супраціву на доўгія гады стала асноўнай. Прысвечаныя розным аспектам гэтай з'явы артыкулы рэгулярна з'яўляліся тады на старонках незалежнага перыядычнага друку, выходзілі таксама асобныя кнігі, брашуры і даведнікі як пад сапраўдным прозвішчам аўтара, так і пад шматлікімі псеўданімамі. Абагульненнем вынікаў усёй шматгадовай працы стала даволі аб'ёмная (382 старонкі) кніга «Беларускі супраціў», напісаная Яршом у суаўтарстве з Сержуком Горбікам і апублікаваная ў 2006 годзе.

Першакрыніцай для стварэння карціны шырокамаштабнага беларускага ўзброенага супраціву ў пасляваенны час сталі публікацыі ў беларускім эміграцыйным друку 1940—1980-х гг., якія па натуральных прычынах не маглі грунтавацца на цалкам праверaных аўтарамі фактах, а былі, хутчэй за ўсё, ці плёнам асабістай фантазіі аўтараў дзеля падняцця падупалага духу эмігрантаў, ці вынікам нейкай аператыўнай гульні на эміграцыйным фронце савецкіх спецслужбаў. З кожнай новай публікацыяй папулярызаваны Яршом і ягонымі паплечнікамі вобраз сеткі беларускіх падпольных фармаванняў з назвай «Чорны кот» пад агульным камандаваннем Вітушкі набываў усё большы размах, абрастаў усё новымі падрабязнасцямі. У выніку атрымалася эпічнае палатно шырокамаштабнага паспяхова змагання з савецкімі чэкістамі магутнай беларускай нацыянальнай партызанскай арміі з дзясяткамі тысяч прыхільнікаў па ўсёй Беларусі. Змаганне гэтае нібыта вялося ажно да канца 1950-х ці нават да пачатку 1960-х, і падчас яго доблесныя Вітушкавы ваякі здзейснілі шэраг надзвычай дзёрзкіх і маштабных акцый як у Беларусі, так і далёка за яе межамі, робячы напады на гарады і вайсковыя аб'екты, разганяючы партыйныя сходы, падрываючы цягнікі, арганізоўваючы замахі на найвышэйшае савецкае кіраўніцтва і г. д. Размах гэ-





9 февраля 1900 года
№ 8

М.В.Д.
Слуцкій уѣздный ветеринарный врачъ
Января 31 дн. 1900
№ 33
г. Слуцкъ Мин. губ.

Удостовѣреніе.

Дано сіе Слуцкому уѣздному ветеринарному фельдшеру Афанасію Осипову Витушко въ томъ, что съ моей стороны не имѣется препятствій ко вступленію его въ законный бракъ съ дѣвицею Феклою Михайловой Варенниковой, что подписью и приложеніемъ казенной печати удостовѣряю. г. Слуцкъ 1900 года Января 31 дня. При семъ приложена одна марка восьмидесяти копѣечнаго достоинства.
Слуцкій уѣздный ветеринарный врачъ Ив. Бялинскій



**Дакумент аб першым шлюбе Вітушкавага бацькі, цяпер прадаецца на адным з сеціўных аўкцыёнаў. Справа — Міхал Вітушка, злева — зводная сястра.**

У той час, нагадаем, набліжаўся штурм Берліна.

Зрэшты, існаванне ў Белавежскай пушчы якіх-кольвек партызанскіх атрадаў праз шэсць год пасля заканчэння вайны таксама падаецца амаль фантастычным. Здзіўляе таксама аператыўнасць аўтараў, якія здолелі апрацаваць і апублікаваць сведчанні спадара Х. за лічаныя месяцы (кніга з’явілася ўвосень 2006 года).

Каля 25 разоў аўтары спасылаюцца на паведамленні інфарманта Г., які, паводле іх сцверджання, у гады нямецкай акупацыі служыў у баранавіцкай СД (іншых біяграфічных звестак гэтай асобы ў кнізе няма). Пераважная большасць спасылак на Г. утрымліваецца ў першых трох раздзелах кнігі, якія прысвечаныя перыяду нямецкай акупацыі. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ў пасляваенным супраціве гэтая асоба не ўдзельнічала. Ягоныя паведамленні, датаваныя восенню 2005 года, аднак, з’яўляюцца крыніцай усіх сенсацыйных звестак аб арганізацыі праз СД беларускай падпольнай антысавецкай арганізацыі ў межах плана «Лібэн Кэтхэн».

Каля 30 спасылак пазначаныя як сведчанні інфарманта Н., датаваныя канцом 2005 года, пераважная большасць іх утрымліваецца ў трох апошніх частках, якія ахопліваюць перыяд пасля вызвалення Беларусі ад нацыстаў. Яшчэ каля 15 спасылак адносяць да сведчанняў іншых асобаў, чые імёны таксама не называюцца.

Роля ўсіх гэтых сведчанняў аднолькавая: яны змяшчаюць ці абгрунтоўваюць усе сенсацыйныя заявы, зробленыя ў кнізе. Яшчэ адна група сумнеўных крыніцаў — каля дзесяці спасылак на манаграфію «Барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі БССР. 1941–1944 гг.», якая нібыта захоўваецца ў «былым архіве ЦК КПСС у Маскве» і налічвае 8200 аркушаў (с.62). Дзіўна, аднак, што аўтары не падаюць простага архіўнага шыфра гэтай справы ў маскоўскім Цэнтры захоўвання сучаснай дакументацыі, што робіць немагчымым спраўджанне рэальнасці самога існавання гэтай крыніцы. Яшчэ адна цытаваная аўтарамі крыніца, месцазнаходжанне якой застаецца невядомым, — «Оперативные операции МГБ БССР против политического бандитизма в 1944–1950 гг. Курс лекций. Для служебного пользования», Масква, 1959 (с. 177 і далей).

Ніжэй паспрабуем разгледзець асобныя спрэчныя сцверджанні аўтараў «Беларускага супраціву» і іх інфармантаў.

## Партызаны ў Заслаўі

Аўтары пералічваюць атрады «Чорнага ката», якія нібыта былі падрыхтаваныя ў калдычэўскім лагеры, кожны з якіх мусіў налічваць як мінімум 200 чалавек. Найбольш інфармацыі прыведзена аб «Асобным беларуска-ўкраінскім дыверсійным батальёне», які быў створаны ўвесну 1944 года з ініцыятывы У.Родзькі з ліку «бульбаўцаў». Успамінамі Т.Бараўца і іншымі крыніцамі, аднак, гэты факт не пацвярджаецца. Уласна беларускія батальёны, па сцверджанні аўтараў, мелі назвы «Беласток», «Віцебск», «Ліцвіны» і «Сталіца». Камандзірам батальёна «Ліцвіны» нібыта быў прызначаны Юрка Луцкевіч (які, як вядома, насамрэч аказаўся ў складзе батальёна «Дальвіц»), а камандзірам батальёна «Сталіца» — Алег Лапіцкі (пад псеўданімам Алег Папковіч — насамрэч пасля прыходу савецкіх войскаў ён застаўся ў Вільні і вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі).

Паводле сцверджання аўтараў, група атрада «Сталіца» колькасцю каля 50—80 чалавек дзейнічала каля вёскі Дзехнаўка ля Заслаўя да восені 1946 года і мела радыёсувязь. Цяжка ўявіць, як такая актыўнасць партызан магла заставацца незаўважанай доўгі час у непасрэднай блізкасці ад Заслаўя і Менску, дзе нават няма вялікіх лясоў. Агулам па ўсёй Беларусі нібыта былі адмыслова пабудаваныя для ўдзельнікаў «Чорнага ката» 15 бункераў. Пра існаванне падобных збудаванняў на сёння, аднак, нічога не вядома.

## Штаб Вітушкі пад Варшавай

На с. 197—198 апавядаецца далейшы лёс атрада А. Бандыка, камандзіра роты 13-га батальёну СД, які дэзертаваў са сваім аддзелам пад Аўгустовым у ліпені 1944 года. Частка атрада далучылася да АК, што пацвярджаецца іншымі крыніцамі. Але, паводле Х., А.Бандык утварыў свой незалежны атрад, які дзейнічаў на Аўгустоўшчыне да 1946 года, здзейсніў у гэты перыяд больш за 70 баявых акцыяў (у тым ліку ажыццявіў напад на цягнік, вызваліўшы 350 беларусаў, якіх гвалтоўна рэпатрыявалі ў СССР), а ў 1947 «быў накіраваны на ахову галоўнага штаба беларускага партызанскага руху пад Варшаву». Каментары тут хіба залішнія. Натуральна, ніякіх дакументаў аб гэтых акцыях няма. Тым больш складана ўявіць сабе існаванне «штаба беларускіх партызан» у 1947 годзе пад Варшавай, у ПНР, дзе дзейнічала польская партызанка, негатыўна настроеная да ідэі беларускай незалежнасці.

**Працяг на старонцы 20.**

які быў старшынёй Беларускага прадстаўніцтва пры Міністэрстве ўнутраных спраў Германіі ў Берліне, да гэтага перыяду можна аднесці ўсталяванне М. Вітушкам сувязі з нямецкай выведкай. Увесну 1940 года быў арыштаваны НКВД, але адпушчаны па пратэкцыі А.Я.Пракапчука, пасля чаго пакінуў шэрагі міліцыі і працаваў паводле спецыяльнасці, на будаўніцтве дарог. У ліпені 1940 разам з Дз.Касмовічам здзейсніў няўдалую спробу перайсці савецка-нямецкую мяжу.

У ліпені 1941 года ўцёк ад пагрозы арышту паланізаванай паліцыяй у Нясвіжы, прызначаны намеснікам камандзіра дапаможнай паліцыі Менска (камандзір — Дз.Касмовіч), жыў у будынку менскай палявой камендатуры (сучасны адрас — Карла Маркса, 31). У верасні 1941 года наведваў Заходнюю Беларусь з мэтай «ратаваць беларускіх актывістаў, якім пагражала небяспека з боку палякаў».

Пасля 30 кастрычніка 1941 года ў Бранску, намеснік начальніка дапаможнай паліцыі Бранскай акругі. У студзені 1942 года эвакуяваўся з Бранска перад пагрозай штурму горада савецкімі войскамі. 20.1.1942 прызначаны адным з намеснікаў кіраўніка рады Беларускай народнай самапомачы. Ад 22.4.1942 — у Смаленску. 29.7.1942 наведваў Віцебск, 10.10.1942 — Менск. У красавіку 1943 года за ўдзел у акцыях супраць партызан узнагароджаны медалём для ўсходніх народаў з мячамі «За адвагу».

Пасля ліпеня 1943 года ў Магілёве, выкладчык афіцэрскай школы паліцыі. Ад снежня 1943 года ў Менску, на той момант меў ранг маёра. Адмовіўся далучыцца да Беларускай краёвай абароны праз канфлікт з Францішкам Кушалем. 27.6.1944 удзельнічаў у 2-м Усебеларускім кангрэсе. Пры канцы ліпеня 1944 года выехаў з Беларусі праз Вільню ў Лодзь.

Пасля ліпеня 1944 года — выкладчык тапаграфіі, тактыкі і шыхтавой падрыхтоўкі выведнай школы ў Дальвіцы (цяпер г.п.Далініна Чарняхоўскага раёна Калінінградскай вобласці). У ноч 17/18.11.1944 дэсантаваўся ў складзе групы з 27 чалавек ля вёскі Лаўрынкі Воранаўскага раёна, у снежні з чатырма дэсантнікамі далучыўся да атрада АК «Комара». Імаверна, быў забіты ў баі з часткамі НКВД 7.1.1945 ля возера Кернава.

**Працяг на старонцы 20.**

тай партызанкі, згодна з рэканструкцыяй даследчыкаў, аказаўся такі, што вядомы польскі гісторык Рафал Унук, прысвяціўшы ў свой час разгляду творчасці С. Ярша і ягоных аднадумцаў адмысловую публікацыю (па-беларуску надрукаваная ў № 7—8 часопіса «Arche» за 2008 год), з іроніяй заўважыў:«Калі б вышэйзгаданая версія беларускага падполля аказалася праўдзівай, то трэба было б несумненна прызнаць сетку «Чорны кот» самай эфектыўнай і найлепш арганізаванай паваеннай сеткай узброенага падполля ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, а генерала Вітушку — найвыбітнейшым камандзірам. Разгон партыйнага сходу ў Вільні ў 1951 г., напад на аэрадром пад Калінінградам у канцы 1940-х гадоў ці спроба атакі на райцэнтр Наваградак у 1949 г. — гэта акцыі, якіх не магло сабе дазволіць антыкамуністычнае польскае, украінскае, латышскае ці літоўскае падполле на піку свайго развіцця (1945—1947 гг.)».

Пасля заканчэння актыўнага супраціву ў Беларусі біяграфія Вітушкі, паводле С.Ярша, не скончылася, бо яму нібыта ўдалося ў 1953 г. паспяхова вывесці большую частку сваіх фармаванняў на Захад. Пасля ён, зноў жа нібыта, нейкі час нелегальна жыў у Польшчы, затым перабраўся ў Заходнюю Еўропу, некалькі разоў пад іншым прозвішчам наведваў радзіму, а памёр толькі ў красавіку 2006 года ў Заходняй Германіі, год з паловай не дажыўшы да свайго стагоддзя. Праўда, ніякіх доказаў гэтага факта, акрамя ўласных словаў, Сяргей Ёрш, які асабіста паведаміў беларусам пра смерць свайго героя праз некалькі месяцаў пасля яе, дагэтуль не падаў. Не выстаўленыя на суд грамадскасці ні цалкам, ні часткова і ўспаміны Вітушкі, якія той нібыта напісаў і пра існаванне якіх Ёрш згадаў у тым жа паведамленні дзесяцігадовай даўніны.

Увогуле, для ўсіх працаў С.Ярша характэрнае надзвычай некрытычнае стаўленне аўтара да крыніц. Любая, нават самая фантастычная, згадка пра чарговы факт беларускага супраціву абавязкова скарыстоўвалася ім у публікацыях без асаблівай праверкі верагоднасці інфармацыі.

Значная частка прыведзеных Яршом звестак грунтуецца на вышэй ужо згаданых паведамленнях эміграцыйнай прэсы, таксама шырока выкарыстоўваюцца вусныя сведчанні былых удзельнікаў супраціву. Прытым сведчанні гэтыя збольшага сабраныя ўжо ў XXI стагоддзі (то бок праз 50—60 гадоў пасля саміх падзей), а большасць апытаных — ананімы. Натуральна, што сенсацыйныя ўспаміны, напрыклад, «былога камандзіра партызанскага атрада «Белавежа» Х.» ці «былога актыўнага ўдзельніка беларускага партызанскага руху Н.» непазбежна будуць ставіцца пад сумнеў не толькі гісторыкамі-адмыслоўцамі, але і проста людзьмі з элементарным крытычным мысленнем. Каб верыць чалавеку — трэба для пачатку прынамсі ведаць, што гэта за чалавек і ці існуе ён увогуле ў прыродзе. Злоўжыванне ж менавіта такімі сумнеўнымі крыніцамі, якія немагчыма праверыць староннямy чалавеку, ператварае вонкава нібыта навуковую працу ў, паводле акрэслення Андрэя Пачобута, «байкі для патрыётаў».

Але якую небяспеку нясе гераізацыя асобы Міхала Вітушкі нават на падставе такой надзвычай сумнеўнай фактaлагічнай базы? Чаму не варта ўзносіць на шчыт чалавека, які мо і не з такім размахам, але ўсё ж такі, відаць, змагаўся за Беларусь? Чаму Андрэй Дынько так рэзка называе гераізацыю Вітушкі «сном розуму» і многія з зусім не апошніх у беларускім жыцці людзей з ім салідарныя?

Справа ў тым, што ўся пасляваенная частка біяграфіі Міхала Вітушкі, калі падысці да яе аналізу крытычна, выглядае фэйкавай, то бок цалкам прыдуманай спачатку супрацоўнікамі беларускай эміграцыйнай прэсы (або іхнымі невядомымі нам інфарматарамі), а пасля дадаткова дапоўненай (зноў-такі з апорай на вельмі сумнеўныя крыніцы) Сяргеем Яршом з паплечнікамі. На самай справе, паводле дакументаў савецкіх спецслужбаў, гэты чалавек загінуў яшчэ ў студзені 1945 г., і сур’ёзных падстаў для таго, каб у гэтым сумнявацца, пакуль што не з’явілася. Да таго ж часу Вітушка разам з іншым беларускім дзеячам Дзмітрыем Касмовічам камандаваў паліцыяй на Браншчыне і Смаленшчыне, а затым служыў у Беларускім паветрана-дэсантным батальёне «Дальвіц», пры дапамозе якога нямецкія нацысты намагаліся праводзіць дыверсійную дзейнасць супраць савецкіх войскаў ужо пасля таго, як былі вымушаныя адступіць з тэрыторыі Беларусі.

На гэтым перыядзе біяграфіі Вітушкі ягоныя глярыфікатары ніколі падрабязна не спыняліся, толькі згадваючы пра яго скарагаворкай ва ўступнай частцы да асноўнай, ужо пасляваеннай часткі жыццяпісу. Калі ж той пасляваеннай часткі ў рэальнасці не было, то пытанне стаўлення да ўшанавання канкрэтна Вітушкі фактычна падымае куды больш шырокую праблему: ці варта гераізаваць тых беларускіх вайсковых дзеячаў, якія праводзілі сваю дзейнасць ва ўмовах нямецкай акупацыі Беларусі, служачы ў фармаваннях, створаных пры ўдзеле і пад пільным кантролем нацыстаў?

**Працяг на старонцы 20.**

# Па слядах адной фальсіфікацыі

Працяг са старонкі 19.

### Зомбі-генерал

Асобны раздзел прысвечаны асвятленню версіі аўтараў аб «аперацыі прыкрыцця Міхала Вітушкі», у выніку якой замест яго дэсантаваўся ў лістападзе 1944 і быў забіты ў студзені 1945 года іншы чалавек. На с.110—111 аўтары прыпускаюць, што кіраўнік «Чорнага ката» М. Вітушка, прайшоўшы навучанне ў берлінскай школе СД, дэсантаваўся ў Беларусі ў снежні 1944 года, як сведчыць у сваіх успамінах Дз. Касмовіч. А ў ноч з 17 на 18 лістапада, паводле гіпотэзы аўтараў, дэсантаваўся афіцэр абвера Мікалай Вітушка (с.149). Агулам нібыта ў нямецкіх спецслужбах служылі таксама яшчэ Генрых і Пятро Вітушкі. Логіка аўтараў незразумелая, бо паўстае заканамернае пытанне: нашто было ў якасці «двайніка» Вітушкі выкарыстоўваць асобу з ідэнтычным прозвішчам, калі можна было знайсці чалавека з падобным выглядам і выдаць яму дакументы на імя Вітушкі? Імкненнем выдаць жаданае за сапраўднае выглядае і трактоўка згадкі Язэпа Сажыча пра «К.Вітушку» як магчыма сведчання пра існаванне «Колі Вітушкі», і іншыя пошукі аўтарамі ва ўспамінах сведкаў якіх-кольвек розначытанняў, што падмацоўвалі б іх гіпотэзу.

Аўтары прыводзяць адзіны больш-менш канкрэтны аргумент на карысць таго, што Міхал Вітушка дэсантаваўся не ў лістападзе 1944 года, а пазней: пра гэта нібыта распавядаў палітвязню Пятру Рашэтніку намеснік кіраўніка дэсанта 17.11.1944 Янка Гінько. Застаецца толькі дзівіцца, чаму адпаведнае сцверджанне ў кнізе не падмацаванае якой-кольвек спасылкай на яго непасрэдную крыніцу.

### Аперацыя прыкрыцця Юркі Луцкевіча

На с.183 згадваецца кіраўнік галіны «Беларусь-Поўдзень» «Чорнага ката» Георгі Луцкевіч. Варта звярнуць увагу, што ў вядомым рапарце Ф. Кушаля, напісаным паводле справаздачы агента Антона Дуды, таксама згадваецца як кіраўнік «Палескай групы» Георгі Луцкевіч (у расійскамоўным арыгінале так названы Юрка Луцкевіч). Рапарт, як прызнаюць аўтары, быў сфальсіфікаваны, але, на іх думку, у ім «фігуруюць рэальныя асобы... псеўданімы якіх і абшар дзеяння ведалі толькі адзінкі» — адсюль аўтары робяць выснову, што частка звестак у паказаннях Дуды адпавядае праўдзе.



**Класічнае фота, выкадроўка са здымка з братам, які друкаваўся ў НН у 2006.**

На наш погляд, аднак, у рапарце названыя агульнавядомыя асобы, пра якіх Кушаль ведаў, што яны ў 1944—1945 трапілі ў Беларусь (Ю.Луцкевіч, А.Бандык, Г.Багдановіч), што дазволіла яму цалкам сфальсіфікаваць тэкст рапарта і «справаздачы» А.Дуды, які ў рэчаіснасці не бачыў нікога са згаданых асобаў (калі ўвогуле быў у БССР, што таксама сумнеўна). Застаецца толькі дзівіцца, чаму аўтары, якім дакладна вядома, што Юрка Луцкевіч ад 1945 года сядзеў у лагерах, «прызначылі» яго кіраўніком партызанкі. Зрэшты, мо тут мы таксама маем справу з «аперацыяй прыкрыцця» — у такім выпадку нашыя прэтэнзіі надуманыя. У кароткім біяграфічным даведніку пры канцы кнігі можна пабачыць біяграмы і Георгія Луцкевіча, і Юркі Луцкевіча, але ніякіх звестак, што адзін з іх быў «двайніком» другога, аўтары не падаюць. Магчыма, гэтае сенсацыйнае адкрыццё яшчэ наперадзе, і нашая заўвага паспрыяе доследам у гэтай справе.

### Партызанскі фоташоп

Асобна варта звярнуць увагу на сціплы ілюстрацыйны матэрыял кнігі, дзе прадстаўленыя, між іншага, выявы вокладак партызанскіх выданняў «Як нашкодзіць ворагу» і «За што змагаюцца беларускія партызаны», а таксама вокладкі выдання «Оперативные операции МГБ БССР против политического бандитизма в 1944–1950 гг. Курс лекций» і даклада ў спецыяльную камісію Кангрэса ЗША пра дзейнасць арганізацыі «Чорны Кот» (!). Знешнія асаблівасці гэтых выяваў нагадваюць сумнавядомы выпадак фальсіфікацыі гэтымі ж аўтарамі выяваў выданняў «падпольнай БАПЦ», якія, як відаць нават няўзброеным вокам, былі выкананыя з выкарыстаннем сучасных фактураў, шрыфтоў і выяваў, з дапамогай адпаведнага графічнага рэдактара (гл. «Беларускі рэзыстанс» № 1 (5) 2008, с. 77—99).

### Партызанскія атрады штурмавалі гарады

На с.226 са спасылкай на інфарманта Н. апісваюцца сумесныя напады «Чорнага ката» і украінскіх «бульбаўцаў» на Кобрын і Гайнаўку ў 1946–1947 гг. і на Навагрудак 25 сакавіка 1948 года. Паводле аўтараў, у апошняй аперацыі, здзейсненай сіламі 130—170 чалавек, савецкія самалёты бамбардзіравалі Налібоцкую пушчу. На жаль, пра гэтыя падзеі, якія «здарыліся» 68 год таму, не памятае ніводзін жыхар Кобрына, Гайнаўкі і Навагрудка.

### Пагрозы гераізацыі

Такім чынам, азнаёміўшыся з працай С. Ярша і С. Горбіка «Беларускі супраціў», можна прыйсці да высновы, што значная частка сведчанняў з яе была сфальсіфікаваная імі самімі альбо трэцімі асобамі. Перадусім сфальсіфікаваныя сведчанні тычацца доказаў існавання ў паваенны час арганізаванага беларускага антысавецкага ўзброенага руху «Чорны кот» на чале з М. Вітушкам. Шматлікія і сістэматычныя фальсіфікацыі, нават калі і не сведчаць наўпрост пра несумленнасць аўтараў (якія, гіпатэтычна, маглі быць самі ўведзеныя ў зман), але прымушаюць прынамсі задумацца аб іх кампетэнтнасці.

У любым выпадку, кніга «Беларускі супраціў», на жаль, зрабілася першапрычынай беспадстаўнай гераізацыі Міхала Вітушкі, які, паводле інфармацыі аўтараў, быў супрацоўнікам СД — арганізацыі, прызнанай злачыннай у выніку Нюрнбергскага трыбуналу. Сёння, калі пагроза ад наступстваў усладнення таталітарных рэжымаў зрабілася асабліва відавочнай і актуальнай, надзвычай важна супрацьстаяць спробам правакацыі, дэманізацыі і нацыфікацыі беларускага нацыянальнага руху ў мінулым і ў сучаснасці.

Працяг са старонкі 19.

Ніжэй разгледзім спрэчныя сведчанні і іншыя дэталі.

### Геніюш пра Вітушку(-аў)

«Былі яшчэ Клаўсуць, Вітушка, Астапкевіч і інш. Яны пераважна пажаніліся з чэшкамі й жылі не ў Празе».

«Часам паказваўся ў Прагу Вітушка, які беларускасці не адрокся, але не ў галаве яму было мяняць высокі матэрыяльны ўзровень жыцця на крыжовую дарогу шчырага змагання за Беларусь».

«Да мяне падышоў Вітушка, сказаў, што завязе мяне да Арсеневай. Калі апынуліся ля ягонай машыны, такога нейкага «казла», ён спыніўся й кажа: «Ларыса Геніюш, я ненавіджу немцаў, я толькі й толькі беларус, але нам трэба здабыць не для народу, гэту зямлю нашу, і трэба нам усё дзеля гэтага выкарыстаць... Я мусяў сказаць вам гэта». — «А я й так гэта ведала».

**Ларыса Геніюш. «Споведзь»**

У апублікаваным тэксце ўспамінаў Ларысы Геніюш нідзе не называецца імя чалавека з прозвішчам Вітушка. Грунтуючыся на аналізе іншых крыніцаў, з вялікай доляй імавернасці можна сказаць, што два першыя фрагменты датычацца Алеся, і толькі трэці — Міхала Вітушкі.

### Кушаль

«Заступнікам Касмовіча па частцы вядзення следства быў Вітушка Міхал, чалавек, які не меў ані вайсковай, ані юрыдычнай асветы».

**Франц Кушаль. «Спробы арганізацыі Беларускага Войска»**

Такім чынам, з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што Вітушка на момант пачатку нямецка-савецкай вайны не меў доследу вайсковай службы.

### Кашнікаў і Клімаў

«В Минске [Альферчык] связался с белорусскими националистами — самостийниками Космовичем и Витушко. Эти двое... пользовались дурной славой за сотрудничество с Гестапо».

**Успаміны сябра НТС Кашнікава**

«Летом 1942 года мне пришлось принимать участие в подготовке и проведении в Смоленске совещания старост и начальников полиции районов области. На нем присутствовало человек двадцать НТСовцев, включая начальника окружной полиции Дмитрия Космовича и его заместителя Витушко Михаила Афанасьевича».

**Успаміны расейскага эмігранта М. Клімава**

Звесткі пра датычнасць Касмовіча і Вітушкі да «Народна-трудавога саюза» супярэчлівыя. Касмовіч у паваенны час аб сваёй датычнасці да НТС, падобна, не заяўляў. Сяброўства Альферчыка ў НТС сумневаў не выклікае.

### «Новая дарога»

Беластоцкая газета «Новая дарога» пісала 1 красавіка 1943 г.: «Пад умелым кіраўніцтвам Д.Касмовіча і Вітушкі хутка растуць аддзелы Самаахова, вызваляючы шторaз то новыя сёлы і раёны. Цяпер Самаахова лічыць шмат тысячаў байцоў, добра ўзброеных аўтаматычным аружжам, гарматамі і танкамі. Небяспека бандытызму зліквідавана... Баявыя вычыны афіцэраў і байцоў Самаахова не забыты таксама нямецкімі ўладамі. Нямецкае камандаванне адзначыла многіх ардэнамі з мячамі «За адвагу». Сярод іх, як першыя беларусы, атрымаўшыя гэтыя ардэны, выступаюць Касмовіч і Вітушка...»

### Сажыч

«К.Вітушка мяне пацешыў і сказаў, што мне трэба заставацца на Захадзе. Перад адлётам, спаткаўшыся з Вітушкам у Берліне, ён мяне абняў на развітанне і сказаў: «Маліся і жадай мне шчасця».

**Юзік С. Яшчэ і больш пра Усевалада Родзьку і некаторых ягоных школьных сяброў // Беларускі Дайджэст, № 8 (56), верасень 1998 г.**

Сажыч відавочна блытае імя Вітушкі, што С.Ёрш і С.Горбік малаперакананўча трактуюць як згадку аб «Колю», Мікалаю Вітушку.

### Шышэя

«У Варшаве эскадронаўцы прабылі дзён дзесяць, а 1 жніўня Рагуля загадаў ехаць далей у Дальвіц, але зноў-такі па добрай волі... Праз тыдні два ў Дальвіц з'явіўся і Усевалад Родзька са сваёй групай людзей да 30 чалавек. Прыехаў у Дальвіц і маёр Міхась Вітушка, а таксама маёр медыцынскай службы Глеб Багдановіч... У канцы верасня сталі рыхтаваць для адпраўкі і другую групу... Для адлёту ў складзе другой групы прызначылі 26 хлопцаў і дзве дзяўчыны-радысткі. Камандзірам групы стаў маёр Міхась Вітушка, палітруком — Янка Гінько. У склад групы ўвайшоў і маёр медыцынскай службы Глеб Багдановіч. Адабраных для адпраўкі перавезлі з Дальвіца ў Заходнюю Прусію ў маёнтак Вальбуш... А праз тыдні тры Вітушка даў загад спаліць усе

# Пра герояў і пакутнікаў

Працяг са старонкі 19.

Пытанне гэтае — наколькі важнае, настолькі і балючае. Міф пра подзвігі Вітушкі, нягледзячы на сваю слабую аргументаванасць, нездарма быў у свой час з энтузіязмам прыняты многімі нацыянальна арыентаванымі беларусамі і ў выніку аказаўся вельмі жывучым. Справа ў тым, што шмат хто з нацыянальнай патрыятычнай грамадскасці пакутаваў і дагэтуль пакутуе ад своеасаблівага комплексу нацыянальнай непаўнавартасці. Пасля набыцця ці аднаўлення незалежнасці ва ўсіх нашых суседзяў сталі актыўна выдавацца шматлікія даследаванні і зборнікі дакументаў пра гераічную шматгадовую барацьбу з усімі магчымымі ворагамі, якую вялі падчас вайны і пасля яе польская Армія Краёва і іншыя ўзброеныя партызанскія фармаванні, Украінская паўстанцкая армія, літоўскія «лясныя браты» і інш. Мы ж, беларусы, гэтым пахваліцца да пэўнага часу не маглі, што выклікала натуральнае засмучэнне беларускіх патрыётаў. Да таго ж і нацыябудаўніцтва ў Беларусі пасля першых поспехаў канца 1980-х — пачатку 1990-х гг. пачало прабуксоўваць, а да ўлады ў сярэдзіне 1990-х гг. прыйшлі (як аказалася, надоўга) рэваншысцкія сілы, пасля чаго працэс беларускага нацыянальнага адраджэння канчаткова страціў падтрымку дзяржавы. Фрустрацыя і расчараванне, якія агарнулі пры гэтым многіх свядомых беларусаў, выклікалі натуральную патрэбу ў патрыятычных гістарычных міфах, і працы Сяргея Ярша ў такой сітуацыі знайшлі ўдзячную аўдыторыю.

Не варта забывацца таксама, што 1990-я гады— гэта час, калі пасля дзесяцігоддзяў ідэалагічнай манаполіі камуністаў у Беларусі былі цалкам адкрытыя для даследчыкаў дзяржаўныя архівы, а ў многія ведамасныя (як той жа архіў КДБ) дзверы хоць і не адчыніліся насцеж, але прынамсі на некаторы час прыадчыніліся. У выніку фактычна кожны нумар тагачаснай гістарычнай (і не толькі) перыёдыкі прыносіў нейкія сенсацыйныя адкрыцці, адкрываў такія старонкі нацыянальнай гісторыі, пра якія раней ці зусім нічога не было вядома, ці ведама надта мала. Адкрыцці Ярша ў гэтую агульную плынь гарманічна ўпісаліся, тым больш што ён у сваіх публікацыях актыўна апеляваў да эмацыйнага чынніка: «КГБ не хоча прызнаць, што ў свой час пацярпеў паразу ў барацьбе з беларускім нацыяналістам, таленавітым вайскоўцам. Прызнаць гэта — значыць, даць прыклад змагання за Бацькаўшчыну сучасным маладым радыкалам. Дзесяткі гадоў мы нічога не ведалі пра нашага беларускага Бандэру, і вось праўда пра яго пачала прарывацца ў друк, даходзіць да моладзі» (Наша Ніва, 3 лістапада 1997 г., с. 11).

Але, нягледзячы на сапраўды тытанічныя высілкі Сяргея Ярша і ягоных памочнікаў, белару-

скага Бандэру з Вітушкі зляпіць усё ж не ўдалося. Слабасць падобных канцэпцый — у тым, што яны маюць патрэбу ў пастаянным пацвярджэнні новымі фактамі, прытым пажадана з аўтарытэтных і незаангажаваных крыніц. У выпадку з Вітушкам Ёрш, вычарпаўшы хоць і надзвычай сумнеўныя паводле верагоднасці, але прынамсі рэальныя крыніцы, мусіў дапаўняць сваю версію падзей усё больш фантастычнымі падрабязнасцямі з апорай на сведчанні відавочных фантомаў. Дзеля таго вера ў праўдзівасць легенды пра пасляваеннага бравага генерала з часам падупала ў многіх нават раней актыўных яе адэптаў. Але як жа можна проста адвярнуцца ад «героя», на стварэнне вобраза якога патрачана столькі часу ды энергіі? Вось і з'яўляюцца ў наш час галасы, што не так ужо на самай справе і важна, кіраваў Вітушка пасляваенным супрацівам ці не. Галоўнае — што ён усё ж такі ў выніку загінуў са зброяй у руках, ваюючы супраць войскаў НКВД. Значыць, так ці інакш ён герой беларускага антысавецкага супраціву. І мы, як свядомыя беларусы, мусім яго за гэта шанаваць.

Але ў гэтым якраз і хаваецца сапраўдная пастка, бо тут ужо нікуды не падзецца ад паліцэйскага эпізоду біяграфіі Вітушкі, які мог бы падавацца малазначным толькі ў выпадку перакрыцця наступнымі грандыёзнымі геройчнымі здзяйсненнямі.Прыхільнікі далейшага ўшанавання Вітушкі, праўда, апелююць да прэзумпцыі невінаватасці: маўляў, калі не даведзена канкрэтнымі фактамі тое, што ён асабіста рабіў нейкія злачынныя дзеянні і мае на сваім сумленні кроў бязвінных людзей, то ніякіх маральных перашкодаў для яго шанавання як нацыянальнага героя няма. Але, на маю думку, прэзумпцыя невінаватасці можа і нават мусіць прымяняцца, калі гаворка ідзе пра змаганне з неабгрунтаванай дэманізацыяй таго ці іншага дзеяча і перакладання на яго не толькі ўласных, але і відавочна чужых грахоў (у свой час падрабязна пісаў пра гэта ў вялікім артыкуле, надрукаваным у № 3 часопіса «Arche» за 2013 год). У той час як для гераізацыі адной прэзумпцыі невінаватасці ўжо яўна недастаткова. Фармальная недаказанасць віны ўсё ж такі не адмяняе вялікай верагоднасці, што яна такі была. Бо акупанты, якія прыйшлі ў Беларусь тым разам і з якімі беларуская нацыянальныя дзеячы наважыліся супрацоўнічаць, былі не зусім звычайныя. Яны прыйшлі на чужыя землі, узброеныя чалавеканенавісніцкай ідэалогіяй, згодна з якой планавалі фізічна знішчыць мільёны людзей толькі за тое, што яны мелі «няправільнае» расавае паходжанне. І не толькі планавалі, але і неадкладна пачалі ўвасабляць планы ў жыццё. Тыя ж тутэйшыя жыхары, якія не падлягалі неадкладнаму знішчэнню, лічыліся, паводле той жа расавай тэорыі, людзьмі другога гатунку, і іх жыццё ў вачах акупантаў таксама мала чаго каштавала. У выніку ўсе тры гады, пакуль на тэрыторыі Беларусі трывала нямецкая акупацыя, тут няспынна лілася кроў бязвінных ахвяраў, не запэўніцца ў якой, супрацоўнічаючы (нават з самымі найлепшымі пачатковымі намерамі) з акупантамі, было надта складана, калі ўвогуле магчыма. Асабліва тым людзям, якім немцы давяралі зброю. Бо давяралі яны яе дзеля лепшага дасягнення ўласных мэтаў, а не дзеля спрыяння развіццю нейкіх рухаў і нацый.

Менавіта таму акурат кіраўнікі ўзброеных фармаванняў пад нямецкім кантролем — найвышэйшая група рызыкі, калі казаць пра магчымасць быць заплямленым крывёю бязвінных ахвяраў. Як ні круці, але паліцэйскія фармаванні з мясцовага насельніцтва ствараліся нацыстамі ў тым ліку і для таго, каб у той ці іншай ступені задзейнічаць іх пры рэалізацыі масавых этнічных, расавых ды ідэалагічных чыстак, прадугледжаных іхняй ідэалогіяй. І сведчанняў пра тое, што да вырашэння гэтых задач мясцовыя паліцыянты актыўна прыцягваліся на ўсёй акупаванай тэрыторыі — безліч. Пра гэта напісаныя манаграфіі, выдадзеныя зборнікі дакументаў, ёсць шматлікія згадкі ва ўспамінах. І не варта бескрытычна прымаць на веру нават дакументальныя сведчанні, што тыя ці іншыя фармаванні змагаліся толькі і выключна з партызанамі, а мірных жыхароў нібыта не чапалі. Добра ж вядома, што тыя ж сотні спаленых разам з жыхарамі беларускіх вёсак таксама нішчыліся ў рамках нібыта антыпартызанскай барацьбы. А ў дакументах крывавыя расправы над безабароннымі жанчынамі, старымі і дзецьмі часцяком прыкрываліся эўфемізмамі. Таму даказаная канкрэтная віна канкрэтнага паліцыянта ці не даказаная — усё адно цень на ягоную асобу ўдзел у падобных фармаваннях кідае. Тым больш калі гаворка ідзе не пра шарагоўца, а пра аднаго з кіраўнікоў фармавання. То ці так ужо патрэбныя нам у нацыянальным пантэоне падобныя героі? І галоўнае — дзеля чаго? Каб пастаянна за іх апраўдвацца, часта пры гэтым прыцягваючы відавочна нацягнутыя ды штучныя аргументы?

Варта пры гэтым усведамляць, што супрацоўніцтва беларускіх дзеячаў з нацыстамі, а ў выніку ў той ці іншай ступені падзел з імі часткі адказнасці (хоць бы нават толькі маральнай) за здзейсненыя імі злачынствы — гэта не падстава для таго, каб агульна шальмаваць гэты рух і прыпісваць яму нейкую падсвядомую прыродную злачыннасць. Што ахвотна рабілі штатныя савецкія прапагандысты і працягваюць рабіць сёння іх духоўныя нашчадкі. За ўсю сваю гісторыю беларускі нацыянальны рух ніколі ідэалагічна не грунтаваўся на распальванні міжнацыянальнай варожасці і не прадугледжваў у якасці метадаў для дасягнення сваіх мэтаў маштабных этнічных чыстак. Той жа антысемітызм, хоць і пракідаўся, натуральна, у асобных дзеячаў, ніколі не быў у беларускім руху, як цяпер модна казаць, мэйнстрымам. У той жа час да пачатку нямецка-савецкай вайны гэты рух набыў выразна антысавецкі і антыпольскі характар, бо папярэдні гістарычны досвед не пакідаў аніякіх ілюзій адносна сапраўднага стаўлення да Беларусі і беларускасці як палякаў, так і Саветаў. У такіх умовах актыўнае супрацоўніцтва з той сілай, якая часова пазбавіла ўлады над Беларуссю як адных, так і другіх, было справай фактычна прадвызначанай. Тым больш што сапраўдных планаў немцаў адносна будучыні гэтых земляў ніхто тады дакладна не ведаў. Гэта цяпер план «Ост» і іншыя падобныя дакументы агульнавядомыя, а ў той час яны былі строга сакрэтныя і даступныя толькі найвышэйшаму кіраўніцтву Трэцяга Райха, дый распрацоўваліся і ўдакладняліся фактычна толькі ў ходзе самой вайны. Рашэнне ж пра супрацоўніцтва з немцамі ці адмову ад яго трэба было прымаць неадкладна, адразу пасля таго, як нямецкая акупацыя Беларусі стала рэальнасцю. У адваротным выпадку новую палітычную сітуацыю неадкладна скарысталі б іншыя чыннікі, як гэта зрабілі, напрыклад, у заходнебеларускім рэгіёне палякі, што стала адной з прычын дастаткова вострага (хоць нават і блізка не параўнальнага з украінска-польскім) беларуска-польскага канфлікту. Сапраўдная тагачасная трагедыя беларускага руху — што выбіраць даводзілася толькі з кепскіх варыянтаў. І зусім не выбіраць таксама было немагчыма. Зрабіўшы ж выбар, па шэрагу прычын было ўжо цяжка яго змяніць.

Вельмі трапна адносна тагачаснай беларускай дылемы выказаўся на старонках свайго асабістага дзённіка вядомы дзеяч краёвай арыентацыі Міхал Ромэр, які падчас Другой сусветнай вайны жыў у Вільні. 29 лістапада 1942 г. ён запісаў: «Сітуацыя беларускага нацыянальнага руху — сапраўды цяжкая. Беларусы трымаюцца немцаў, бо не маюць ніякага выбару, і хоць ведаюць, што немцы карыстаюцца імі для змагання з палякамі і польскасцю, а патэнцыйна і згодна з прынцыпам «divide et impera!», падзяляючы і супрацьпастаўляючы адных другім беларусаў, літоўцаў і палякаў, а ў выпадку выйгранай вайны Германія Беларусь патрактуе так, як гэта будзе выгадна немцам і не дбаючы пра беларускую справу, аднак у гэты момант Германія для іх — адзіны чыннік, які дае ім магчымасць хоць для якой грамадскай нацыянальнай працы ў іх краіне, а асабліва адукацыі».

Працяг на старонцы 22.



**Ёрш сцвярджае, што гэта таксама Вітушка. Знайшоўся яшчэ адзін здымак з той жа серыі, датаваны 1.5.44, зроблены нібыта ў Гарадзеі.**

дакументы і кожнаму падабраць сабе мянушку.

28 чалавек адабралі нас. Міхась Вітушка ў нас быў камандзірам, гэта новы чалавек. Ён кіраваў нашай групаю, ён з Нясвіжа. Адзін ён прыехаў, адкуль прыехаў — не ведаю. Ён маёрам быў. Прыехаў у скуранцы такой і разам з намі ў самалёт сеў».

**Сямён Шарэцкі. «Іх лёсы звязаныя з Вільняй».**

### Багдановіч

З пратакола допыту (31 кастрычніка 1949 г.) Г.Б.Багдановіча, год нараджэння 1913, ураджэнец г. Вільні, беларус, з мяшчан, адукацыя вышэйшая, доктар.

**«Пытанне: Як вы выконвалі атрыманае ў выведшколе заданне?**

**Адказ:** Скід нашай групы з самалёта адбыўся ў дрэнных метумовах, з вялікай вышыні і не ў той мясцовасці, дзе меркавалася, у выніку члены групы не змаглі сабрацца ва ўмоўленым месцы. Я асабіста пасля прызямлення сустрэўся з Вітушкам, радысткай Чэрамшагінай, Грыгарцэвічам і Шунько.

Пасля безвыніковых пошукаў другіх членаў групы на наступны дзень, 18 кастрычніка 1944 г., мы з дапамогай аднаго хутаранца даведаліся, што знаходзімся каля станцыі Салечнікі, г. зн. за 120 кіламетраў ад месца, дзе нас павінны былі скінуць.

Адначасова з гэтым мы вызначылі, што мясцовасць, дзе мы прызямліліся, кантралявалася савецкімі войскамі, пасля чаго вырашылі перабрацца ў Рудніцкую пушчу. Там 3 снежня 1944 г. мы былі затрыманы групай Арміі Краёвай, якую ўзначальваў «Комар». Вымушаны былі дзейнічаць па загадзе кіраўнікоў АК і выконваць іх указанні.

**Пытанне: Як да вас адносіліся кіраўнікі акаўскага антысавецкага падполля?**

**Адказ:** Пасля нашага затрымання кіраўнік «Комара» паведаміў пра нас камандаванню Віленскай акругі АК, пасля чаго ў снежні 1944 г. да «Комара» прыбыў камандзір акругі «Корвель», якому Вітушка падрабязна расказаў пра нашы мэты. Пасля гэтага па загадзе «Корвеля» мы былі залічаны ў банду «Комара», у яе складзе знаходзіліся да лютага 1945 г. 7 студзеня Вітушка быў забіты ў час баявога сутыкнення з савецкімі войскамі ў раёне возера Кернава. Потым мы былі перададзены ў другі атрад АК — пад камандаваннем «Мыслівага».

**Пытанне: Якую варожую дзейнасць вы праводзілі ў складзе польскага антысавецкага падполля?**

**Адказ:** У час майго знаходжання ў групе «Комара» яе ўдзельнікі правялі шэраг тэрарыстычных актаў супраць партыйна-савецкага актыву і ваеннаслужачых Савецкай Арміі, з якіх я памятаю наступныя: у снежні 1944 г. у Тургельскім раёне былі забіты старшыня сельсавета Васілеўскі, яго жонка і 14-гадовая дачка, у тым жа месяцы быў забіты адзін савецкі актывіст у вёсцы Руднікі».

**Яўген Сямашка. «Армія Краёва на Беларусі»**

### Зарэчны

«Адносна Міхася В. Даведаліся не шмат. Ён апошні раз быў у Лодзі ў пачатку 1947 года. Па-за тым, ніякіх прыкметаў жыцця. Што з ім сталася? Дзе ён? — Жыве, загінуў, змагаецца ці здаўся? — Нічога ніхто не ведае!»

**Ліст Людвіка Зарэчнага да Дзмітрыя Касмовіча ад 14.11.1952. (hardzin.livejournal.com/4027.html)**

### Вайтовіч

«Вайтовіч трымаўся насцярожана і, мусіць, не выключаў чарговай правакацыі з боку органаў дзяржбяспекі. Распружыла гэтую насцярожанасць фотакартка Вітушкі, якую я выпадкова захапіў з сабою й цяпер паказаў спадару Андрэю».

**С. Ёрш. «Вяртанне БНП».**

**— А тады ў Дальвіцы вы Вітушку сустракалі?**

— Вітушка, здаецца, быў у Дальвіцы, але я яго асабіста не бачыў. Можа, толькі тады, калі яны ўжо вызначылі, хто будзе адлятаць, пастроілі».

**С. Ёрш. «Дэсант у няпэўнасць».**

Калі сцверджанне, што Вайтовіч пазнаў на фотаздымку чалавека, якога бачыў у Дальвіцы ў верасні 1944 года (дэсант з удзелам Вайтовіча адбыўся ў ноч з 16 на 17 верасня 1944 года), праўдзівае, гэта можа сведчыць аб тым, што ў гэты час у Дальвіцы знаходзіўся Міхал Вітушка, якога бачылі і іншыя курсанты, у тым ліку ўдзельнікі дэсанта 17 лістапада 1944 года, што сведчыць аб беспадстаўнасці гіпотэзы С. Ярша і С. Горбіка аб «аперацыі прыкрыцця» і існаванні «Мікалая Вітушкі». Вялікія сумневы выклікае таксама катэгарычная неабходнасць выкарыстоўваць для «аперацыі прыкрыцця» асобы з ідэнтычным прозвішчам.

Вядомыя таксама здымкі Вітушкі з братам Аляксандрам (даваенны) у форме без знакаў адрознення (верагодна, даваенны, з асабістай справы ў архіве КДБ РБ), у форме дапаможнай паліцыі (1941–1943) і ў зімняй вопратцы (здымак з серыі, датаваны 1.5.44, зроблены ў Гарадзеі). Выяўленую на двух першых здымках асобу можна з упэўненасцю ідэнтыфікаваць як Вітушку, паходжанне двух апошніх здымкаў і ідэнтыфікацыя выяўленай на іх асобы выклікаюць сумневы.

**Антон Рудак**

# Пра герояў і пакутнікаў

Працяг са старонкі 21.

У той жа час разумець матывы, спачуваць ды бараніць ад беспадстаўнай дэманізацыі — гэта адно, а вось гераізаваць ды ўзносіць на п'едэстал — зусім іншае. Так, беларускія дзеячы на самай справе не мелі ў часы Другой сусветнай вайны добрага выбару, але ў выніку аказалася гэтак, што частка іх абаперлася, хоць і вымушана, акурат на той бок, які ўрэшце пацярпеў ваенную і гістарычную паразу і быў цалкам заслужана асуджаны ды пастаўлены па-за законам (тое, што пераможны сталінскі рэжым па сукупнасці сваіх «заслуг» аніяк не менш быў варты міжнароднага трыбуналу, чым гітлераўскі, справы ў дадзеным выпадку не мяняе). І таму перыяд нямецкай акупацыі зусім не ёсць для беларускага нацыянальнага руху нейкім слаўным, гераічным часам. Бо ўсе тыя несумненныя дасягненні ў культурна-адукацыйнай сферы, якіх удалося ў той перыяд дасягнуць, былі ў выніку дашчэнту растаптаныя каваным ботам новага таталітарнага рэжыму, які гэтым разам усталяваўся на нашых землях надоўга. Выгадаваныя за час вайны нацыянальныя кадры паехалі хто на паўночныя лесапавалы, хто ў заходнюю эміграцыю, у найгоршым выпадку ўвогуле развіталіся з жыццём. Так ці інакш, яны на доўгія гады страцілі рэальны ўплыў на сітуацыю ў Беларусі. Галоўнае ж — на рэпутацыі ўсяго руху засталася пляма, дадаткова яшчэ замацаваная савецкімі прапагандыстамі за час дзесяцігоддзяў манаполіі ў інфармацыйнай сферы. І гэты козыр быў неаднаразова выкарыстаны ягонымі ворагамі раней ды працягвае не без поспеху выкарыстоўвацца і сёння. Дэманстратыўнае ж ушанаванне беларускіх дзеячаў, якія нічым іншым у сваёй біяграфіі сур'ёзна не адзначыліся, акрамя толькі службы ва ўзброеных фармаваннях пад нямецкім кантролем у гады Другой сусветнай вайны, толькі надае гэтаму козыру дадатковую моц.



SECRET

Enclosure A - Liaison Mission to Byelorussian Partisans

1. Through the medium of Nicola Abramtchik, OO was put in touch with Colonel (General) Franciszk Kushal (Kuschal); a Byelorussian of 55 years of age who since World War II has been living in Munich, Germany.

2. During his residence in Munich, Kushal was in contact with Captain Soltis (Zoltis?) of CIC, Regensburg, through two Ukrainian intermediaries by the names of Samultin and Major Zvoritchuk. = WARYCZUK

3. In May 1948, Kushal dispatched two young Byelorussian patriots to their homeland to establish contact with local partisan groups and to bring back a member of the partisan organization. This mission was initiated with the knowledge of CIC to establish continued liaison between the partisans and Kushal.

4. The two following men were dispatched:

A. (Fnu) Monitch (Monic), who used the cover names of Matsievski and Duda for the purposes of his mission. Monitch was born in Lubcha (Lubcz) near Novo Grodek in Byelorussia. He is about 27 years of age. He was educated in a DP gymnasium for Byelorussians at Michelsdorf near Regensburg.

B. (Fnu) Kananovitch, who used the cover name of Yankovski for purposes of his mission. He is about 27 and was born and raised near Baranovicze.

5. Monitch and Kananovitch did not know each other. After accepting the undertaking of this mission, both left as Polish repatriates and were sent first of all to the Repatriation Camp at Lauf, near Nuernberg. Limited financial aid was extended to them by Kushal.

6. Nothing was heard from Kananovitch until March 1950, at which time Kushal received a letter from him, postmarked Gdansk (Danzig). In this letter Kananovitch stated that he was returning "home". Inasmuch as Kananovitch has not returned to Munich, Kushal assumes he has gone to Byelorussia for continuance of his mission.

7. Monitch returned to Western Germany in December 1949 and gave an account of his trip to Kushal, of which the following is a resume:

Зрэшты, ёсць і яшчэ адзін немалаважны фактар. Нацыянальны пантэон — ён усё ж мусіць быць агульным для ўсёй нацыі, а не толькі для асобнай яе часткі. А ў народнай гістарычнай памяці стаўленне да «паліцаяў» выразна негатыўнае. Знаёмства з успамінамі старэйшых людзей, якія асабіста перажылі вайну, дазваляе нам перагледзець лакіраваны прапагандысцкі вобраз савецкіх партызанаў, але вобраз паліцыянтаў, паводле тых жа ўспамінаў, прынцыпова ў параўнанні з афіцыйнай версіяй не мяняецца. Што і не дзіўна, калі ўлічыць, што ў арганізаваную немцамі паліцыю, як пісаў Сяргей Ёрш у адной са сваіх публікацый, «пайшло шмат крымінальнікаў, п'яніц, былых савецкіх вайскоўцаў, супрацоўнікаў НКВД, пакінутых бальшавікамі адмыслова для дыверсійна-разведвальнай дзейнасці». Факт застаецца фактам: добрай памяці пра сябе сярод насельніцтва паліцыянты ваеннага часу не пакінулі.

А што ж тады з героямі? Калі мы адмовімся ад гераізацыі здыскрэдытаваных вайсковых дзеячаў часоў Другой сусветнай вайны, то з чым застанемся? Каго будзем ушаноўваць, кім ганарыцца? Ды шмат каго і шмат кім. Так, вышэйзгаданы Міхал Ромэр з захапленнем і адначасова са смуткам ды спагадай напісаў пасля наведвання аднаго беларускага культурнага мерапрыемства ў сакавіку 1943 г.:«Беларускі рух, які развіваецца ў нечувана цяжкіх палітычных умовах і перспектывах[...], пастаянна расколваецца, ламаецца, душыцца ў асобах найлепшых і найрупплівейшых сваіх дзеячаў, топчацца Саветамі і, на жаль, таксама Польшчай — аднак пастаянна адраджаецца і пры кожнай магчымасці, калі толькі ўмовы стануць хоць трошкі спрыяльнейшымі, зноў выплывае на паверхню і з кожным разам паглыбляецца і пашыраецца ў сваёй масавасці. Гэты рух — пакутніцкі. Амаль усе дзеячы, усе правадыры паўміралі маладымі, і амаль кожны тым ці іншым чынам замучаны...»

Кожны з тых, хто хоць крыху знаёмы з гісторыяй беларускага нацыянальнага руху, ведае, што сказанае — чыстая праўда. І менавіта такая жывучасць ды невынішчальнасць нашага руху — тое, чым мы маем поўнае права ганарыцца. Дый сапраўдных нацыянальных герояў можна знайсці аж з лішкам сярод тых самаахвярных асветнікаў і будзіцеляў, дзякуючы дзейнасці якіх беларусы здолелі прайсці праз усе выпрабаванні нялюдскага для нашага рэгіёна XX стагоддзя, не «расплыўшыся імглой між чужых». Вядома, актыўны, ні ад каго не залежны вайсковы супраціў пад нацыянальнымі сцягамі выглядае куды больш эфектна. Але такі ўжо наш гістарычны лёс — амаль што яго не мець. Лёс гэты, як і бацькоў, не выбіраюць. І лепш ужо хай будзе ў аснове нашай гістарычнай памяці сціпленькі і малапрыкметны, але рэальны ды трывалы падмурак, чым вялікая і прыгожая мыльная бурбалка, якая рана ці позна, але непазбежна лопне, пакінуўшы пасля сябе пустыню.

**Гісторык Андрэй Катлярчук апублікаваў**

у сябе ў фэйсбуку дакументы з рассакрэчаных архіваў амерыканскага ЦРУ, дзе ўзгадваецца Міхал Вітушка. Яны пацвярджаюць меркаванне, што савецкае МГБ «уваскрасіла» Вітушку для вядзення аператыўнай гульні з заходнімі спецслужбамі. Катлярчук толькі не ўзгадвае, што гульня ішла цалкам пад кантролем яшчэ і таму, што на другім канцы ўсю інфармацыю пра «беларускія аперацыі» ў Маскву перадаваў Кім Філбі, які быў сувязным паміж ЦРУ і Мі-6 па гэтых аперацыях.

Вось як каментуе Катлярчук.

«Зараз пройдземся па імёнах тых, каго спаткаў Моніч у БССР.

Пад «маёрам Калька» хіба ўзгадваецца былы лейтэнант 13 батальёна СД, кат Калдычэўскага лагера Мікалай Калька. Але Калька быў захоплены Смершам яшчэ ў 1944 г. пад Баранавічамі.

«Доктар Багдановіч» — гэта відавочна Глеб Багдановіч, сын сенатара РП Вячаслава Багдановіча. Ад 1944 г. мілітарны лекар БКА, потым батальёна «Дальвіц». Беларускія крыніцы паведамляюць, што ён схаваўся ў Польшчы, дзе з 1945 г. служыў вайсковым лекарам. 14.4.1949 арыштаваны польскай Службай бяспекі і дэпартаваны ў СССР. Паўстае пытанне: як вайсковы лекар польскай арміі мог сустракацца з Монічам у БССР у ролі партызанскага доктара? Адказ: арыштаваны Багдановіч выкарыстоўваўся ў гульнях МГБ.

Хто такі «Сакха», дакладна невядома. Сяргей Ёрш лічыць, што гэта быў Юры Носаль, і Кушаль памыляўся, прымаючы яго за Луцэвіча. Але ў справаздачы Кушаль спасылаецца на Моніча, які пазнаў у «Сакху» лейтэнанта Луцкевіча (праз «к»). На маю думку, Монічу паказалі сына Антона Луцкевіча, лейтэнанта БКА і «Дальвіца» Юрыя Луцкевіча, арыштаванага МГБ яшчэ ў 1945 г. Падсумоўваючы: версія беларускага КГБ мае рацыю. Вітушка быў забіты ў 1945 г.

Арыштаваныя камбатанты гулялі па сцэнарыі МГБ. У выніку CIA заслала ў пастку МГБ як мінімум дзве групы дыверсантаў, рэкрутаваных Францішкам Кушалем і Барысом Рагулем з беларускай моладзі на Захадзе.

Праграма AEQUOR/FI была закрыта CIA ў 1956 г. пасля выкрывальніцкага артыкула ў «Правде».

# Іра, першае каханне

Апавяданне. Піша **Святлана Курс**.

Весніцы, нагрэтыя сонцам, былі са старога ззелянелага дрэва. Па штыкецінах беглі расколіны, у якіх ад Іры хаваліся мурашы. Іра падносіла да жамярыны палец, і чорны мураш ратаваўся у расколіне, роспачна торгаючы ножкамі і вусікамі. Мурашы нагадвалі снежную бабу: тры круглыя камы, пасаджаныя адзін на адзін, ручкі з чорных пруткоў. Іра наблізіла да штыкеціны твар і стала ўзірацца ў глыбокую расколіну, куды зашыўся мураш.

— Схаваўся, дык жыві! — сказала Іра. Ёй падабалася, што мураш цяпер у бяспецы, сядзіць, нябось, і моліцца, што вялізная Іра яго не раздушыла. Аднойчы яна такога мураша раздушыла, згарнула ў чорную качулку і адчула злосную радасць. Бо ўсе яны — вераб'і, сабакі, мурашы, жукі, куры і каты — маглі вольна лазіць дзе хацелі, і толькі Іры шлях быў закрыты, дакладней завязаны. Дарослыя завязвалі весніцы чым папала — пасам, сабачым ланцугом, лейцамі, дротам, вінаграднай папоўзінай, абы Іра не лезла на вуліцу. Заставаўся нудны двор з пясочніцаю, дзе будавала домікі з пяску суседская Таня, паслухмянае дзяўчо, якому ўсё было добра, абы не ісці дадому. Таня рабіла цэлыя паселішчы, і ўсе домікі ў яе былі аднолькавыя: спачатку яна насыпала пяску на босую нагу, утрамбоўвала, а потым нагу даставала. Выходзіла горка з пячоркай. Калі пячорку пашырыць, унутры атрымліваўся сімпатычны круглы пакой, які засціласўся фанцікамі і абстаўляўся чым пад руку ўлезла. З пясчаных валоў рабіліся платы, за імі саджаліся сады і гароды. Асабліва добра выглядалі яблыні з беспялёсткавых круглых рамонкаў. Іра любіла разбегчыся і рыбкай кінуцца на Танін гарадсад. Тая ціха плакала, абціраючы твар мурзатымі лапкамі, бацька і маці крычалі не на Іру, а адно на аднаго, непрыхільна пераходзячы на «вы».

— Што за дзіця! Абы напаскудзіць!

— Гэта яна ў вашу пароду, вам абы пабурыць, царкву самі сабе спалілі!

— Ага! Царкву! А вы дзікуны, мы як ехалі сватацца, дык вашы паязд сустрэлі ў галёшах на босу нагу.

— Гэта не мы! Не мы гэта! А старая Матросіха! А ў вашай вёсцы ва ўсіх вушы вялікія! І ўсе галамоўзы, ніводнага гаспадара няма. І вы такі самы!

— Я такі самы?!

Іра любіла сваркі, якія бушавалі над яе галавой, нібыта навальніца. Можна было пачуць шмат цікавага, бо дарослыя думалі, што яна нічога не разумее.

Аднак і спрэчкі таксама хутка знуджваліся. Іры хацелася на вуліцу, туды, дзе вялізнымі лапамі варушылі дрэвы, дзе блішчэла копанка, ездзілі вазы, машыны і страшныя трактары-з-зубамі, што везлі ў скіўцах сена. Неяк Іра зашчаміла галаву паміж штыкецінамі, падрала шчокі і вушы і плакала, пакуль бацька не вызваліў.

Гэтым разам Іра ўзлезла на ніжнюю перакладзіну весніц і, учапіўшыся за верхнюю, расхітвала палачкаю завязку.

— Мама! Вы калітку завязалі? Іра на вуліцу лезе!

— На два паўрозікі! І не на банцік, а на вузел!

— Глядзіце, той жа раз развязала!

— Вось жа, глядзі, шнуркоў сабе не завяжа, а на шкоду дык усё расцярэбіць. Абы на шкоду, абы на злосць. Але не, галубка, непарэліўкі табе, сёння я добра заціснула.

— Ну то я на работу агародамі, а вы тут цікуйце, каб на вуліцу не вылезла. Зноў бугай сарваўся, па вуліцах бегае, ніхто нідзе носу не праткне. Мо застрэляць яго, госпадухна божухна дай.

— Добра.

## Іры неяк адразу стала ясна, што бык яе раздушыць, як мураша

Іра зласліва пасміхнулася. Завязваць яна сапраўды не ўмела. А вось развязваць — за мілую душу. Калі ўсунуць у вузел палачку і пахітаць ёю туды-сюды, вузел таксама хітаецца і робіцца слабкі, і тады трэба толькі расцягнуць канцы ўбакі. Так жа сама можна матляць весніцамі, каб лейцы павіслі, а весніцы адсунуліся, пакідаючы на пяску веерны след. Тады пралезці і бегчы наперад, у канец вуліцы, куды вялі слупы, нізка лёталі свойскія гусі, а за гэтым усім віднелася бясконцая прастора. Таня казала, калі ісці ад слупа да слупа, можна прыйсці ў Мінск. Аднак сёння Іра не збіралася ў Мінск. Была больш важная справа — перастрэць чорнага бугая.

Іра бегла найхутчэй, як магла. Сонца ляцела збоку плямамі і стрэламі, кучаравая трава забівалася ў сандалі, і хаця Іра гэтага страшна не любіла, спыняцца нельга было: бабка спахопіцца. Іра ж цэлую вечнасць чакала, калі сарвецца бугай.

Упершыню ён сарваўся ў яе першы май. Да таго Іра была малое дуроцце, зіма ёй злівалася ў чорнае і белае — плот-снег-плот, а зверху — верабей, вясна пускала зеленаваты дым, усё няясна. А тады настаў май, з дрэваў сыпалі кветкі, лісты былі як пялёсткі, над галавой ляталі цяжкія жукі. Іра стаяла ў двары перад завязанай брамкаю, а бугай лятаў наўскапыт па вуліцах, за ім на конях скакалі пастухі з лейцамі, а за пастухамі курэў шаруткі пыл. Ух была і мітусня, ну й крык стаяў! Бугай даваў кругаля па вёсцы, і Іра чакала, калі ён зноў прабяжыць па іхнай вуліцы з глухім нутраным стогнам, вялізны, чорны і магутны. І раптам ён, як урыты, стаў пад іх весніцамі і адсопваўся, сочачы за Ірай вылупленым сваім чорна-чырвоным вокам, а потым прыклаў пысу да плота, і сліні беглі ў пыл. Іра адчула, што ён яе бачыць. Ніхто не бачыў Іры, а вось бугай бачыў. Іра прасунула руку між штыкецін і дакранулася да гарачай грубай поўсці, на якой праблісками ляжала сонца, спаймала халаднаватую нітку сліняў, сунула палец у храпу. Бугай застагнаў і зноў пабег па вуліцы, а Іра з тых часоў затаілася і чакала, каб выйсці да яго, відушчага, вялізнага.

Вуліца змянялася, травы рабілася ўсё менш, пылу ўсё болей, і Іра скрывілася, бачачы, што і новыя гольфы ўсе ў пыле. Спыніўшыся, яна павырывала траву з сандаляў і абтрэсла гольфы. А як выпрасталася, убачыла: да яе ідзе пылавая хмара. Гэта было так цудоўна, што яна толькі стаяла і глядзела, як падступае віхура. Бліжэй стала бачна, што ў цэнтры хмары скача ён, вялізны чорны бык, глуха стогнучы страшным сваім нутром. Магутныя ногі з вялікімі, як чыгуны, капытамі бухалі ў зямлю. Бык набліжаўся марудна, нібыта плывучы над зямлёй.

— Ааааа! — закрычала ззаду бабка, і Іры неяк адразу стала ясна, што бык яе раздушыць, як мураша. Аднак унутры выбухнуў не страх, а радасць, бо Іра вельмі любіла і чакала вялікага чорнага бугая, а цікавейшага за яго на свеце нічога і быць не магло.

— Аааааааааа! — зноў пачуўся роспачны крык, а бугай спыніўся, угнуў галаву і пярэдняю нагою стаў капыціць зямлю.

Іра выцягнула да яго рукі і паклікала: «Быця, быця». Бык ірвануў да яе, адначасна нешта з пошчакам бухнула ззаду, а Іра снапом паваліласся ў пыл.

* * *

— Падучка ў дзіцяці, то прахопіцца, то ляжыць, вочы закаціўшы.

— Ну не дзіва ж, з такога страху. Каб не Дарошка стары, стаптаў бы яе бугай. У самае вока пацэліў.

— А да доктара не вазілі?

— Не яшчэ. Пятроўна кажа паказаць ёй бугаёву галаву, дык ачуняе. Убачыць, што няма таго быка, усё!

Іра мацней сціснула павекі, у галаве запякло яшчэ болей, а па скронях за вушы пабеглі гарачыя слёзы.

— Плача, гляньце, мамо, плача!

— Ірачка, дзетка, не бойся, быці ўжо няма! Глянь, дзетка, няма быці. Ото галоўка стаіць!

Іра расплюшчыла вочы, яе падхапілі, узнялі, і звысоку яна ўбачыла, што на лаве — цэбрык, а ў цэбрыку стаіць галава яе чорнага бугая з запечанай на адным баку крывёй.

Пяюць-пяюць і кажуць-кажуць,
Пяюць-пяюць і кажуць-кажуць.
А ты нікога не слухай.

*2016*

*Любань—Варшава*



**Святлана Курс (Ева Вежнавец)**

журналістка і пісьменніца. Сталая аўтарка «Нашай Нівы». У 2008 выдала кнігу прозы «Шлях дробнай сволачы». Жыве ў Варшаве, працуе журналісткай на Еўрапейскім радыё для Беларусі.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**3 снежня ў Вільні прайшла прэзентацыя новага альбома «Псіхасаматыка» культавага рок-музыкі Лявона Вольскага. Канцэрт атрымаўся ўнікальны, па словах шматлікіх фанатаў. Лявон шмат размаўляў з публікай і выкладаўся на ўсе сто. На песнях «Спявайце», «Скончылася шоу» спявак паставіў гітару, узяў у рукі мікрафон і пачаў танцаваць разам са сваімі фанамі.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Чатыры сям'і ў невялікім мястэчку Друя на самай поўначы Беларусі трымаюць у сваёй хатняй гаспадарцы кароў. Увесь сезон каровы пасвяцца на вялікім востраве проста пасярод Дзвіны. Адзін бераг ракі — беларускі, а другі — ужо на тэрыторыі Латвіі і Еўрапейскага саюза. Два разы на дзень жыхары Друі пераплываюць на чоўнах раку, каб падаіць на востраве кароў. Гэты інтымны працэс здабычы малака адбываецца там ужо некалькі стагоддзяў. Кароў пераганяюць на востраў кожную вясну, а забіраюць назад позняй восенню. Цалкам рэпартаж Сяргея Гудзіліна глядзіце на nn.by.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Пачаўся працэс па гучнай справе «ашмянскіх мытнікаў»: судзяць у тым ліку вядомага краязнаўца з Варнян Алеся Юркойця. Іх абвінавачваюць у хабары. Тыя, хто пайшоў на супрацоўніцтва са следствам, знаходзяцца пад хатнім арыштам, тыя, хто не, — у зняволенні. Алесь Юркойць цалкам не прызнаў сваёй віны. На працэсе вылазіць шмат нестыковак з папярэднім следствам.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Модны пісьменнік Альгерд Бахарэвіч усяго на адзін вечар адрадзіў свой гурт 90-х «Правакацыя». Канцэрт у «Графіці» прайшоў з поспехам.**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**У мінскім метро можна было пабачыць дзяўчыну ў дзіўнай шапцы ў выглядзе птушкі. Пасажыры ўсміхаліся і фатаграфавалі незвычайны галаўны ўбор. Аказалася, што спадарыня ехала на ўніверсітэцкі капуснік.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Кот сапраўднага футбаліста ніколі не спіць клубком.

* * *

— Раскажыце коратка, што было на бацькоўскім сходзе?

— Калі коратка, то з вас 500 тысяч старымі рублямі.

* * *

Даць на чай доктару — хабар, даць на чай афіцыянту — добры тон.

Першы выратаваў жыццё, другі — прынёс каву.

* * *

Шахматыст прыйшоў першы раз у трэнажорную залу на трэніроўку. Трэнер пытаецца:

— А чаму ў пінжаку, штанах і кашулі з гальштукам?

— Вы ж самі сказалі прыйсці ў спартыўным касцюме.

* * *

У якой руцэ паводле этыкету трэба трымаць відэлец, калі ў правай руцэ я трымаю катлету?

* * *

Авечкі ніколі не аб'ядноўваюцца супраць драпежніка.

Яны проста радуюцца, што напалі не на іх.

* * *

— Ці праўда, што ў Расіі могуць забараніць Youtube?

— У Расіі могуць усё: гэта свабодная краіна, тут няма ніякіх абмежаванняў!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Са Слуцкага павета.** Пад восень у мястэчка Раманава прыходзіў нейкі сацыяліст. Як толькі людзі пачалі варочацца з царквы дадому, ён узлез на нейкі слончык і пачаў гаварыць пра ўсіх крыўдзіцеляў працуючага народу. Мужыкі ўпадабалі і ахвотна бралі ад яго нейкія пісульі (пракламацыі). Сабралося ўсё мястэчка.Ураднік, шпаркі гэтакі, хацеў адразу арыштаваць сацыяліста, але не, мужыкі не далі. І яшчэ, кажуць, за каўнер ураднiку наклалі.

**«НН». №5. 1906.**

**Імклівая перамога гарадзенскіх каталікоў.** У Горадні на шостыя суткі спынілася галадоўка-пост пробашча і вернiц парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці міласэрнасці. Пасля таго, як галадоўнікаў падтрымаў біскуп Кашкевіч, старшыня аблвыканкама спешна падпісаў дазвол на будаўніцтва касцёла, з якім марудзіў дзесяць гадоў.

**«НН». №45. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 30 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.12.2016.

Замова №4804.

Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 16030